Валянціна Коўтун

# Лісты да цябе

Вершы, паэмы



МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА »
1988

ББК84Бел7
К73

Лауреат Литературной премии имени Аркадия Кулешова поэтесса Валентина Ковтун включила в эту книгу лучшие стихи и поэмы из ранее изданных книг. Ее лирика, пронизанная светом высоких душевных порывов, обращенная к самым тонким интимным чувствам, притягивает стремлением осмыслить необычные драматические судьбы известных поэтов-бунтарей разных эпох: Байрона, Тётки, Купалы. С помощью богатой символики и метафоричности поэтессе удается направить внимание читателей на острые проблемы современности.

**ISBN 5-340-00131-8**

## EX LIBRIS

Спяшай, жыццё!
Кідай пад ногі церне.
Няхай ляцяць трывогі з гнёздаў дня.
Шукаю паміж слоў дрыготкіх зерне,
З якога прарастае цішыня.
Кідаю думкі спелыя ў разводдзе.
Спакой не суцяшае, як заўжды.
З дзвярэй усіх разбуджаных
стагоддзяў
Майго парода выйшлі ў свет гады.

Усіх часоў я восень сёння ўспомню,
Гарачую і белую, як скронь.
Нясуць гады лістоту у далонях
І пакідаюць паміж дрэў агонь.
І так гартуюць звонкае карэнне,
Заземленае ў роднай старане...
Шапне зямля:
— Між слоў шукайце зерне,
Каб вырасціць дабро.
Так трэба мне!

*1965*

## ЛІСЦЕ

Вясною ранняй з ціхім смехам
Расце святло ў душы маёй.
Абноўленая, пасля снегу —
Вось так баліць зямля травой.
Вось так расце сцябло без крыку,
Дажджы шчыруюць ад відка.
А птушкі ўжо адчулі крылы,
І вецер хмары разагнаў...
Хацелася у словах выйсце
Знайсці, сказаць...
Ды спакваля
Трывожна з дрэў выходзіць лісце,
І радасна змаўкаю я.

*1965*

## ТРЫПЦІХ

### I. РУЧНІК З ПЕЎНЯМІ

Дзяды на досвітку ўставалі,
Твар выціралі ручніком,
А пеўні гімны дню спявалі,
Піў ранак туманы нагбом.

Быў ранак свежы, неастылы.
Ў вачах птушыных біўся крык,—
І ўпалі крылы,
ўпалі крылы
Гарачым пер'ем па ручнік.

Узор запомніўся з калыскі,
З вясною — пер'е заадно.
Ў руках бабуліных калісьці
Цвіло пад сонцам палатно.

Асірацелым птахам кружыць
Той успамін. Душа баліць.
Бяру ручнік,—
Ці можна кужаль
Слязой шчаслівай адбяліць?..

## II. ПЕСНЯ

Туман начлежыць ля сяла,
І ціхі ветах вокнам сніцца.
Бабуля песню пачала,—
Трывожна войкнулі масніцы.

Спеў узыходзіў з добрых дзён,
Дзе маладосць і шчасце блізка,
Дзе хата, светлая, як лён,
З буслiхай белай над калыскай.

Дзе над прыцішанай вадой
Схіліўся журавель цыбаты,
Дзе з птушанём малым гняздо
Дрыжыць пад самым сэрцам хаты.

## III. КРОСНЫ

У водмаладзь, назад у вёсны
Спяшаюся, як позні госць,
Рыпяць старэчай скрухай кросны,
Што мне саткалі маладосць.

Узор вяртаю з летуценняў,
Як сарамяжлівасць сваю,—
З гарачых сонцавых праменняў
Палоску ўзору аддаю.

Блакіт кідае непакорна
У другую нітку сінь сваю.
А трэцяя... Хай будзе чорнай,
З палын-травы яе саўю.

Знаёмы мне прышласць лета,
Хаўтурна-дзёрзкі шал вясны...
І напаследак, напаследак —
Тугая нітка сівізны...

*1966*

# ЛЕС

## Трыпціх

### I

Сцяною лес... Гусцее вецце...
І раптам — гэты,
                    з трэскам, гук,
Як быццам, папароўся вецер
Грудзьмі на самы востры сук.
І ўпаў у цень з глыбокай рапай...
А лес трывожна анямеў.
Напэўна, гінуць ад маланак
Найлепшыя з высокіх дрэў.

### II

Па добрай волі
                    з ціхім стогнам
Галінне ломіцца само
І долу падае. Слабога
Кагось хавае ад грамоў.
І мудрыя грыбы, напэўна,
Каменнямі ўраслі у мох...
Ударыў першы гром аб дрэва
І ўпаў на іх, як мёртвы воўк.

### III

Сцяною лес,
Гусцее голле,
Замерці, ўпасці б у траву...
І мы, малыя, ўчуўшы волю,
З далоняў выпусцім: «Агу!»
Як многа першых летуценняў
Сплыло з дажджамі ў тых лясах,
Калі ішлі па следзе цені,
Ішлі маланкі па слядах.
Грымоты падалі пагрозна...
Не за сябе, за нас, дзяцей,
Ўздымаліся да неба сосны,
Дрыготкія, як джалы змей.

*1966*

* * *

Жанчыны ткуць. Старыя рукі
Гадуюць з любасцю цяпло.
Жанчыны ткуць... А іх унукі
У снах праз лес ідуць даўно.
Стамілася, здаецца, лета.
Няма грыбоў — і не дажджыць...
На кроснах, хатаю сагрэта,
Праменне месяца ляжыць.
Узмах далоняў — поўня ўсходзіць.
А ўзор —
з травы,
з расы,
з галля...
Ну хто сказаў, што ў гэтым годзе
Не ўродзіць родная зямля?!.
Ну хто сказаў...
І ноччу, ўпотай,
Пакуль унукі ціха спяць,
У жанчын да раніцы — работа:
Грыбны, густы туман саткаць.

*1966*

## КАЗАЧНІЦА

У вёсцы то мяцеліцца, то вясніць,
То залаціцца каля плота ўкроп...
І травы чарадзейныя, і песні,
І — ўсё жыццё! — насіла баба горб.
Палола ўлетку высмяглыя травы,
Цягала дні ў прыполе, як траву.
І чорнай хусткай крыўды і пагарды
Яна ўкрывала моўчкі галаву.
Заляжа боль, і стане маці млосна,—
Адразу кліча бабу да сябе.
Здавалася, старая носіць зёлкі
У тым вялікім, як зямля, гарбе.
То пойдзе ў свет бясконцаю дарогай,
То адпачне на цвёрдым дзірване.

І хто з нас ведаў, што нясе нябога
Наш боль і голад на сваёй спіне.
Сялянскі стогн, і важкай працы ўтому,
І курганоў сівое забыццё,
І крыўды пашы, бы каменні грому,
Цягала баба ўсё сваё жыццё.
І толькі казкі цёплымі начамі.
Яна складала ў хвілі залатой.
Смяяліся у сне яны, крычалі...
Не казкі, дзеці...
Сніцца абы-што!
Было няўцям у радасным маленстве,
Што лёс імчаў за лекаркай, бы змей.
Ад нас, малых, было ў хаціне цесна:
— Расказвай, баба, не маўчы... далей...
І грознай пугай зноў Іванка ляскаў.
І балаціну чорт пануры гроб.
Мы ў свет выходзілі, нібы асілкі, з казкі,
І не баяліся, што ў казачніцы горб.

*1970*

## ПАЭЗІЯ

Бяссонне назаўсёды.
Як калісьці,
У сад прыйду да першага святла.
І буду зноў здзіўляцца,
што праз лісце
Я, нібы промень месяца, прайшла.

І ўсім святлом сваім, начным, азяблым,
Я асвятляю гэты дзіўны сад,
І яблык у маіх руках не яблык,
А толькі цень яго тугіх зярнят.

Ды песня, быццам сум па нейкім доме,
У засень за сабою павяла...
А хтосьці да мяне ўжо быў, як промень,
І не дажыў да дзённага святла.

*1972*

## ВЯСЕННЯЯ МЕЛОДЫЯ

Смуга кацілася на лавы,
Плыла вячэрняй гаманой.
Аркестрамі старой канавы
Абсягі трызнілі вясной.

Пасля зімовага зацішша
Вясна адгадвала сакрэт.
Цвілі цнатою белых вішань
Сады збядованых кабет.

І песня радасці і кветак
Ішла ў сяло праз вечары,
Дзе ў гурт спяшаліся кабеты
На перашэпты у двары.

Плыў у разводдзе згадак човен,
Ажно святлела уваччу.
А ў сне малы якісь «Бетховен»
Ужо мелодыю пачуў.

Жанкі адчайна маладзелі
Наўкруг калодзежа надзей.
А ў сне малы якісь «Растрэлі»
Аловак грэў каля грудзей.

Было і голадна, і цесна,
Ды ў светлы шлях сяло пайшло!
А ўсё —
жанчын стамлёных песня,
І ў свеце лепшай не было.

*1975*

## БАЛАДА ПАЛЕСКАЙ ПЕСНІ

Стагоддзя зааблочныя вароты
Маёй бабулі адчыняць пара.
Спявае ціха ці сумуе ўпотай —
Клубочкам сонца коціцца з двара.
А следам — памяць.

Залатое ззянне.
Яна — дзяўчынка
і бяжыць у бор.
Нібыта што шукае на світанні:
Давер які, які сунічны ўбор?!
Краіне нагой ледзь бачаную сцежку,
Што нас вядзе праз песню
і святло.
І вось ужо мелодыя,
бы ўсмешка.
І звонкім лісцем сэрца абняло.
Спявай, дзяўчо!
Будзі лясныя сховы!
Спрадвечны спеў сасонкай уваскрэс...
Сяло гудзе!
Для ўсіх кабет вясковых
Адна загадка:
Што ёй гэты лес?
Шукае што? Які там сум дзявочы?
Якія справы праз гушчар вядуць?
Скажы, што песня,—
засмяюць у вочы.
Скажы, што мроя,—
веры не дадуць.
Скажы: каханне,—
зганьбяць пры народзе...
— Дармо, жанкі!
Расце ў бары сасна,
Каля якой пры месячнай нагодзе
Скарб закапалі...
Знаю я адна!
Такое зразумеюць і паверацць,
Сачыць пачнуць:
а што, калі ды ёсць?!
...Рыпяць гады, нібы старыя дзверы.
Бабуля ўспамінае маладосць.
Яе пацешыць маладая згадка,
Зноў павядзе праз баравы пажар...
А нехта скажа:
— Глянь, пайшла вар'ятка.
І зарагоча:
— Зноў шукае скарб!

*1975*

## ЧОРНЫ БУСЕЛ

А чула я, што ў нас, на Беларусі,
У Белавежскай пушчы векавой,
Жыве, як чорны дэман, чорны бусел,
На свет глядзіць ён з немаю тугой.
Нібы пракляцце, лётае над намі,
Клякоча грозна, будзіць далягляд…
Ну а ў буслянцы, ў дзікай глухамані,
Гадуе бусел белых буслянят.
Ды ў буслянят чарнеюць з часам крылы,
Не бачаць птушкі добрага святла,
Маланкі іх ніколі не палілі,
І не выкідваў іх буран з гнязда.
І нават людзі, ўпартыя ад гневу,
Іх абмінаюць з думкаю адной:
Якое ж іх цяпер трымае дрэва,
Ці не з такою ж,
Чорнаю,
Карой?!

*1965*

## ЛЕТА

Рака маленства памяццю сагрэта,
Густой атавай плечы замяла.
Была рачулка хуткаплыннай Летай
Для ўсіх Гамераў нашага сяла.

О строма, набрынялая вякамі,
Сівее лозаў цёплае руно,—
Ты нашы вершы несла паплаўкамі
Ці брала, як каменьчыкі, на дно.

Дзе маладыя хвалі адгулялі,
Высокі поўдзень к берагу грабе.
Цябе, рачулка, пэўна, выпрамлялі,
І выпрамлялі не адну цябе.

Здавалася, што моры бурапеняць,
Л ў пас адно старыя невады.
У чужых чаўнах шукаючы натхнення,
Шукалі мы не там жывой вады.

І гэтак ціха, гэтак недарэчна
Надзеі цень гайдаецца вяслом.
З нас кожны ўрэшце прыйдзе на сустрэчу
Да той вясковай Леты за сялом.

Хапіла нам і праўды, і няверы.
Хапіла нам і радасці, і слёз...
І насары, вясковыя Гамеры,
Стагуюць песні
                                ў спелы сенакос.

*1975*

* * *

Увысь імчаць на ўзлёце дня
Грывастыя аблокаў коні.
А першых промняў мітусня —
Мурашкамі на падваконні.

Руплівых пчол віруе рой,
Шпакі спрачаюцца аб нечым.
Грукоча жылкаю тугой
На скронях у мяне сінеча.

Раса праб'е душу наскрозь,
Каб перад тым,
                                як сонцу ўзняцца,
Успомнілі пра горыч слёз,
Не развучыліся смяяцца.

*1974*

## ЧАРЭШНЯ

Маленькі двор, адкуль выходзяць пеша...
Квітнее памяць, як вішнёвы сад.
Ў майго суседа княжыла чарэшня,
Была адна,
адна на сорак хат.

Дзяўчынкі-хлопчыкі
пасляваеннай вёскі,-
Мы сябравалі з кожным вецярком.
І сніліся нам зоркі, і бярозкі,
Ды жмені ягад, нават з каптарком.

Мы думалі, малыя, аб прынадзе,
Сыходзіліся сцішана не раз
Да плота, за якім Барбос у садзе
З такой увагай пазіраў па нас.

Чарэшня вабіла, цвіла гарачым сцягам.
І мне здалося ў нечаканы міг:
Вось-вось дастаяў да салодкіх ягад
І стану шчаслівейшаю за ўсіх!

...Былі прыгоды розныя па часе.
І я забыла ўцеху сініх дзён.
Але ў трывожнай клопатнай кудасе
Мяне ударыў раптам гэты сон:

Маленькі двор, адкуль выходзяць пеша.
За плотам — сад.
Сябры кругом стаяць.
Так блізка — песня.
Спее, як чарэшня...
А мне ніяк да ягад не дастаць!

*1977*

Белы гром над маёй галавой,
Што ты ходзіш па цёмнаму небу?
Што ты хочаш ад спелага хлеба,
Белы гром над маёй галавой?

Белы дзень за маёю спіной!
Прыйдзе час нематы і знямогі,
Ды падыме праменні з дарогі
Белы дзень за маёю спіной.

Белы конь у трывозе маёй,—
Ты ляціш раніцою да сына.
Хто цябе асядлае ўспамінам,
Белы конь у трывозе маёй?!

Прывячаю вясеннім агнём
Кожны подых і кожнае слова...
І жыццё пачынаюць нанова
Белы дзень...
Белы конь...
Белы гром...

*1976*

## ЕЎДАКІІ ЛОСЬ

Зрываюць песні, як :s бяроз бяросту…
Палаюць вёсны. Крышацца сады.
Мы ўсе ідзём да той мяжы і ўзросту,
Калі сказаць нялёгка пра гады.
А я твой шлях кароткі бласлаўляю.
І хто там скажа, што паўторыць шлях?!
Не спіць,
Не гасне
І не памірае
Святло жанчыны ў стуленых вачах.
Плывуць крыжоў гарачыя абломкі,
Кіпіць трава на мове каранёў.
Бяссмерце — там…
А крок будзённы лёгкі!
Мы твой пагорак, пэўна, абмінём.
Але ў агні, у горкім азарэнні,
Калі рукой дастаць да адкрыцця,
Перацярпеўшы ўзлёты і падзенні,
Мы зразумеем сімвалы жыцця.
Сярод імхоў бетоннага прагрэсу,
Калі душа з тваёю на мяжы,—
Дай бог дажыць да ўзросту паэтэсы,
Дагі бог да паэтэсы нам дажыць!

*1979*

## ТОНЕЖ

*Веры Палтаран*

Тонеж, Тонеж…
Галінка весніц.
Бераг хрустае пад нагой.
Залатое сэрца Палесся
У гняздзечку тугім пад страхой.

Крылы ластавак пырснулі звонка.
Вуж засыкаў.
Птах закрычаў.

Прыхінае песню старонка
Да гарачага
да пляча.

За раку коней выпусці, Тонеж,
Маладыя гады вярні.
У глыбокіх вірах патонуць
Чарнатроны, аеры, ўюны.

Стылым ранкам рукаў туману
Зачапіўся, глянь, за лазу...
Беззаганна і беспадманна
У сэрцы песню тваю нясу.

Горла ластаўкі —
спеў твой, Тонеж...
Чарацінка прарэзала тхло...
Апускалі вёдры ў калодзеж,
А да дна не дастаў ніхто.

*1969*

* * *

У спелай хмары чуйная патрэба.
За каўнярок сасонкі хлыне дождж,
І бліскавіцы, падаючы з неба,
Заскачуць па іглiцы басанож.

Прыроды жарт:
Сухое дрэва ўпала,
Здавіла горла сцежачцы крутой.
На ёй слядоў пакінута нямала —
І новы дзень за новаю вярстой.

На пні старым гады лясоў распяты,
За навальніцай просіцца спакой.
І раніцы, сляпыя кацяняты,
Шукаюць зноў туману сырадой.

Ласкава промень па расе заценькаў.
Жыве птушыны галас навакол.
І хочацца карэньчыкам слабенькім
Тут зачапіцца за гарачы дол.

Ды стане хмарна,
сцішацца разлогі.
Пераднавальнічны сполах у галлі.
І ціша нараджае зноў трывогі
За лёс мае маленькае зямлі.

*1977*

* * *

Звіні, мой свет, надзей маіх зямля,
Ты дыхаеш азёрамі, лясамі.
Зялёнымі атуліць галасамі
Сасна надзей дарогу спакваля.

Дзе з гнёздаў сініх раніцы святло
Трапеча птушаняткам на узлёце,
Планету крыл світаннем заліло,
Планета песень спее ў адзіноце.

Лісток малы, як цень далёкіх сноў,
Страсае па шчаку расы ільдзінку,
І ты баішся, што наступіш зноў
На печы боль
ці на святла галінку.

*1977*

## ТРЫПЦІХ НАДЗЕІ

### I

Каб выказаць у зорны міг
Любоў, прызнанне ці пагарду,
Мы лушчым словы з першых кніг,
З друкарняў першых клічам праўду.

На шлях уздых зямлі бяром.
І ўзносіцца прадвеснем сіпім
Над венам, нібы над кастром,
Францішак грэшны, сын Скарынін.

'І ты ў надзеі пасняшай
Наслаць нашчадку дум пагоню,
Каб эптэлехія-душа
Крывёй прабілася з улоння.

«Потребно чести» ўсім было...
Кранутыя агнём пазнання,
Сваіх салодкіх, чыстых слоў
Шукалі мы на скрыжаваннях.

І пра адступніка багоў,
Хто разарваў няволі звенні,
З крыжа прамужнага свайго
Нам вечнасць прашаптала:
— Ленін...

*

Яго прасветлыя гады
Трапечуць гулка і гарача,
Як жылка на ілбе дзіцячым.
Святлом далёкіх зор пазначым
Яго брыва надлом круты,
Узлётны крок яго хады.

Калі прашылі бліскавіцы
Сяродню новых ста гадоў,—
Каля мінуўшчыны грудоў
Цень бухенвальдаў, плач удоў.
Каля крывавай касавіцы
І мыліцы... і мілавіцы...

Мы узмужнелі на вачах.
Мы перамогу неслі громам
У век, трывожна невядомы...
Ляцелі ў неба словы-бомы,
Упаў стазвонна зорны шлях
У заўтра нашага прасцяг.

**II**

Аглушаны зеніткай сноў,
Аціхне голас ветэрана.
Працуе тэлеграф кургана.
І не кранi бяроз бінтоў,
Бо памяць торгае, як рапа...

...Вуголлем коціцца вайна.
Ахвяру новую шукае,
Нам вусны жарам апякае,
А ўсё-ткі круціцца яна,
Зямліца, маці прасвятая.

Вясновы дзень — вякоў ганец.
Да Ільіча адна дарога.
Так доўга йшлі —
А слоў нямнога:
Берлін...
Дзевятае...
Канец!..
Шыццё...
Радзіма...
Перамога!..

*

Помніш,
друг твой па ўзятым пагорку
З самакруткай прылёг адпачыць.
Ды садзьмутая ўзрывам махорка
Сыпле зоркамі з неба ўначы.

Перадумана і перажыла.
Пераможана ў будняй хадзьбе.
Толькі друг твой, на фронце забіты,
Правярае на вернасць цябе.

Правярае цябе на бясстрашша,
На адкрытасць, на боль, на давер.
Помніш, разам ішлі ў рукапашнай...
(Ці лягчэйшая мужнасць цяпер?!)

Кіне раніца золкую зорку,
Ды туман выплывае з начы,
І здаецца, што хтось на пагорку
З самакруткай прылёг адпачыць...

III

На «асамблеі» нашых рэк
Віруе вечнае пытанне:
Якіх вытокаў чалавек
На самых новых скрыжаваннях?!

Святою вераю вякуй.
Трывожыць лёс вады і сушы,
Каб, выпрамляючы раку,
Не абмяліць залішне душы.

Плыві, рака майго святла,
Лячы патолю сілай праўды.
Ікары нашага сяла
Ляцяць да зорнай Іліяды.

Зямля з пазнанай вышыні,
Глядзі, блакітная такая...
Смуга лясоў і спеў крыніц
Людскія сэрцы акрыляе.

Той жар вазьмі ў вышыні, дзе
Прасцяг стагоддзя, дня, гадзіны
Касмічны тэлеграф кладзе
На жураўліны ключ
Радзімы.

*

У друкарні чырвонага лета
На лістоўкі нягасных падзей
Гнеў рабочага, слова паэта
Маладзенькі наборшчык кладзе.

Словы праўды людской з-пад абцасаў
З-пад ліхіх капытоў— да нябёс!
Песні новага грознага часу
Маладзенькі наборшчык прынёс.

На сенацкія плошчы пакліча
Голас вёсак тыфозных і ніў.
Дзекабрыстаў святыя аблічы
Маладзенькі наборшчык прысніў.

Па свайму неўміручаму праву
Для планеты дэкрэт акрылі.
Пасылае нам Леніна «Праўду»
Маладзенькі наборшчык зямлі.

Нас пакліча празрыстае заўтра,
Дзе касмічная траса лягла.
Усміхнецца зямным касманаўтам
Маладзенькі наборшчык святла.

...Я пайду пры сівым зарападзе...
Толькі зоркі — цяжэй ад слязін
Жыць няпроста па ленінскай праўдзе,
Маладзенькі наборшчык, мой сын.

*1977*

**ПЕСНЯ**

Радкоў лясная ўсхваляванасць,
Слоў распагоджаная даль.
Зноў растрывожаны світанак
Сваю расу траве аддаў.

Хусцінку выспелага лета
На голаў ціха апусці.
Што перадумана-апета,—
Не за плячыма — у жыцці.

І постаць светлая Радзімы,
Мой новы дзень на скразняку,—
Усё стаіць перад вачыма,
Падпёршы кулаком шчаку.

*1975*

## АРАБІНЫ

Прабіта восень градам арабін.
Адкуль у ягад выспеленых смага?
Трапеча залатым, гарачым сцягам
Над пожняй раніц жураўліны клін.

Ах, арабіны... Полымя уздых.
Далёкіх зорак жнівеньскае веча.
Няхай плыве паміж лістоты свечка
Усіх надзей і безнадзей маіх.

Засыпаў сцежкі восеньскі агонь.
Бабулін сон вятры па свеце гоняць.
Забылі ўнукі.
Арабіны — помняць!
І болю трона крышыцца ў далонь.

Сляды унукаў стынуць у двары...
Нашто галіна ў ягадах старая,
Нашто бабуля ў вёсцы паміpae,—
А дрэва,
як шалёнае,
гарыць?!

*1978*

## ВОСЕНЬСКІ МАТЫЎ

Калі зляціць лісток барвовы,
На свет па-новаму глядзіш.
І вецер колерам такі ж,
Як валасы жанчын вясковых.

Калі ручай, нібы з вясны,
Пачне звінець без перапынку,
Спяваюць тонкія галінкі,
Што ацаліў спакой лясны.

Ты, восень,— дабрыня і жорсткасць...
То ўспыхне раптам шэры ліст,
То скоціцца з дажджамі ўніз
Слязы маёй каменьчык шорсткі.

*1975*

## ТРЫПЦІХ КАЛЫХАНКІ

### I

Не адпачыць пад лісцейка акрасай,
Не засланіцца маладым галлём,
Калі бярозу залатым абцасам
Ударыць першы неразумны гром.

Праз хмару зноў
Вясна мая праменіць
Святло дабра і летуценны грай.
Белагаловы хлопчык на каленях
Шкадуе маці ціха:
— Баю-бай...

*

Вы касавіцу адгадалі
Маіх трывог, маіх падзей.
Паміж высокімі гадамі
Касец упраўны ўжо ідзе.

Шырока сцелюцца пракосы,
Дрыжаць расінкі на траве.
Бужамі жоўтымі пад косы
Атава горкая плыве.

Бай-баю...
з постаццю танюткай.

Бай-баю...
сінеча вачанят.
Па кладцы коціцца,
па гнуткай
Клубочак сонца ў далягляд.
Гады ў дарозе не прысталі,
І, як калісьці, хмеліць май...
Па чым жа косы: адгадалі
Час незваротны?..
Баю-бай...

## II

Калыхаю… Калыхаю… Калыхаю…
У белы свет стралу зялёную пускаю.
У сасонкі з рукава ляціць вятрыска
Не высока над Радзімаю, не нізка…

Палатна з травы вясна мая наткала,
Сінім верасам сарочкі вышывала.
Пад жалезам пакрышыліся кашулі,
Пад ракітамі сыны мае паснулі.

Баю-баю…
Капыты — як бліскавіцы.
Баю-баю…
На мячах і на ствалах раса імгліцца.
Калыханку сярод бору заспяваю.
Ой, зямля мая, калыска.
Баю-баю…

*

Дажджы — як стрэлы сіняга прадвесня.
Гарласты гром расколе крохкі дол.
На вільчаку маёй гарачай песні
Гайдаецца буслінае гняздо.

Бай-баю птушкам,
Люлі буслянятам.
Мінецца час —
раскрыліцца палёт.
Спявайце, маці.
Вышай стала хата,
Бо ўжо калыска хаты пасярод.

Калі ракіту кіпень-дождж ашпарыў,
Над полем стогн:
— Каханая… мая…
І працінае сэрца ўсмяглай хмары
Калючы промень вастрыём кап’я.

Не абміне агорклая здагадка:
Ірвецца песня з хаты недарма.
Каханая гадуе немаўлятка,
А казачэнькі з выраю няма…

III

Заспяваю «баю» дождкыку-сыночку,
Доўга йшоў малы...
Каторы дзень і ночку.
Усмяглі вёсны, зімы абгарэлі.
Ногі ў чобатах вялізных ці балелі?

Баю-баю...
Не па росту гімнасцёрка.
Толькі попел асыпаецца з пагорка.
Каміны зайшліся —
сніцца дым барвовы.
Мокры чубік з-пад пілоткі —
ды на бровы.
Баю-баю...
Не дажджынкі, а шрацінкі.
Бой закончыўся.
Засні салодка, сынку.
Хмара коўдраю ляціць на папялішча,
А за вёскай вецер зранены ўсё свішча.
Ці пакласці мне малога пад бярозай,
Той, чацвёртаю...
без лісцяў і без росаў.
Ці да сэрца прыгарнуць той дождж —
Не знаю.
Колькі год яно смыліць мне...
Баю-баю...

*

Калыханка падзеі да рання крылле.
Калі сэрца уздрыгне — і сіл не стае.
Недзе ў вёсачцы певень апошні гарлае,
Нібы мне не прачнуцца без песні тае.

Чарнабрыўцамі вокны падпальвае чэрвень.
Над астылымі стрэхамі зоркі мігцяць.
Нават ночы баліць —
захлынаецца певень,
Быццам сонцу
без гэтага крыку не ўстаць.

*1978*

## ТЫДЗЕНЬ ГАДЗІННІКА

I

Гадзіннік сонечны, які ты?
Як ненавідзеў? Як любіў?
Вякоў гарачыя арбіты
Цень востраю стралой прабіў.

Пакажа цень, што вечар блізка,
Калі жрацы спраўляюць суд:
Камусьці слава, як калыска,
Камусьці галаў з плеч вось тут.

Чакае некага пустыня,
Ілжэ, карае, прадае...
І толькі помста, як рабыня,
Пяро паэту падае.

II

Трывожна робіцца манаху,
Яго душа і ў сне гарыць.
Хоць сам сябе вядзі на плаху —
Зняверыўся манах стары.

Няма пакоры і ў паміне,
Малітву ў торбу — і жабрач!
Пачуў — спяшаецца гадзіннік
Усё наперад, хоць ты плач.

Усё бягуць, бягуць імгненні
Яго душы наперарэз.
Усё жыццё ён на каленях,
А тут — падняўся, уваскрэс.

Празрэў манах!
Ды страшна памяць
Агнямі вогнішча ўстае.
Мінулае нясцерпна раніць,
Час індульгенцый не дае.

Хоць катам ты не быў, напэўна,
Пастух чужых малітваў-слёз,

Але, хоць і адно —
палена
На Плошчу Кветак[1] ты прынёс?!

Празрэнне блізка, блізка, блізка,
Не ўратавацца і бягом.
І вечар, тоўсты, як епіскап,
Навальваецца на яго.

О цемры раб! Празрэў у здрадзе
І зразумеў адно стары,
Што не згарэць ніколі праўдзе
На інквізітарскім кастры!

III

Першакласнікаў звонкае веча,
Лета бабіна справіла баль.
У сандаліках лёгенькіх вечар
Пабяжыць па асфальце удаль.
Услед за марамі жураўлінымі
Паляцець бы, ды крыл не стае.
Бо маленства яшчэ не хвілінамі,
А гадамі жыццё спазнае.
А гадзіннік малому, як цацка:
Што там цікае унутры?
Пашкадуе хлопчыка бацька,
Возьме ў рукі будзільнік стары.
Ён адкіне бліскучае вочка —
І вачам адкрываецца цуд.
Ёсць надзея у чалавечка,
Што і ён зразумее ўсё тут.
Ты сталееш і падрастаеш,
Толькі казку, сынок, беражы.
Бачыш, стрэлка марудзіць малая,
А вялікая — аж бяжыць.
Лічбы дзён і вякоў карагодзяць.
Стрэлкі цэляцца ў сіняву.
Я гадзіннік твайго паўнагоддзя
Буду слухаць... Калі дажыву...

*1978*

[1] На Плошчы Кветак у Рыме інквізітарамі быў спалены Джардана Бруна.

## З МАЛАДОСЦІ

Пярэймы рук. Вышэй — сухія кручы.
Стрыжы адстрыглі крыллем ад віроў.
І тут жа сонца ў твар дыхне пякуча,
Як звітае з бікфордавых шнуроў.

А тая чайка вунь,— як сон гарачы,
Дзе бакеншчык, празрысты ад лускі,
Так усміхаецца... **I** гэта многа значыць,
І страшна, што не выплывеш з ракі...

*1981*

## ЦЫГАНСКАЯ ЭКСПРЭСІЯ

Сыны вятроў,
Унукі першай зоркі...
Вані след астыў на бацькавай зямлі.
Скажыце, як
ў шляхах салодка-горкіх
Вы песні продкаў
мужна зберaглі?!

Гараць кастры,
пра даўняе гавораць.
З размаху б'юць старыя капыты.
Як многа песень высушыла гора,
Як мала песень выйшла з нематы!

О зорны бог!
Няўрымслівы і ўпарты.
Ты зведаў шчасце,
Выцерпеў падман.
Падпяўшы джала
з чэрапа пагарды,
Змяя выгнання
страшыла цыган.

Не гнеў, а боль...
Не гром, а сум знямогі...

Гітарны спеў зацёрты да крыві,
А ў рукавах —
бясконцыя дарогі,
І толькі плечы пыл сівы абвіў.

Стары цыган трывогай-таямніцай
Цугляе сны дзіцячыя здавён.
Хай крыкне птушка,
Дрогае кабыліца
І паімчыцца спуджана ў палон.

Ляцяць насустрач высмяглыя травы,
Нясуцца кручы, коцяцца агні.
Ёсць толькі лёс...
Няма падманнай славы.
Ёсць толькі песня...
Роспачы — ані!

Спявай, цыган, у месячным абозе.
На струнах
пальцы чуйныя крыжуй...
Ты не пакінь, зямля, яго ў трывозе.
Ты падай, зорка,
ў светлую душу.

*1977*

## ЗАМОВА ВЕТРУ

*Уладзіміру Караткевічу*

Прыходзіць вечар выспеленым шляхам,
І перад ночы вогнішчам сівым
Залётны вецер завядзе, як знахар,
Свой спеў трывожны, гойдаючы дым.

О, лёс вятроў, гарачы і суровы.
У горле памяць за тытунь гарчэй.
Ляцяць у прысак вогненныя словы,
Нібы слязіны палкія з вачэй.

Начной парою ён адзін на свеце
Адчуе сілу слова і агню.
Усе людзі спяць.
Старыя спяць і дзеці.
І толькі ветру продкаў не да сну.

Бяссонны рыцар зорных сутарэнняў
Склікае веча непадкупных слоў…
Вядзі мяне па споведзь да натхнення,
Пакліч мяне пад белае крыло.

Свой рэй пачні ўладарна і сурова.
О, вецер продкаў,
Вецер, гавары,
Каб праўнукі для гартавання слова
Распальвалі магічныя кастры.

*1977*

## ДАЎНІ ВЕРШ:
## ПРА МУЗЫКУ…

Першы гром!
Як генія натхненне…
Першы…
І пад клавішамі крык.
Птушанё упала па калені —
І адчуў музыка ўпартасць крыл.
І плывуць разважыла, стамлёна
Лебедзі бялявыя ў начах.
Стогн ільвіны,
Вечны сум Бетховена
Тоне хваляй у маіх вачах…

*1967*

## РАЧНЫ МЛЫН

Як гром нямы, стаіць на мулкай рэчцы,
Як сын вады, што ўкамянеў даўно.
Забыты млын парваў старыя лейцы,
Стамлёны млын пусціў ключы на дно.
А як было? Шалёнымі рукамі
Ён шыі гнуў паводкам і вятрам.
І вечары старымі прымакамі
З пашанаю скідалі шапкі там.
З гаротных ніў лілося пругка жыта,
Малолі жорны збожжа і вякі.
Рыпела неба ўтомнае сярдзіта
Над белым краем
спелае мукі.
А хлеб ішоў.
Т бачыў млын, як збоку
Сядзеў па возе ціхі пастушок
І пазіраў так светла і высока
Туды,
дзе сонца цэдзіцца з аблок.
Мой браце млын!
З плячэй туга звісае.
Ужо вятры нашэптваюць: «Пара!»
Ды зорны пыл,
нібы: мучны,
страсае
Унук майго народа-млынара.

*1980*

* * *

На кароткім плячы жураўля
Над калодзежам срэбнай крыніцы —
Там
вядру маладому не спіцца,
Там
уніз яно йдзе спакваля.

Чыстай песняй яно мільгане...
Не пакуты,
не сон заімглёны,—
Даўняй мары каменьчык зялёны
Прынясе мне вядзерца на дне.

Завірыць,
заспявае зямля...
І зялёны каменьчык на волі
Стане ценем салодкага болю
На кароткім плячы жураўля...

*1978*

## МЕДСЯСТРА

Ішлі на захад пехацінцы
Дарогай болю і слязы.
Завейна білі ў рукавіцы
Услед сухія маразы.

Ішлі суровымі палкамі,
Не прыпыняючы хады
І абеліскамі-штыкамі
Працяўшы ўзгоркі і гады.

Атакі...
Медсанбаты...
Штабы...
Медсёстрам цяжка удвайне.
Сяржант смяяўся: «Эх вы, бабы,
Ну што вы петрыце ў вайне?!»

Сяржант,
Як лёгка памыліцца...
Вайна крываваю была.
І ўвесь салдацкі боль сястрыца
На плечыках сваіх нясла.

*1977*

## БАЛАДА
## ПРА «АСЕННІ СОН»

Мы выбуху таго не чулі,
Бо музыка мацней была
За посвіст нечаканай кулі,
За гром гарматнага ствала.

Даўно было…
Ці мо нядаўна?..
Аўто, кіруйся у аб'езд.
Па плошчы маршыруе спраўна
Ваенны духавы аркестр.

Ён грае вальсы, грае маршы…
Ды раптам выбухне, як стогн,
Апалых лісцяў учарашніх
Сон вогненны — «Асенні сон».

На полі франтавога бою
Свой сон апошні бачыць зноў
Трубач з прабітаю трубою
На скрыжаванні ўсіх франтоў.

Не пальцы нібыта ў знямозе,
Не рукі нібыта ў крыві,
А поўня лісцяў на дарозе
Ці ў лесе кіпень журавін.

А над забітым музыкантам
Схілілася…
(Грамчэй, «ура»)
Адна, з пагонамі сяржанта,
Мелодыя, бы медсястра.

А над расхрыстаным маэстра
Ляцела праз гарачы град
Услед за жураўлямі песня
На мірны сённяшні парад…

Мы выбуху таго не чулі,
Бо музыка мацней была
За посвіст нечаканай кулі,
За гром гарматнага ствала…

*1978*

## ПАМЯЦЬ

Не абмінай мяне, трывога,
Не здрадлівай толькі, памяць, мне,
Бо не канчаецца дарога
У партызанскай старане.

Пакліч, заранка, неспакойна,
У шыбу грукні сувязной.
Пупышкі тояць,
як абоймы.
Аціхлы неспакой
вясной.

А з сэрца, горача і колка,
Галінка вырвецца, як дрот.
І пырснуць лісці, бы асколкі,
Па белым садзе уразлёт.

Не забываецца дагэтуль...
Лязом здаецца маладзік.
Блакаднаю ляціць ракетай
Над нашай вёскай пеўня крык.

Бы перад светам па паверцы,
Сад вечнай памяці цвіце.
Сuквецці цэляцца —
У сэрца,
І кожнае
трапляе ў цэль.

*1977*

## УДАВА

Ласкава так
і нечакана
Раса на травы ападзе...
Ёй на плячо,
як хлопчык, ранак
Свой мяккі чубік пакладзе.

Цяпло світальнае на вокнах,
Вячорны холад —
                        на душы.
І лёсу выплаканым вокам
Глядзіць калодзеж
                        на жанчын.

Яна — да радасці ахвочка.
Смяшок расколе, як арэх.
Чаму ж вадою да краёчкаў
Ніяк вядро не набярэ?..

*1978*

**БАЛАДА ФРАНТАВОГА МЕДАЛЯ**

Ішоў Іван да Мар'і.
Такі ваенны шлях.
Медаль зямным паўшар'ем
Пазвоньваў на грудзях.
А той медаль геройскі,—
Такому кожны рад...
Не раз у пешым войску
Быў ранены салдат.
Было герою грэшна
Патайны голас чуць:
«Не лезь, ваяка, першым,
Не лезь, а то заб'юць!»
А ён спяшаў, пяхота,
«Касіў» і «малаціў».
У важкіх тупаў ботах,
Зямлю сваю круціў.
Край абароньваў нечы,
Франты надточваў дню...
А смерць крычала ў плечы:
«Ўсё роўна даганю!»
Прыйшоў Іван да Мар'і,
Адолеў доўгі шлях.

Медаль зямным паўшар'ем
Пазвоньваў на грудзях.
Сынок шчаслівы крадзькам
Штось позіркам прасіў.
І зняў медаль свой бацька:
— Вазьмі, брат, панасі!
І сын памчаўся, рады,
Праз грозныя гады.
Пяхотныя парады
Разгортвалі рады.
З-пад хлапчуковых пятаў
Узвіўся чортам пыл.
А следам — гул снарадаў,
І грозны фронт,
і тыл!
...Вясною так нязвычна
Ударыў гром вайны
На ўзгорку ідылічным,
На міне ля сасны.
Дагнала смерць-нябога:
Плаці, раз бацькаў сын,
За мір і перамогу,
За той медаль адзін!

...Ды з бацькаваю славай
Усё бяжыць сынок
Па ўсёй зямлі крывавай,
Праз даль усіх дарог.
Праз боль акопных ранаў
І дымныя крыжы
Сын Мар'ін ды Іванаў
Усё жыццё бяжыць.
І звоніць гэтак шчыра,
І асвятляе шлях
Медаль,
паўшар'е міра,
У малога на грудзях!

*1978*

## БАЛАДА
## БЕЛАЙ ЛІЛЕІ

> Цяпер па Захадзе ўсё мацней гучаць галасы, маўляў, калі б не было Жанны д'Арк, калі б яна не ўмяшалася ў натуральны ход гістарычных працэсаў, усё еўрапейскае і нават сусветнае развіццё пайшло б па-іншаму. Гаворыцца гэта з выразнай крыўдай на Жанну.
>
> *З часопіснага артыкула*

Ідзе вясна па белым свеце,
І нам трывожна: недзе зноў
Палаюць будучыні дзеці
Ў напалме атамных гадоў.

І птушкі, што цяпло прарочаць,
Буслы, вясеннія майстры,
Над гнездзішчам жыцця клякочуць
І крылы ўзносяць, як кастры.

Быў час,—
прыйшла трывожна-смелай.
І хруснула нябёсаў стынь.
Пастушка з Францыі гарэла
У ціхай вёсачцы Хатынь.

Давілі тлустыя аблокі,
Як дым руанскага кастра.
«Баюся здрады я — і толькі.
Так жорстка — здрадаю караць!»

І там, дзе груд гісторый тлее,
Адкінуўшы кальчугу хмар,
Свяціцца белаю ліleяй
Сляза народаў, Жанна д'Арк.

Патомкі жорсткіх інквізіцыі
Фашысты... Неа... Гвалт пагоіш...
Бягуць,
бы карнікі,
вазніцы,
А перад імі — белы конь.

Імчыцца ён пры ўсім народзе
Святой дарогаю ахвяр.
Ў сядле апаленых стагоддзяў
Крывінка болю,
Жанна д'Арк!

Малітва рук над галавою.
...А вы ў касцёр смяротны зноў
Сваю падкладваеце зброю
Замест
агню падданых
дроў.

Прарокі неаінквізіцый.
На чыстым твары — важкі бот.
Са смерцю —
здрадніцтву радніцца,
Не здрадзіш толькі ты,
Народ!

У цэнтры атамнага гета
Нясе
агнём абліты
сцяг
Лілея белая планеты,
Няскораная
Жанна д'Арк!

*1978*

# ЧАРАЦІНКА ЧАКАННЯ

**Паэма**

## I. КАСКА ПАД ЯЛІНАЙ

Не прыдумалі, не прыснілі,
Сіні верас у голаў прасілі.
У лістоты замглёных вачах
Пацалунак слязой не ачах.

Словы радасці і кахання
Дол зялёны шчымліва раняць.
Ціха раніца за сяло
Залатою ляціць пчалой.

Зачакалася маці сына.
Салавей маўчыць у руцэ.
Броваў хлопцавых аблачына
На дзявочай ляжыць шчацэ.

*

Верас просіць адно:
— Чакай!
Рэха туліцца ў гнёзды:
— Чакаю!
Франтавога агню рака
Берагі ў Беларусі шукае.

І па хвалях тае ракі
Мар юначых згараюць вёслы.
Пасталелі ўраз юнакі,
Без сыноў пасівелі вёскі.

Рэха возьмецца на прыцэл.
Дол зялёны асколак параніць.
Салавей маўчыць у руцэ:
На грымотных дарогах Каханне.

*

Блакада — куля даганяе.
Блакада — з хмары самалёт
Гарачым градам прабівае
Плячо туману навылёт.

Барвовы выбух у імгненне
Расколе неба над сялом.
Апошні анямелы певень
Асколак студзіць над крылом.

Снарад у лузе, дзе струменьчык
З крыніцы мкнецца ў росны лог,
Перад дзяўчынай смерцю ўкленчыў,
Сцяжынку вырваўшы з-пад ног.

Схіляе пад дзяўчынай нізка
Бяроза боль галін сваіх.
Для ненароджаных калыскі
Звіваюць з промняў салаўі.

Абвуглілі лясное ранне
У лузе чорныя агні...
Паэма вернага чакання,
Ёй твар лістотай захіні.

*

Драбок балючае здагадкі
Ў далоньцы рэха панясе
Па той далёкай, па салдацкай,
Па незагойнай паласе.
— Чакай! —
праз полымя нясецца.
На вуснах цепліцца:
— Чакай...
Хаця дрыжыць гранатай сэрца
І з сонца вырвана чака.
Чакай, калі ў баі пякельным
Не засталося сіл чакаць
Твой смех, і цёплыя калені,
І вуснаў смутную пячаць.
Перад каханнем — на паверцы
Я і тады цябе чакаў,
Калі сваёй салдацкай смерцю
Ланцуг варожы рассякаў...

Паэма вернага чакання,
Салдата ты не абміні.
На развярэджаныя раны
Шынель гранітны нацягні.

*

*Не трывожце салдат, салаўі.*
Яны скошаны ў першым баі.
Вусны ўсмешак яшчэ не забылі,
Пацалункі на іх не астылі.
Сее джалы агню аўтамат.
Цёпла ружам ля сэрцаў салдат.
А над квятамі бою дрыжыць
Салаўіная песня:
— Дажыць!

*Не трывожце салдат, салаўі.*
Яны скошаны ў першым баі.
Босы след спаю сцежку шукае.
— Ты чакаеш?
— Каханы, чакаю...
На пажарышчах жар не ачах.
Бой салдата нясе па плячах,
І сястрыца траншэяй бяжыць...
Салаўіная песня:
— Дажыць!..

*

Яшчэ ў руцэ граната сцята,
Яшчэ не скончан першы бой.
Да палявога медсанбата
Паўдня дарогі палявой.

Падкошаная, з каляіны
Бярозка просіцца ўгару.
Гарачы выбух гулка кінуў
На мох яршысты медсястру.

У грукаце і дыме смерча
Адплаты доўга не чакаць,
Калі граната каля сэрца,
Калі ўжо вырвана чака.

З самотнай каскі пад ялінай
Яшчэ крумкач крыві не піў.
На шыю свастыкі змяінай
Дзень босай пяткай паступіў.

## II. ШКОЛЬНЫ ВАЛЬС

Што глядзіш гэтак сумна, маці,
З-над брыва ахалодых начэй?
На апаленай хрусткай карце
Зелянеюць паўшар'і вачэй.
Гэта сэрца планеты няспынна
З вокнаў школьных глядзіць у сусвет:
Пад якою далёкай ялінай
Ты губляешся, сыпаў след?
З кім ты зараз, сынок, гаворыш,
З кім сябрыну вядзеш, сынок?
«Школьны вальс», як салдат у дазоры,
Прыпыніў каля вокнаў крок...

*

Ты, матуля, мяне прычакаеш
На дзянніцы вішнёвай вясны.
Словам матчыным, болем адчайным
Загавораны я ад вайны.

Безыменных вышыняў доты.
Шызы быльнік прагорклых начэй...
Бой задушны з-пад важкіх ботаў
Дыму хвост па зямлі валачэ.
Загавораны я ад асколкаў.
Гром гранаты — у кулаку.
У шчаціністы попел пагорка
Уціскае атака шчаку.
Палягла франтавая сябрына.
Лівень смерці пагорак сячэ.
Прабівае пілотку травіна,
Не падняць ад зямлі вачэй.

Пошчак бою. Агонь зацяты.
Агрызаецца кулямёт.
Не скрышыла твая граната,
Мой сыночак, праклятаы дзот.
Не скрышыла, не даляцела...
Да бяссмерця — адзін рывок,
Прабівае чарга ашалела
Яваровы твой шынялёк.

*

Хто прыходзіў у матчыну хату,
Пад асонне сівых бяроз?
Хто старэнькай шынель салдата
З тых крывавых акопаў прынёс?

У акно зазіраюць ночы,
Туманом дымяць паплавы.
Сын для маці —
заўсёды хлопчык.
Сын для маці —
заўсёды жывы.

У крушыны гаротнай спытайце:
Хто ж у хату прыходзіў здалёк?..
На збалелых руках у маці
Сына грэецца шынялёк.

Баю-бай, шынялёк, баю-бай.
Ціха ў хаце сваёй спачывай.

Хай плячэй яго гоністы сажань
У цяпло тваё пругка ляжа.
Хай прысняць рукавы дзве рукі
І святлістых вачэй васількі.

Баю-бай, шынялёк, баю-бай.
Ціха ў хаце сваёй спачывай.

Калі ноччу абложнай прысніцца
Агнявы градабой навальніцы,
Абаўюць бліскавіц рамяні —
Ты сыночка крысом захіні.

Баю-бай, шынялёк, баю-бай.
Ціха ў хаце сваёй спачывай…

Твой мяшэчак збяру па патрэбе —
Соль світання, як слёзы, на хлебе.

Пакладу туды нітку з іголкай,
Зашывай сабе след ад асколка...
Зашывай...
Захінай...
Сагравай...

Баю-бай, шынялёк, баю-бай.

### III. ПОЛЫМЯ ЛІСТАБОЮ

Шэры ліст. Шэры дзень. Шэры боль...
Лістапад асыпаецца ў бой:
Ападае на плечы байцоў,
Па штыкоў агнявое асцё.
Ліст барвовы ляціць на павекі,
Жоўты ліст — медалём на грудзях.
З-пад густых лістападаў веку
Вочы паўшых на нас глядзяць.

Схаладнела ў чаканні хата.
Лістапады — сыны удоў.
Гулка б'ецца сэрца салдата
У грудзях франтавых гарадоў.

*

Выпраўляеш і бацьку, і сына.
Па дарозе чахне трава.
Не ўдава ты яшчэ, Радзіма,
Ды баліць сівізной галава...

*

Лясная цішыня, што рана —
Расу далонню не крані.
Да хрусту сціснулі паляну
Ласіных сцежак рамяні.

Далёка фронт. Сябры далёка.
Туман між соснаў стог звяршыў.
Цікуе ноч савіным вокам
За сцежкаю ў начной цішы.

У аўтамаце — ні патрона.
На жылістых дратах ажын,
Аглушаны і беспрытомны,
Салдат каторы дзень ляжыць.

Глыбокі тыл — з лясною картай,
З трафейнай зброяй па плячы.
Самотны ветах, бытта варта
Тае трывожнае начы.

*

Дзе рэха песні партызанскай
Даспела ў жоўтых жалудах,
Асцісты хлеб вайны сялянскай
Гарачым багуном працах.
Спяшалася шарготкай сцежкай
Ты, песня,
ў лес з жытнёвых піў.
Хмурынку, нібы сыраежку,
У соснах вецер разламіў.
А перад боем, на прывале,
На вецце хлопцы паляглі,
І словы кулямі ўганялі
Яны ў халодныя ствалы.
Гармонік хлопцам гоіць рапы,
У нетры спудзіўшы кручча.
А поўнач песня партызана
Нацягне ватнік на плячо.

*

На бярозы і сосны
Ліставеі ляцяць.
Партызанскія сёстры
Каля сцежак стаяць.
І з балотнай блакады
Партызанскі атрад
Па імшарах гарбатых
Адступае назад.
За пушчанскай дарогай
Драч дзярэцца —
Не збоч!
І мядзведжай бярлогай

Тут блакадная ноч.
Чахне вогнішча ў росах,
Пі цяпла, пі агню.
Плечы белай бярозы
Даўкі кашаль сагнуў.

*

Прарыў! —
сардэчны боль, надрыў.
Прарыў! —
і сум душу агорне.
Гудзелі полымна вятры
У кожным лесе, як у горне.
Над партызанам згуслы дым
Развеюць крылы песні спетай —
Аблокі светлыя пад ім
І подых маладога лета.
А праз гарачы лістабой
Імчацца скразнякоў алені.
Глыбокі тыл. Зацяты бой
Шляхі расчысціць Наступленню.

*

Дыміць між елак угары
Баравіковая паляна.
На плечах вынес ты, прарыў,
Параненага партызана
І апусціў на хрусткі мох,
На цёплы ватнік асцярожна:
Чаму ж ты ўберагчы но змог
Ад хіжавокіх куль варожых?
Дагэтуль варту я нясу
Над ім, як маці над калыскай.
...Гарматны гул атрос расу —
Пярэдні край да лесу блізка.
На ўзлобак высахлы вайна
Расцерушыла скрозь ігліцу.
Туманам, голкаю сасны,
Лісцём
ад куль не засланіцца.

*

Сэрца ўдары глухія... Начамі
Асыпаецца сад. І чутно:
Кожны ўдар асцярожны, адчайны,
Як прыглушаны стук у акно.
Кожны ўдар — гэта крокі да хаты.
Кропля месяца — болю рака.
І гаркавай антонаўкай раптам
Ва ўспаміны ударыць:
— Чакай!
Як калісьці, дрыготкае слова
Чуйна туліцца да грудзей.
На ўдовіны плечы сурова
Рукі цяжкія ноч пакладзе.
З дрэва ліст, бы трохкутнік, сарвецца
У далоні твае, грозны год.
Яблык падае, падае сэрца,
Прабівае сны навылёт.

*

Спі, мой хлопчык,
Не бойся, не слухай...
Гэта недзе між сосен глухіх
Мільганула ліса-рыжуха,
Надпаліўшы балюча імхі.

Горкі пах чабаровы трывожыць.
Зырка вогнішча часу гарыць.
Гэта мой успамін трыножыць
Партызанскія коні ў бары.

Ты пад шчочку падсунь далоні —
Гэта проста, мой сып, здалёк
Далятае ў твой сон сягоння
Партызанскіх кастроў вугалёк.

Гэта ціха ключом адмыкае
Нашы дзверы, нібы рука,
Слова болю, слова адчаю,
Слова вернасці мужнай:
— Чакай!

## IV. ПАМЯЦЬ СІВІЗНЫ

Ў дарозе рана зажывае,
Як верыць мудрасці, хутчэй.
Дамоў! Што мячык узлятае
Мяшок над жорнамі плячэй.

Ядлоўцу сохне гімнасцёрка.
Чаго ірвецца, адгадай,
З-пад ног сцяжына перапёлкай,
Нібы адводзіць ад гнязда.
Гняздо за тым ляском, за полем,
Дзе руні зелянявы клін.
Сасна халоднай шышкай коле
Юнацтва даўняга ўспамін.
За гэтым вось ляском ласіным
(Што ж поле не ўзарана?),
За..
Срабрысты жаўранак радзімы
Вісіць у небе, як сляза.

Сляза, што высахнуць не хоча
Над лесам, полем і ракой,
І пад салдатам, што за вочы
Схапіўся шорсткаю рукой.

Над спаленым бацькоўскім домам,
Над попелам сівой зямлі.
Пагорбіўся кашчавы комін —
Адзіны сведка той зімы.

*

Траву сумётаў вецер не пакосіць,
У студні студзень кашаль праглынуў.
Так хочацца зіме ў згарэлай вёсцы
Цвікамі ледзяшоў прабіць сцяну.
Сцяна, сцяна… Ты сум і гнеў. Ты помнік.
І памяць набалелая ў вяках.
Ў руцэ сваёй трымае чорны комін
Маленькую далоньку хлапчука.

Сняжынкі — пад астылым папялішчам.
Над садам. У Мядзведзіцы ў каўшы.

І крохкія галінкі чорных вішань
Узносяць, нібы ў клятве, ледзяшы.

Ці смачныя вугольчыкі цукерак,
Ці соладка табе цяпер, хлапчук?
Завеі белай вузлаваты нерат
Аблытаў рукі, вачаняты, чуб.
Пра маці не пытаюся — баюся!
Тут папялішчы вёсак і садоў.
Ідзе па анямелай Беларусі
Хлапчук пяці, ну, мо сямі гадоў.
Ідзе праз спапялелыя Хатыні,
Плячом штурхае вецер хлапчука.
Ты не спыняйся, не замерзні, сыне,
Ты з фронту бацьку, родны, пачакай.
Каго з сустрэчных, можа, напаткаеш,
Сям'я другая знойдзецца табе,
Калі, маленькі, непагадзь ліхая
Цябе з прамой дарогі не саб'е.

*

Зімы, зімы... Пякучыя зімы.
На расстайных дарогах крыжы.
Аж да мая на сцежках радзімы
Снег абвуглены даляжыць.

На ўцалелых галінках вішань
Пад аснежаным ветрам скразным
Навастрыліся вушкі пупышак,
Каб пачуць надыход вясны.

У прыродзе расце прадчуванне
Перамен прычаканых тых...
Перамога гарыць світаннем
На пазіцыях агнявых.

*

Лета... Восень... Зіма... Вясна.
Пятай ты пасля іх, вайна...

Ноч стукае паціху ў дзверы.
Пякуць асколкі сівізны.
Як пальцы сёстраў міласэрных,

На пульсе — успамінаў дні.
А пульс трывожным метраномам
Адно адлічвае:
— Чакай!
Над страчаным бацькоўскім домам
Барвовых воблакаў рака.

*

Ці раніцай, ці на змярканні,
Сястра, прыйдзі, дапамажы.
Ты боль салдацкага чакання
Бінтом тугім перавяжы.

Ты пакладзі бінты на плечы,
Няхай уявіць франтавік,
Што чубік залаты хлапечы
Ласкава да пляча прынік.

Кладзі бінты яму на грудзі,
Няхай прысніць парой начной,
Нібыта жонка яго будзіць
Накосным днём перад вайной.

Няхай уявіць, што праменне
На сэрца сцішана лягло.
Вайны —
хоць на адно імгненне —
Каб не было,
каб но было...

## V. СЛОВЫ НА СЦЯНЕ

Трохкутніка маўклівы вырак,
Клін жураўлінай цішыні.
Радкоў паплыў гарачы вырай
Ў паштовым воблаку вайны.
Ёй плыў да роднай Беларусі,
Тых слоў салдацкіх светлы кліп.
І ранак, ацалелы бусел,
Крылом пагойдваў прыпамін.
Да бою — лічана хвіліна.
Плячо ў акоп уцісні, май.

Прыпала спеўная травіна
Да слова звонкага:
— Чакай!
— Чакай!..
І крокі карагодзяць.
— Чакай!..
Салдат дамоўку сніць.
Шукаюць кулі — не знаходзяць
Яго ў шчаціністым агні.
На вуснах дым, сухі і горкі.
У сонца вырвана чака.
Паперу, нібы гімнасцёрку,
Асколкамі сячэ:
— Чакай!

*

Гадоў не перасмяглі вусны.
На памяць не асела тхло.
У чыстым небе Беларусі!
Трохкутніка гарыць крыло.

*

У Берліне над вузкімі вулкамі
Неба шэрае раніцой.
Дымных выбухаў сцены гулкія
Важка падалі на байцоў.

Над Берлінам аблокі белыя
Паласкала ў агні вайна.
Да параненага падбегла
Шустра, хустку сарваўшы, вясна.

Хто ты: Йванко, Іван, ці Янка?
Як завешся — Шата, Сабір?..
Сын рабочы і сып сялянскі
Засланяюць сабою мір.

У бярлогу па попелу свастык
Ранак шэрым паўзе ваўком.
Дабягае салдацік віхрасты
Да рэйхстага адным рыўком.

*

Бой прыціхне. Прыляжа дарога.
Нечакана сляза задрыжыць.
Песня радасці:
— Перамога!
У пілотцы да неба ўзляціць.
Аўтамат пад сабою падыме,
Аблачынку салютам праб'е...
Зачакалася дома радзіма,
Франтавік, аж да болю цябе.
Асцярожна... Праменьчык світання
З непрывычкі ў руцэ не скрышы.
На рэйхстагу Паэму Чакання
Напішы, франтавік, напішы.
На сцяне той,— жыцця франтавога
І імя твайго вечны агонь.
Напішы, ветэран, Перамогу,
Смерць і Полымя
грозных пагоны
Так, каб кожнаю літарай дымнай
Запавет твой гады прашыў.
Аб магутнай і неабдымнай,
Аб Радзіме сваёй
напішы!

*1974*

# Мне
# кавалі
# пярсцёнак
# у кузні
# старой…

## ПЯРСЦЁНАК

**(З паэмы «Кавалі»)**

Мне кавалі пярсцёнак у кузні старой,
Браў каваль, нібы іскру, пярсцёнак рукой,
Сіняй птушкай агонь на далонях паплыў,
Аб кавадла вялікімі крылямі біў.
Мне кавалі тут шчасце.
А зімы — не смех!
Лістапады дрыготкія падалі ў снег.
Прычаканай вясной ручаі, што гулі,
Часам горкімі,
светлымі часам былі.
Нёс праменную радасць мой ліпеньскі дзень.
На далонях — агонь.
Залацісты струмень.
Ён знікае,
Баліць.
Я успомню парой:
Мне кавалі пярсцёнак
У кузні старой.

*1967*

* * *

Вачэй усмешку не схаваю,
Слязу да сэрца прытулю,
Сяброў няпроста адкрываю,
Сустрэчы шчырыя люблю.

Хто хлебам-соллю зноў сустрэне,
Хто крыўду кіне ў вочы мне,
А хто дык сонечным праменнем
Перад вачыма калыхне!..

*1975*

**РАСЛІ...**

Пад звоны шпор зашторана акно.
Цыгарак рой.
Дзядзькі, як панарамы.
Зрывае плашч французскае кіно,—
Якія гранды тут, якія дамы!
Якім шаленствам каляровых сноў
Кіно ўзяло цыбатую чародку
Графінек тых прасмоленых чаўноў,
Што звеславалі не адну паводку.
Звінела ноч цнатлівым вішняком,
А хлопцы йшлі ватагай незалежнай.
Свісталі дзёрзка...
А пасля цішком
Чакалі пас пад кожнаю чарэшняй.
Чакалі нас у бляску сініх зор,—
Калгасных статкаў гранды-менестрэлі.
Вось брыгадзір паплыў у сонны двор,
І нашы хлопцы ў словах пасмялелі.
Пасля кіно прасцей ва ўсім было.
Здавалася, ну што там пацалункі?!
А вось стаім... І мову адняло!
Напятыя, бы залатыя стрункі.
А вось маўчым... (Якое там кіно?)
Мы так маўчаць да раніцы гатовы.
...Пад звоны шпор зашторана акно.

...Пад спеў начы на вуснах
блякнуць словы.
Цвіла зямля ад вішнякоў і сліў.
Спявала неба. Даспявалі грудзі.
Графінькі пашы... Так вось і раслі
Нецалаванымі. Хаця былі ўжо — людзі.

*1983*

## Л.

Акардэон абветраных дарог
Усхліпнуў зноў пад светлымі рукамі...
Цябе мне лёс, напэўна, прыбярог,
На палынах настоены вякамі.
Бярэзінкі пасеклі па крыжы.
О як баляць нам цені дарагія...
Ёсць настальгія славы і душы,
Калі прасцей, па продках настальгія.
Тваіх мядункаў зрошаны абрыс
Такой антычнай змучанай пароды.
І неба, разгайданае, уніз,
У позірк мой, сарвецца назаўсёды.
Мы пойдзем разам... Смелыя, нібы
Рассыпаны па ўсіх рачулках кладкі.
Цвіценне дум разбіта на сады,
І адцвітанне будзе без аглядкі.
О як трывожна бліскаюць гады,
І кожны дзень, як вокамгненнасць брытвы.
Мы пойдзем разам... Гордыя, нібы
Разворany ў палях зярнят малітвы...—
Пакосамі агню і адкрыцця,
Бярэзінкамі, злучанымі раннем.
І вецер, хутаранскае дзіцця,
Прытуліцца да губ тваіх рыданнем.

*1984*

## СТАРАЯ БАЛАДА

Званы гудуць.
Малітву правіць паства.
Світальны промень сціплы, нібы госць
А ў вёсачцы,
У трыдзесятым царстве
Жыла дзяўчына... Мроя...
Маладосць!
Дачка жняі і грознага Пяруна.
Бы кветкі, вусны.
Зоры — у вачах...
Жаўцеў сланечнік, нібы кола бубна.
Свяціла поўня доўга па пачах.
І сваякі варожаць і суседзі,
Ў каго ж яна нявесткай будзе жыць?!
Ды паства грозна вырашыла: ведзьма!
І асудзіла, жорсткая: ўтапіць!
І задрыжэла вогненная круча,
Трывожны бусел сцішыўся ўгары.
Яна звінела стрункаю пявучай,
Яна ляцела ў чорныя віры.
Хавалі боль
сузор'і і планеты,
Лавілі крык нябёсы і вякі.
На важкай хвалі плавілася лета.
Суседзі, дзе вы?
Дзе вы, сваякі?
Ды ўсе яны спалохана маўчалі.
Палаў сланечнік і крывіў брыво...
І раптам хлопцы
кінуліся ў хвалі,
Ратуючы любоў і хараство!

...Прайшлі гады па трыдзесятых
царствах
Шчыруе сонца весела ўгары.
Калі ж ахвяры выбірае паства,
Зноў юнакі кідаюцца ў віры!

*1977*

* * *

На сустрэчу запальваем свечку
Ў храме змучаных сонцам палян.
Вось і мне раптам кінуў вуздэчку
Позірк твой, нібы чорны цыган.
Я не знаю, за што мне адплата,
Я не знаю, навек ці дарма
Маё царскае «эго» распята
На тваё,
з хрыпатцою,
імя.

На імя тваё...
(Літасці трэба.)
На палын развітання і гнеў.
Смакам страсці, надзеі і хлеба
Ты вяртаеш мяне да мяне.
І шалёная тая карэта
Раптам, глянь, з вышыні ды ў прыбой.
Я адна, ало ўся —
перад светам.
Не адна і не ўся — прад табой!

*1984*

* * *

На залатым асеннім лёдзе
Слата наставіла таўро.
З калючай гордасці выходзяць
Гарністы крохкіх вечароў.
Такой крыштальнай сівізною
Паклічаш раптам за сабой.
Перад табой, перада мною
Расстання ўскінецца прыбой.
М не сумна, вусцішна і смешна,
Як толькі ведае прагрэс.
Мерыдыяны тонкіх сцежак
Сціскаюць наш апошні лес.
Не дагаворыш, не напішаш...

Да ног бяроста ападзе.
Запеклася густая ціша
На вуснах колішніх надзей.
І пад кальчугамі зялені,
Дзе толькі ты і толькі мы,
Услед за намі нашы цені
Расколваюцца, як грамы.
Сасён прыветныя шаломы
Аб нечым даўнім зазвіняць.
І ты не проста так знаёмы,
І нельга проста так абняць.

*1981*

## ПЕРАД АГНЁМ...

Мая баярынька старая
Жыццё запомніла на пяць,—
Нібы гарох перабірае...
Грахі ці страты шалясцяць?

Вяртае памяць да асновы.
— Ты помніш, Янка, сенажаць?
І раптам бровы... Тыя бровы,
Як вараняты, узляцяць.

А ты, пастух начэй і лёсу...
Твой першы трактар тло крышыў.
Ты мне бялюткую бярозу
Прынёс да змучанай душы.

Ты быў...
Хоць языкі малолі,
Хоць людзі помняць і цяпер:
Я нарадзіла сына ў полі
І не кляла цябе, павер...

Яна — па п’едэстале ганка
Перад агнём асенніх брам:.
— Ты помніш, Янка? Верыш, Янка?..
Ён верыць, хоць даўно ўжо —
т а м.

*1982*

* * *

Ад белай сцежкі ў бездараж бягу,
Дзе свет любові формулай не губіш,
Дзе да рамонкі гнуцца не змагу,
Не запытаю: любіш ці не любіш.

Не закране ўжо кветкі правата,
Хоць безвыходнасць ударае ў сэрца.
Вось — незалежнасць, воля, прастата.
Чаму ж мне ў гэтай волі не смяецца?

*1983*

* * *

Як востры водар мацыёлы,
Расцёкшыся па сцежцы той,
Мяне ударыў двор вясёлы
Любоўю, смехам, глухатой.

Ён абгароджаны высока
Жыццём і ценямі з магіл.
І ранні дым, як шэры сокал,
Так нізка водзіць мне кругі.

Там клямка бразне, сцежка дрогне,
Там лісцем стоеным гару.
Тваю гардыню ўсю ў кароне
Цягну к сабе, як бор хмару.

Мы радуемся, ходзім рапа.
Ў бары зязюленькі «ку-ку».
Пяць пальцаў, нібы пяць маланак,
З плячэй, прашу я,— скінь руку.

*1983*

* **

Гэтак доўга забываю вас,
Нібы клін у шчасце забіваю,
Нібы зноў цвіце на ранах час...
Трэба жыць... І я цяпер жывая.

Трэба жыць і роднай, і чужой,
Маладой і роспачна-забытай,
Каб вятры паходжвалі за мной
Каралеўскай ядавітай світай.

Каб капалі дол плугі мае,—
Не магільны, а жытнёвы ў маі...
Дождж пайшоў. І так бясконца б'е,
Нібы кліп у сэрца забівае.

*1984*

## ВЯЧЭРНЯЕ

Гарадь, гарадь вуголлем мазалі.
Парогі дзён.
Аж змучыла дарога.
У раўнадушша ўсе парады:
«плі!»
І спачуванне, як для некралога.

Усё часцей на іх гляджу вачмі
Каханага,
сяброўкі,
нумізмата.
Акроплены крывёю акрабата,
О чорна-белы свет мой, адпачні...

Прыглушвай, сэрца, вечны свой
пароль,
Вядомы толькі гібелі і ўлонню.
Жыву страсцямі продкавых Асоль
І ўсіх памылак
проста ўжо
не помню.

*1983*

## У ВЕРАСНІ

Яшчэ здаецца, я табой сляпая,
А хмельны вечар падміргне, як сват.
Каторы год, як пальцамі гартаю
Твайго кахання сціплы фаліянт.
Сляпое шчасце так сачыць рукою
Радкі павек, усмешак і журбы.
І раптам... Раптам
з мудрага спакою
Мы едзем заўтра раненька ў грыбы.
Ці ноч была — не знаю...
Золак-прымха...
А дзень грыбны мігціць каля начэй.
Але такой няўмелаю грыбніхай
Ніхто ў тым лесе не блукаў яшчэ.
Калі адчуеш ўсім напраглым целам
У пушчы першароднай цішыні,
Што гэта ж ты жывеш па свеце белым,—
І не жывеш прыроднаю ані.
Што гэта ж ты, дзіця гарачай вёскі,—
Сучасная да самазабыцця,
Не чуеш больш, дзе ў сэрцы адгалоскі,
А дзе арганны голас пачуцця.
...Так блізка я, разбітая дарэшты,
Так блізка ты, разгублены такі...
Бярэм грыбы. Яшчэ як з касы рэшту,
Яшчэ зразаем светлыя рында.
Я лес прайшла,
нібы прайшла празрэнне,
І я тваёй навуцы, Гіменей,
Вучуся зноў у лісця і карэнняў,
Хоць азбука даўно не для мяне.
Я тут вучуся бачыць, як нанова,
Што набылі мы, страцілі з табой...
Вось толькі слова...
Дык няўжо і слова
Чытала толькі дотыкам сляпой?!

*1982*

* * *

Мы я кожным годам сіраце́лі
На шчырасць слоў і адкрыцця.
Ваш позірк — толькі боль падзеі,
І мой — не толькі для жыцця.

І пакаціўся круг папрокаў,
і задрыжэў люстэрка шоўк.
Ваш лоб — у серабры аблокаў,
І мой — без вечнасці аблок.

*1984*

* * *

Было табою ўсё.
І на дасвецці
Той жоўты луг знямогай асляпіў.
Было табой усё. І нават вецер
Знаёма гэтак лашчыў і любіў.
Наш поўдзень вырас проста
з перадплечча.
Пара цярпенне з радасцю змірыць.
Істота ўся, як развітанняў веча,
Не проста ные. Ные і баліць.
Мы крышым краты даўкай адзіноты,
А людзі кажуць: што ж гэта яны?
Ты снег ці сонца?
Даўні сябра, хто ты?
Навошта зноў трывогі без віны?
Нібыта мы ў акно знадворку б'ёмся,
Нібыта не ў абдымкі йсці, а ў бой.
Навошта так? Яшчэ ж не расстаёмся,
Яшчэ мы не сустрэліся з табой.

*1982*

* * *

Палюбіць, калі ні ў чым не страшна,
Мне цяпер, на згоне лет, страшней.
Хто смяяўся з гордасці ўчарашняй,
Сёння ўжо за слабасць папракне.

Гэта восень мройна залаціцца,
Хоць і фарбай пырсне ў сівізну.
Гэта сталасць, жоўтая ільвіца,
Кожны дзень, я ж чую,— па спіну!

Ў тым палёце развітальнасць будняў,
Апантанасць сэрца і дабро.
Скажаш: позна... Ўсё глыбее студня,
Ўсё даўжэй ляціць уніз вядро.

Зачарпні цяпла майго і болю,
Пражыві, што мне ўжо не пражыць.
З гэтым: «Позна!» мы выносім з бою
Смерць сваю. Не цела, дык душы.

*1983*

* * *

Перамелецца, перагарэніцца,
Пераб'ецца як-небудзь нічым...
Пацалункаў апошніх мяцеліца...
Нам гарача —
мы ў санках ляцім.

Прагных позіркаў першая цнота.
Адзінота мая,
адзінота!

*1984*

* * *

Пласцінкі голас.
Чуйны злом брыва...
Эдзіт Піаф спявае парыжанам.
На крыжык рук упала галава.
Ты знала?
як? —
што мне цяпер пагана?!

Пласцінкі голас.
Кружыць нотны знак.
Між намі год і нацый адгароджа.
Няўжо, Піаф, ты знала?
Толькі як? —
Што мне цяпер так светла
і прыгожа...

*1983*

* * *

Ну вось і я чакаю па адлігу,
І мне дарэчы спросціцца, празрэць,
Перагартаць старую тую кнігу —
У пераплёце рук тваіх і дрэў.

Перамаўчаць і рэўнасць, і каханне,
Перамяніцца ў ціхі неагонь...
І ўсё ж, і ўсё ж пергаментным світаннем
Хоць раз ды зліцца з роспачным канём.

О-гой праз боль, праз поле даўняй веры,
Удар хлыста. Усмешка ці бар’ер?
Маёй вясне з пакуты і паперы
Ты хоць на міг, на ўзлётны міг павер.

Павер зямлі абветрана-зялёнай,
Павер траве, дзе млеюць спарышы.
Мне гэтак страшна, горка, і спакойна,
І ні на ўздых не вырвацца з душы.

*1983*

* * *

Пашлю за рэчку ўсё-ткі маладосць.
Абветраны зацуглепыя храпы.
Загнаны коні.
                    Сосны, як арапы.
І адчуванне, што прастора — вось!

О як набрыдлі еўнухі нуды,
Максімалісцкіх павіянаў цнота.
І ўсё-такі гады,
                    гады,
                         гады,
Якія носім па-жаночы ўпотай.

Люблю і ненавіджу ад душы
Сваёй крыві манашаскую позу.
Пераступіць, мой любы, памажы,
Хоць гэтай волі ведаеш пагрозу.

*1983*

## ТЫ ПОМНІШ, ЭВАНС, КРЫТ?

— Ты помніш, Эванс, Крыт?
— Я помню...
Жах... Пылюка...
Вярблюджы каларыт раскопак на гарбе.
Я адказаў тады:
«Мая любоў — навука.
А ты, грачанка, грэх.
                              Я выбраў не цябе...»
І ўпрогся ў міражы.
Пайшоў па штурм вяршыняў,
Дзе мроя не газель,
                              а родзічка вала.
Яна была ў мяне слухмянаю рабыняй,
Ніколі і нідзе каханкай не была.
...Пісьмёны разгадаць,
                              як разгарнуць нябёсы.
Няхай праступіць кроў праз муміі эпох.

Тых літар лабірынт звядзе і стане лёсам.
Я паглядзеў на іх.
Я ўсё дагэтуль мог!
Я прачытаць хацеў,
аб чым рыдае Троя.
Я распазнаць хацеў,
аб чым рагоча сфінкс.
І вось у першы раз дала асочку зброя,
Няўжо не разгадаць тых літарак абрыс?
Ляжу...
Ляжу...
Ляжу з пергаментным аблiччам.
О як памчаў з-пад ног змяіны род дарог!
Праз цэлыя вякі...
я чую...
нехта кліча...
І гэты голас-боль я не пазнаць не мог.
Я помню, помню Крыт!
Праклятыя таблічкі!
Хоць вам і стаць вось-вось
магільнаю плітой,
Я разгадаю вас...
О як той голас кліча!
Як страшна б'е здалёк салодкі голас той.
Ты памяць...
Ты газель...
Смуглявая надзея.
Грачанка, я люблю.
Я раскрышу зямлю.
Люблю цябе адну.
Прабач, люблю... І дзе я
Ні буду — ўсю цябе
у песні пераллю.
Цяпер не лёс, не маг...
Я нават не вучоны.
І мой шалёны грэх далёкай зоркай знік.
І ўсё ж скажу, любоў,
што ўсе твае пісьмёны
Я разгадаў, любоў,
у гэты страсны міг...
«Ты помніш, Эванс, Крыт?»

*1982*

* * *

На самай звонкай ноце пішуць людзі
Пра маладосць, любоў і дабрату.
А для расстання, для ўсяго, што збудзем,
Я першай ноты так і не знайду.

Іх столькі, нотак — светлых і адчайных,
Што духавыя трубы ўсіх часоў,
Як табуны, сыходзяцца ў маўчанні
На вадапой разлітых валасоў.

Папрок вачэй. І досыць будняй звягі.
Перажывём ілюзіі, як дзень.
Хіба згрызоты нашы варты ўвагі
Ў бясконцым гуле ўсіх праблем і дзей?

Калі мембранай стала ўся айчына,—
Мы з ёй нязменна правяраем слых.
Ці ж важна, як жывецца мне, адзінай,
Калі жывеш, як за сябе, за ўсіх.

Але начамі з вечнымі вачамі
Ідзе кіно ў сусвету на сцяне:
Каханне... Ты! І той высокі камень,
Які з любві ўжо выкацілі мне.

*1983*

* * *

Такі разрыў са светам ёсць,
Такая немінучасць праўды,
Што кожны дзень, як верш Бергольц,
Напісаны у жах блакады.

Я не раўняю час і час...
Але зірні ў людскія душы,
Бо ёсць жа празарэнне ў нас
Нарой агоніі і сцюжы,

Калі любіць на паўкрыла
Ўжо не хапае сіл і неба...
А мы ўсе, падчаркі сяла,
Забылі нават горыч хлеба.

І ён прыходзіць, судны госць,
Той метраном сівой блакады...
Такі разрыў сумлення ёсць,
Што немагчыма ўжо без праўды.

*1982*

* * *

Я цяпер, як даўней, маладая
І шчаслівая быццам...
Пытай...
Нехта змоўчыць, а хто й запытае:
Дзе тут поле тваё?
Дзе ратай?..

Калі хочаце стацца сябрамі,
Ні спагад, ні папрокаў не трэ.
За слязінамі, як за гарамі,
Нехта долю маю ўжо арэ.

Там плывуць белагрудыя гусі,
Адкіпеўшы над золлю дарог.
Лепшы хлопец на ўсёй Беларусі
Мне трывогу сваю прыбярог.

Калі хочаце стацца сябрамі,
Нараканняў і згадак не трэ.
Над спагады сляпымі кастрамі
Ты,
душа мая,
крылы не грэй.

Палюбіць і паверыць павінна,
І разгледзець пад вечар пільней,
Дзе... Якая... Чыя дамавіна
Заўтра будзе па росту і мне.

Зненавідзім хлусню і падонкаў,
Каб дастацца да неба, сябры!
Там і поле маё пад старонкай,
І ратай, што крылле ўгары!

*1982*

* * *

Гудуць, як сны, вячэрнія званы,
Надломяць вёрсты позірк, як галінку.
У сінтаксісе праўды і мапы
Я адхварэю знакамі прыпынку.

Скажу:
«Люблю»...
І твой гарачы цень
Распяты зноў на кожную крывінку.
Не пачынай са здрады гэты дзень,
Не трэба слоў!
Мне страшны зрыў прыпынку.

Сяброўка, знай:
Калі маю душу
Лязом хлусні тарганеш хоць на хвілінку,
Папрокаў слёзы жорнамі скрышу,—
На ўсё жыццё з адмецінай прыпынку.

Радзіма-кветка, не змахні мяне
З павек сваіх, як чыстую расінку.
Нас нехта ўздыме,
                    нехта пракляне...
Няўжо й далей эпохамі прыпынку?

Убач, народ, вазьмі мяне з вякоў...
А прыйдзе час,— у жвір таркні сцяжынку,
Так абгарні зямлёй з усіх бакоў,
Каб мяккім быў мне вечны жах прыпынку.

І толькі ты, паэзія, адна
Не месцішся ні ў сэрца, ні ў катрынку.
Бяссмерцем неба, беспрасвеццем дна
Удар па мне,
                    апошні гром прыпынку!

*1982*

* * *

Пяшчоце ўсёй мяшчанскай клікі
Не аддавай малюнак сноў,
Дзе нашы дні і нашы лікі
Ажно прасвечваюцца зноў.
Успыхнем стрымана ад болю.
Ёсць толькі позірк,
                песня,
                    вір.
Мы не рыхтуемся да бою,
Мы не наладжваем турнір.
Нас б'е такая сіла жалю,
І шкадавання, і любві,
Што ўжо кладзеш рукой на шалі
Дзве праўды: лёсу і крыві.
Ты хочаш ведаць, хто і дзе я,
Што будзе, робіцца, было?
Я навяду цябе, падзея,
Ў сваё глыбокае сяло.
Там пыл,
Там квочкі, як цырцэі,
Шукаюць вечар ля варот
І ў свірнаў парныя ліцэі
Вядзе звычайны цёплы кот.
Ён, невук, зноў неперспектыўны,
Як наш, сарваны з веку, двор.
І толькі блішчуць шыбы-грыўны,
Бы ўвесь рэмбрантаўскі «дазор».
Ляціце ўвысь!
Ваш гоп імклівы.
У гэтым вечным віражы
Са мной — сялянскі лірнік сівы,
Што смерць знячэўку пераўжыў.
Ён з пакалення дрэў і нерваў,
З неперамножнай эры той,
Дзе мне, як голкі ўдарäць злева,—
Застацца толькі маладой!
...Сяброўка, сок такі прыгубіш,
Меланхалічны след сатрэш.
Вось-вось
        і ты мяне разлюбіш.
Спалохаешся... Не памрэш.

*1982*

* * *

Мілы наш сучасны дрывасек,
Ваш тапор маю бярозу ссек.
Ваш тапор бяжыць, як факстэр'ер,
Языком залізвае старанна
Свежыя пянькі на тых палянах,
Дзе да хмар аж высіўся давер.

Паглядзі, наш мудры дрывасек,—
Вунь гняздо, што, напал ты рассек.
Для чаго звілі яго? Калі?
Што пытаць... Во бор ужо ўспаролі
Факстэр'еры металічнай волі...
Іх сляпцы пусцілі па зямлі.

Бор мы садзім. Там, дзе быў стары.
Чуеце, як брэшуць тапары?!

*1983*

## ЖЫЦЦЁ

Гэты век далёкі і драўляны.
Космас дрэў, пагоні і звяры.
Залізаўшы вогнішчамі раны,
Век павесіў зыбку у бары.
І, да сэрца горнучы заранку,
Над сыночкам, хрэснікам віны,
Маці склала ціха калыханку:
«Бацька твой не вернецца з вайны...»

Хрысціянства змучыла праклёнам,—
Цудатворцы, смерды, каралі...
Пад Руанам служкі ад амбона
На касцёр адступніцу вялі.
І, павесіўшы калыску паміж дыму,
Над дзяўчынкай, горлінкай вясны,
Прахрыпелі словы пілігрыма:
«Бацька твой не вернецца з вайны...»

Мой — дваццаты... Атамна распяты.
Кроў і чэрвень...
Раны перамог.
У бінты ўціскалі медсанбаты
Боль франтоў, пародаў і дарог.
І, павесіўшы калыску паміж ночкі,
Дзе чарнелі ў вёсцы каміны,
Галасіла маці над сыночкам:
«Бацька твой не вернецца з вайны...»

Я не знаю, за каторым гаем
Нам шапне сузор'е Арыён,
Што так страшна космас пераймаем,
Збыўшы травы мройныя і сон.
Гэты час — планет і нацый рынак,
Гэты век расхітвае званы.
Ціха, маці,
Ціха, напамінак...
Бацька наш...
не вернецца...
з вайны...

*1982*

## ДА ПРАГРЭСУ

Прагрэс — дзіця маё, дзівак...
Мяшчанства вулічнай касметыкі! —
На могілках разбілі парк —
І зацвілі адразу ж кветнікі.
О як там дрэвы ўгон раслі
З магіл рукамі і малітвамі.
Салдаты, слугі, каралі...
Цяпер усе ляжаць пад плітамі.
Чые вы? Хто?..
З якіх дарог?..
Іду, а пад нагамі хроніка.
І віснуць мантыі эпох
На ліпах, як на вечных помніках.
Дагоняць рантам галасы,—

Рагочуць робаты блішчастыя:
Не для жыцця, не для красы
Еўропу запаўняюць свастыкі.
Я ў парк… Я разрываю час.
Кідаю сэрца над партрэтамі
Ўсіх тых, хто вернецца да нас
Палітыкамі і паэтамі.
Іх ачышчалі па крыжах,
Душылі турмамі і войнамі.
На шлюбных ложках і нажах
Іх сэрцы палымнелі гронамі.
Яны ўжо з Вечнае ракі,—
Забойцы бардаў, гранды, лёкаі,
Хто сілай браў мацерыкі,
Празрэўшы толькі пад рыдлёўкамі.
Празрэўшы раптам:
— Не забі!
Няма між нас на свеце лішняга.
Калі жывы — жыві, любі,
Любі зямлю, дзяцей і бліжняга.
Дай міру мір на сотні лет,
Кіруйся простай арыфметыкі:
О час, не падзялі сусвет,
Як і людзей,—
                    на кроў і кветнікі.
…Мой лёс, дзіця маё, прагрэс!
Я ў парк іду, жывой сагрэтаю,—
Да тых, хто дрэвамі ўваскрэс,
Да тых, хто стаў ужо планетаю.

*1983*

## АМАЛЬ ЖАРТАМ

Мілыя залётныя гурманы…
Толькі й чую:
                    Фолкнер… Пастарнак…
Воблакі спытаюць нечакана,
Як жыву…
Ды, пэўна, што не так!
Хлеб жую…
                    Крышу бяссонне лета.

А чало сціскае той папрок:
Не, жанчына, не бываць паэтам,—
Бо сям'я...
Як вецярок, сынок!
Мне сябры паэзію чыталі,
Бы ігралі ў косці на стале.
Знаў бы хто, што ў прыцемкавай хвалі
Ходзіць муза...
Блізка так...
Але
Мне сябры чыталі да паўночы,
Бы тунікі змахвалі з эпох.
Знаў бы хто...
І раптам смагай — вочы,
Позірк, нібы першы некралог.
Муза — вось.
Утомна, басаногае
Бежанка з крыві і міражу...
Ты не бойся.
Ў лісцях над парогам
Толькі чэрап грому і дажджу.
Памаўчы, пастушка-міратворка
З цёмнымі вачніцамі начэй.
Зноў шабаш!
Крычаць гурманы: «Горка!»
Кожны прыцiскаецца ямчэй...
Не дрыжы: я знаю,—
праўды мала,
Мала славы, каб сказаць «люблю»...
Але як, о як мне страшна стала
І за мой народ, і за зямлю.
І за гэта выцвілае лета,—
З дрэў яго так лёгка будзе збіць.
Быць — не быць?
Жанчынай ці паэтам?
А ці можна быць нам ці не быць?!
Знікла ўсё:
папрокі,
крыўды, цела.
Запружыніў нерушны радок.
...Хіба ж мне вось так бы ўсё балела,
Каб не вы,—
і людзі,
і сынок?!

*1983*

## АПОВЕСЦЬ ГУТАПЕРЧАВАГА ХЛОПЧЫКА

Я не загінуў, хоць і ўпаў, мадам,
У тым далёкім цыркавым сусвеце.
Няхай па мне не плачуць вашы дзеці...
Узненавідзім феерычнасць драм.
Я не загінуў.
Я зляцеў, як змог,
З таго шаста, пакручанага лёсам,
Пражэктарным абліты купаросам,—
Пад аняменне публік і эпох.
На гістарычным хісткім вастрыі
У балагане войнаў і патопаў
На мне крышылі молаты ў баі,
Маліла неба за мяне Еўропа.
...І вось надрыў. Я паляцеў з гары,
Раскрыжаваўся,
высмяг,
прыпыніўся.
Мне ўсіх баяцца раяць дактары:
Хто гутаперчавы, маўляў,—
даўно разбіўся!
О як ляцеў я па жыццё назад
З-пад купала,
з-пад веку,
з-пад айчыны.
Крычаць усюды: асадзі-тка, брат!
Хто гутаперчавы,—
ужо даўно загінуў!
Я стаў жанглёрам і лавіў агні,
Зрабіўся нават братам акрабату.
Іграць клінком вучыўся па кані
І паміраць
хоць кожны дзень
за праўду.
Дрэсіравалі. Хто калі як мог.
І я, як мог, змагаўся з дрэсіроўкай.
Гляджу: аншлаг. А ў цырку новы бог
З такою віртуознай падрыхтоўкай...
І ўсё ж раскрыйся, зорны парасон,
Хаця манеж здаўна ў смяротных ценях.
Не трэба... Не трымайце за крысо,
Я так даўно спазнаў цану падзення!

Няхай сягоння цемра не кране
Мой новы трук, рыззю ўсяму на змену.
Хоць, можа, болей не ўваскрэснуць мне,—
Хутчэй святла!
Я выйду на арэну...

*1983*

* * *

Няхай наш свет не зрушыцца нічым,
Хоць мы свой лёс прагрэсам перагрузім.
О клоун славы, мы з табой маўчым
Пад барабанны гром старых ілюзій.
О клоун славы ў смокінгу любві,
Ці, як пінгвіну, страшна ўжо на свеце?
Замешаныя па чужой крыві,
Ілюзіі, вы нас перажывеце.
І ты смяешся, вечны чалавек,—
Не разгадаць нам цыркавых загадак.
Зрываюць слёзы з маладых павек
Ілюз'яністы тытулаў і здрады.
А вось — трукач. Паўславы — па вадзе.
Ну што маўчаць пра ўсё, што набалела?
Вазьміце скіпетр колішніх надзей,
Калі заснем,— вы падыміце ўмела...
О не, не целы... Хоць палову страт.
Вы падыміце памяццю нятленнай
Той свет, дзе прадзед наш, як Герастрат,
І дзе сяло не зблыталі з арэнай.
Дзе нашых рук святая паралель
Яшчэ не стала развітальным крыжам...
Яшчэ ні Рым, ні Лондан, ні Марсель
Не ачмурылі пас гульнёй адрыжак.
Маўчыць трукач. Паўславы — у гадах.
Удар ці стрэл... Усё вядзецца лоўка.
Хоць паласне па добрых людзях страх,
Смяюцца людзі: цырк — перастрахоўка.
Ілюз'яністы стрэсаў і мапы,
Ваш век мінае. Але як бясконца!
Няма вайны. Галоўнае — вайны...
Ці ж важна ўсё астатняе пад сонцам?!

*1983*

* * *

Калі зноў па плячы
залатое гняздо перапёлкі
І баішся крануцца,
каб зноў не парушыць жыццё,
Раптам бліснуць паўсюль
электрычныя пашы пасёлкі
Блізка светлых экспрэсаў,
дзе кожны вагон — адкрыццё.
Мы шукаем сябе,
нібы цэлы сусвет адкрываем.
Самалюбства будзённасці:
болей, далей і ярчэй!
Вымяраем патрэбы,
цану да жыцця прымяраем,
Да любога абутку,
да кожнага дня і начэй.
Прывыкаем да службы,
аўтобусаў, зводак, імгненняў.
Т благога няма ў тых прывычках,
калі да цаны — не ўсур'ёз.
Немагчыма не жыць,
адхварэўшы пакутным сумленнем,
Памянуўшы ўсе цэннікі
па перапёлчыны гнёзды і лёс...

*1984*

**РАЗМОВА**

Іван Паўлавіч Мележ,
Я пішу
не пяром і не нервам,—
Толькі чорным графітам
Усмешкі на Вашых астылых губах.
Знаю, смешна расхітваюць
Тыя «прыспешнікі» чэравы,
Што ні сэрцам, ні болем
Не родняцца
Вашых гарачых развагаў.

І здалося мне раптам:
Вось Вы зойдзеце! З ветру і слоты...
Як прыгнуцца яны,
Хто вяшчуе нам грэбліва лёс.
І рассыплюцца ў друз
Іх касцюмчыкі, звягі, блакноты,
Калі зойдзеце Вы
Ў гімнасцёрцы з Палесся і слёз.

Но хапае крыніц,
Маладой навальніцы, світання,
Каб паверыць
У волі і чэснай пароды зліццё.
Але ўсё-такі выстаім.
Нас пацалуе каханне,
Каб пісаць не навекі,
А ўсё на жыццё, па жыццё!

Вы ўжо знаеце вечнасць.
У геаметрыю ўбіла хаціна.
Слодыч веку і цела...
Мне памяці коні грымяць...
Ёсць сяброўка ад продкаў.
Завецца світальна — Хрысціна,
Калі проста па імені
Многіх няпроста назваць.

Ёсць надзея і роспач,
Зямля і гарачыя сеці.
О як б'ёмся мы ў словах
І муках сумлення ўвесь час.
На чаканую гутарку
Вы мяне да сябе пазавеце...
Альбо самі — заходзьце!
Мне ўжо немагчыма без Вас,

Іван Паўлавіч Мележ.

*1984*

## ТРЫПЦІХ ДА ПАЭТЭС

Дайце, жнейкі, серп займісты...
*Цётка*

### І. СЕРП

Услед за ёю,
за сястрою,
Ідзі ў прасцяг палёў зарою.
І серп твой звонка-залаты,
Сарваўшы раніцу з далоняў,
Пачне жытнёвыя рады,
Дзе спеюць
Заўтра і Сягоння.

Глядзі:
Па вогненнай расе,
Па камянях,
Па недароду,
Па незагойнай паласе
Ляціць сярпок майго народу.
А ён ляціць з далёкіх піў,
А ён імчыцца ў свет шырокі.
Ірвуцца віселіц вяроўкі,
І лопаюцца рамяні.
А ён крапіўны попел жне
Па вёсках спаленых
і хатах.

Снапы...
Як польныя салдаты.
І жнеі —
вы як на вайне.
А серп ляціць з тае мяжы,
Дзе маці спехам корміць сына.
Ў імгненні стоена-адзіным
Цябе хвалюе шэпт: «Скажы!»
І зойме дых,
і ўловіць слых,
Што серп чакае рук тваіх.

## II. ЛЕКІ

Каб здарылася так аднойчы,
Каб лекаркай вясновай ноччу
Табе, спатоленай, здабыць
Агню і ветру лекі-песні
З траў баравых і зёлак весніх,
Сівых калодзежаў, крыніц...
О, як бы лекі пацяклі
Ў акопы, дзе туман астылы,
У раны роднае зямлі,
Яшчэ — у брацкія магілы,
У вочы выцвілыя ўдоў,
У сны ваенных паштальёнаў...
А над маёй зямлёй зялёнай
Крыляюць вырaі гадоў.
Ды ці не трэба зёлак тых,
Каб ацаліць нямыя душы
Ад здрады, страху, раўнадушша,
Ад пошласці і нематы?!
Ды ці не трэба чараў тых,
Што ўсё параненае лечаць,
Што падымаюць зноў масты
Над памяццю асохлых рэчак?
Ды ці не трэба палу слоў,
Каб не асмягла сэрца сына?!
Зямля...
Гісторыя...
Айчына...
Надзея, вера і любоў!

## III. СЛОВА

Пачаць нязмоглае нанова,
Пачуць на вуснах тое слова,
Што расцвіло салодка ў полі,
Што загарчэла ў палыне,
У кузні спела па вуголлі,
У студні бацькавай —
на дне!

Прамужна,
праведна і смела,—
О, як бы слова зазвінела,

О, як бы слова запытала:
Ты здолеў,
Ты паспеў,
Ты змог?!
Прынёс ты песень гэтак мала
З трывожных,
высненых дарог.
А слова вызнала пакуты,
А слова выцерпела путы...
Яму, паўстанцу-касінеру,
Язык гарачы аднялі —
Пасланняў белую паперу
Нямыя словы апяклі...
Нас дарагія словы паляць,
Калі ўзыходзіць светла памяць
Аб тых,
аб першых камісарах,
Маіх няведаных братах.
На акрываўленых папарах
Яны ляжаць, як
на шчытах!
...Пачаць нязмоглае нанова.
Пачуць у сэрцы тое слова,
Што расцвітала,
што балела,
Што палымнела на сцягах,
Што ў зорных
знойдзена шляхах
І ў дарозе
белай... белай...
Хацелася з цяплом
і болем
Ісці
сваім жытнёвым полем.
Хацелася не так сурова
Жаночым лёсам даражыць...
Расці, мой сын,
дапамажы
І абяцай Радзіме
Слова!

*1979*

* * *

Вось і ўсё.
У печы паліць хата.
Гаспадыням добрым не зманю.
Дым стаіць над комінам цыбаты,—
Пасынак бярозкі і агню.

Смейцеся, заезджыя хірургі,
Вы прыроду знаеце наскрозь.
Маладыя ўедныя папругі
Для мяне ў мае сябрыны ёсць.

Гэты збой...
Дыханне астранаўта.
Гэты скальпель нерва і пяра.
Вось і ўсё...
Ляціць над векам хата,
Як мадонна з вечнага кастра.

Ліжуць пяты рэйкі і замовы,
Смейцеся, хірургі-мастакі.
Ў гэтым сэрцы — мудрыя высновы,
У гэтым небе — парастак рукі.

Азірнуся ў колер перадкрылля,
Ападу ў жывыя дзірваны.
Нават маці — з іменем Марыля.
Нават бацька — вогнішчам віны...

*1984*

# БАЛАДА ЧОРНАГА ЗОЛАТА

Перагонку нафты ўпершыню пачалі на Каўказе ў 1823 годзе браты Дубініны, сяляне Уладзімірскай губерні...
...справа, якую яны пачалі і спрабавалі разгарнуць невераемнай працай і настойлівасцю, загінула ў зародку: тады быў ліберальны час для ідэй, але ніяк не ў адстойванні дзяржаўных інтарэсаў!

*Са старога часопіса*

Выцекшы з бункера амерыканскага грузавога танкера, нафта разлілася на многія кіламетры і загарэлася...

*З паведамленняў радыё*

Соль вачэй і начэй...
За акном пасмялее надзея,
І сівая вясна
свой бярэзнік насуне на скронь.
Ёсць у нас, у зямлян,
светлы радасны род Праметэяў,
Да вяршыняў прыкуты
за грэшных людзей і агонь.
Затрымайце пачвары
з ракетнымі дзюбамі веку...
Захліпнулася праўда
кахання майго на плячы.
Чуеш, любы, прачніся
і павер вунь таму чалавеку,
Што ступае, прыгорблены,
па раздарожжы начы.
Гэта я альбо ты.
Мы працяты няверай і скрухай.
Ці звялі цыганы
маладога каня без нары?
То каханне было...
Ты не слухай галубку, не слухай...
Затрымайце пачвары!
Такая бяда на двары.
Набрынялага сэрца
вось-вось разарвецца планета,
Па дзяржаве страсцей маіх
пойдзе раўнівая раць.

Я заву… Я бягу…
Я лячу на агонь апраметнай.
Затрымайце пачвары! —
Мне нельга вось так паміраць

*

Колькі помняць сябе акіяны,
Не гарэлі мерыдыяны,
І напятыя паралелі
На зямельцы маёй не гарэлі.

Палыхаюць паўсюль акіяны,
Гэта жылы планеты парваны,
Гэта выцекла чорная кроў
У святое нутро, нібы ў роў.

Пабрацімы мае, асанны,
Спіны пругкія спаласаваны.
Ў ціхай джонцы рыбак з Ханоя
Ладзіць сеці…
А зловіць што ён?

Акіяны мае, акіяны,
Дыназаўрамі заваяваны,
Ледзь трымаюцца за палюсы
Распасцёртай маёй слязы.

*

І гэтак цнотна плакалі Марыі…
Чыя ж патуга і чыя віна,
Што зноў зямля, як пацерка, на шыі
Ў няўмольнай той, што косіць мір здаўна.
Прарочаць зноў, што будуць аналогі:
Ліяны ў джунглях, рэчанькі ў траве,
Касмічнае «віць-віць» каля дарогі,
Старыя песні ў светлай галаве.
О белы свет! Зачацця тыя мукі…
Няўжо забылі грэшна на зямлі,
Што так нядаўна стомленыя ўнукі
Сваю душу галгофе прадалі…
Кастры чумы. Сутонне інквізіцыя…
Так горка віта трэсла галавой,

Мая зямля, ты прама наталіцца
Непераможнай вогненнай крывёй.
Маю планету ў муках раздзялялі
Глыбіні вод і пікі вострых гор,
Але на Волзе бакены ўзляталі,
Калі страляў мустангаў Эквадор.
Калі брылі так горда караваны
І тлушч каранаў плавілі ў гарбы...
Распята негры бухалі ў тамтамы...
Касмічны страх. Касмічныя рабы...
Ты чуеш, нафта, дзева апраметнай,
Прарочаць зноў вайну мацерыкам...
Эстэты-грэкі славілі паэтаў,
А скіфы горлы рэзалі вякам.
О белы свет!
О свет матэрыяльны!
«Чырвонай кнізе» падуладны звер.
А чалавек адчайна геніяльны,
Як толькі што аслеплены Гамер.

*

Міражы і агні...
Там прайшлі караваны вярблюдаў
Па крывавай Сахары,
па з'едзенай ветрам спіне.
Маладой Шахразадай
пад шатрамі усходняга люду,—
Вось як нафту старыя эміры
прымроілі ў сне.
Толькі глянь, як іскрацца
снягі залатыя ў трызненні...
Помню снежна-вясёлы,
магільна-бліскучы Кландайк.
Я спявала ў тавернах,
і паблісквалі чорна калені,
І плячэй не сагрэць было
ў той ліхаманцы ніяк.
Толькі чуеш, скуголяць
шакалы у прыцемках прэрый...
Прэзідэнты і лэдзі, вы ведалі,—
ціша міне!
Я была індыянкай,
і каўбоі ў шырокіх самбрэра

Заганялі да смерці
на конях шалёных мяне.
О сястра мая Афрыка,
павярніся, гаротная, тварам
Да свабоды і праўды
ў эпоху знішчэння акоў.
Як смакталі з грудзей маіх
сквапныя вусны пажараў
Першароднае, тлустае,
маладое маё малако!
Адплывай, Адысей,
хай шукаюць дарма ў акіянах
Залатое руно
кучаравай тваёй галавы.
Я сірэнай была.
Я любіла сівых капітанаў.
Я старой негрыцянкаю
валюхалася па астравы.
Маладыя, рабуйце
гарачую плоць першабыту.
Я каханне.
Я рух,
Я агонія вашай бяды.
Вы пампуеце ў жылы,
вы гуляеце нафтаю сыта,
Напаўняеце мной,
бы вайною,
свае гарады.
Міжнародных картэляў
старыя палітыкі-мэтры,
Вашы сны — гэта трызны
ліхой вадароднай чумы.
О прарокі і фізікі,
вы злічылі мае кіламетры,
Вы шпурляеце ў гульні
мае маладыя грамы.
Я люблю вас, Планета...
Чаму ж не астынеш ад стрэсу?
Я люблю вас, Еўропа.
Мы стынем ад слова «вайна».
Я кахаю жыццё,
я малая слязінка прагрэсу.
Так не хочацца знікнуць
усёй немінучасцю дна.

Я люблю вас, паэты,
з маладымі ад болю вачамі.
Нашы рукі спляліся,
нашы вусны ад страсці гарачь...
Затрымайце пачвары!
Каханым не спіцца начамі.
Нашы дзеці, як вецці.
Нам нельга вось так паміраць.
Будзе зрыў.
Будзе ўзлёт,
Будзе рэўнасць,
глухая адвеку.
Затрымайце пачвары!
Такая бяда на плячы...
Слухай, любы, прачніся
і павер вунь таму чалавеку,
Што ступае, азораны,
па раздарожжы начы...

*1984*

## НОЧ ПЕРАД...

Прарока соп і боль прарочы.
Але не ведаў Пушкін сам,
Чаму прачнуўся сярод ночы,
Адкрыўшы сэрца галасам.

А ноч праходзіла ў трызненні,
А ноч свіцілася даўно.
Усіх народаў пакаленні,
Ўсе церні глянулі ў акно.

Ці пугачоўца позірк сіпі
Збудзіў паэта ў цішыні?
Но спіць прарок.
А па Расіі
Паўсюль раскладзены агні.

І інквізітары ў салонах,
Мундзіры царскага арла,
Яго штурхаюць з-пад калонаў
У пекла пошасці і зла.

Такі, як ён, заўжды ў апале,—
Любімец муз,
аўрор,
эпох.

Няўжо народы нараджалі
Сыноў любімых для галгоф?

Но спіць паэт.
А ноч, як дзёгаць.
Ўся Русь мужыцкая не спіць.
І востры,
як Дантэсаў локаць,
У небе месяц зіхаціць.

А Пушкін...
Ён бяссонню рады,—
Вясёлы,
дзёрзкі,
малады.
На аганёк яго лампады
Ляцяць планеты і гады.

Там цень Гамера і Атланты,
Там косяць зорную траву...
І рукі, смуглыя піраты,
Ўжо кучаравяць галаву.

Тлусцелі хмары, як дуэнні.
Паэт пісаў, не зводзіў воч.
А ноч была перад дуэллю.
Бяссмерцем дыхала ўжо ноч.

*1980*

## ПАМЯЦІ ІВАНА МЕЛЕЖА

Цішыня над палескім прасторам,
Выйшла рэчанька з берагоў.
Песня простая ў хустцы чорнай,
Як спяшалася ты да яго.
Вестка ўдарыла нечакана,
І салёны здавіў глыток.
Паляцела сцяжынкаю Ганна,
Ў жыта кінуўшы свой сярпок.

(Мне здавалася — ўсё непраўдзіва:
Ціша рання, яснота дня...
Палыхнула чорная грыва,
Зацугляла жалоба каня.

Дык вязі, дык вязі сярод бору,
Пойдзем следам адзін за адным.
Плача маці, сціскаючы гора
Ў кулачку у нямоглым сваім.

Немагчыма...
Неверагодна...
Памяць глыбінка з кожны м днём.
Толькі дотык да рук халодных
Апякае мне сэрца агнём.)

Прысьпяшалі праз вецер каляны
Франтавыя сябры сюды.
Астудзіце ж старыя рапы,
Камандзіру дайце вады.
Шлях нябліжкі...
Слата — у вочы...
Па дарозе, па франтавой
Чым далей ён з байцамі крочыць,
Тым бліжэй —
да перадавой.

*1976*

## МАКСІМУ ТАНКУ

Пра пакаленні раімся дарма.
Тут пасынкаў няма.
Няма староннiх.
О салаўёў салодкая турма!
О памяць год,—
Імчыць, бы горды коннік.

Што скажа ён, трывожных высяў госць?
І цішыня аб чым цяпер грукоча?
Ёсць праўда у людзей, як сэрцы ёсць.

У мудрасці твае святыя вочы.
О памяць ран.
Калі агонь крыляў,
Калі акопы дыхалі радкамі
І калі ўся радзінная зямля
Забінтавана ўласнымі рукамі.

І калі ўсе бярозкі пад акном
Свіціліся знутры гаючым слонам.
Буслінае Элады вешчы звон,—
Такі блакітны ён,
такі суровы.

Максімаў шлях...
Яму гадоў — няма.
Стагоддзяў хлеб салодкі
ў польны будзень.
Пра пакаленні раімся дарма.
Эпохі ёсць.
І як эпохі — людзі!

*10S2*

## СОН У ШПІТАЛІ

— Імя тваё?
— Вільгельм... Апалінар...
Род Кастравіцкіх...
Вольны дух. Змагар.

Замрыце, людзі.
Ў гэты судны дзень
Праз вас пяском прасочацца акопы.
І толькі ён, паэта чысты цень,
Крыштальна ляжа пад снарад Еўропы.
О як ахвяру ўдарыць землятрус.
Ляці, пііт!
Шпіталь...
Парыж...
Знямога.

І раптам — сон.
І ты ў ім — беларус.
Ці ж ад душы заслонішся эпохай?
Табе прысніўся нейкі хісткі плот,
За ім — стары.
Стаіць на бездарожжы.
А над зямлёй такі густы чарот,
Якім не крыюць гмахі ў Рыме гожым.
Не бачыў славы гэты край хімер.
Ды прыпадзі да чуйных створак хвора,-
І ўздрыгнеш ты, пані брат Апалінэр,
Пачуўшы ўраз прызыўны рокат мора.
І мы — ішлі.
У войска... На Парнас...
Баліць радзіма ў целе пілігрыма.
Любоў ці войны...
Ненаежны час
Нас браў ад нас,
як беднага Багрым а.
Фатальны век. Фатальнасцю грашу.
Фатальна зноў унук зрывае дзверы.
І ўсё ж чаму шукалі вы душу
Ў чужых краях,
мае Апалінэры?
Сусветны спрынт у прочкі гнаў здаўна.
Чаму ж бяжым на край чужога света?
Наканаванне, воля ці віна,
Што мы — не мы
у нашых жа паэтах?!
Нясіце ж нас бялявінай бароў,
Накрыйце твары чыстаю паперай.
А сонца ўсходзіць над лясамі броў,
Высокае,
як лоб Апалінэра.

*1982*

## ШЛЯХ АРЫЁНА[1]

### Містэрыя

Адважны подзвіг за народ
Пясчынкай лёг на шлях свабод.

*З верша*
*Джорджа Гордана Байрана*
*«Смерць героя»*

Глухое, ледзь асветленае свечкай скляпенне, дзе знаходзіцца хворы ліхаманкай П а э т . Наплываюць трызненні і прыпары, звонку даносіцца толькі глухі шум ветру...

Час, калі Б а й р а н змагаўся ў Грэцыі супроць туркаў.

П а э т

О, мужны лік, ахвярны лік свабоды,—
Ад мройных песень, віселіц і ран...
Няма на свеце волі для народаў,
Ці гэта раб гаротны, ці тыран.
Цапныя псы, а можа, немаўляты...
Вякі, вякі, раскошы вам стае.
Мой пакербот, не кінь стыхіям брата,
Што так няўмела ветразі куе.
То я кую... І з бронзы, і з надзеі,—
Такія крылы ветру не падняць.
Наўкол цямніца. Хто, адкуль і дзе я?
Чые мячы на што падносіць раць?
І чый прысуд, сяброў альбо пачвараў,
Мяне падмяў, нібы эгейскі вал?
Арлекінады, мімы і прымары...
Чые крыві ты прагнеш, карнавал?

П р ы м а р а  Г а р о л ь д а

Што чую тут? Нанова песня скута,
Ў яе метале мройная атрута.

П а э т

Адрынь, цямніца. Дзеці Альбіёна[2],
Сатрыце скруху з гордага чала.

[1] Паэт старажытнай Грэцыі (VII ст. да н. э.). Згодна легендзе, пацярпеў караблекрушэнне, але даплыў да берага на спіне дэльфіна,

[2] Старадаўняя назва Англіі.

Прачнуся зноў і свет раскрою стогнам
Сярод руінаў цемры і святла.
Ахвярны воблік шчасця і свабоды...
Няўжо Гаргонай станеш на зямлі?
Мой Арыён і песні-першароды
У рай ці пекла праз вятры плылі?
У лахманах, так горда-басанога
Дзяўчынка-мроя, страсць мая здаўна
Мяне вяла, здавалася, да бога,
Прыводзіла да скрухі *і* віна.
Стаў я змаганню верны памагаты.
Руйнуй спакой, вясёлы пакербот!
Было: крычаў так галасна-зацята:
«Віват, кароль!» О як мне крывіць рот.
«Віват, кароль...» Нясцерпна адзінокім
Тады я чуўся, эліны-браты...
Але цяпер не воклічам высокім
Нам разарваць турэцкія драты!
Не знішчыць краты песняй пастаральнай,
А толькі мечам... Рушся, пакербот!
Хто пойдзе ў бой за лёс краіны дальняй,
Здабудзе вольным родны свой народ.

П р ы м а р а Г а р о л ь д а

Што чую тут? Бяссілае імкненне
Падняць свабоду элінаў з каленяў.

П а э т
*(ачуньвае)*

Я сплю? Гарольд? Ты ява ці прымара,
Ці ліхаманкі бедная ахвяра
Перада мной з'явілася?

П р ы м а р а Г а р о л ь д а

Чакай!
Ты двайніка пазнаў і смельчака.
А ява я ці зБродная прымара,—
Ці ж можа праўда зменшыцца ад чараў,
Калі яна высокая, як бог?

П а э т

Аб нізкай праўдзе ты сказаць бы мог?
Такой не знаю...

Прымара Гарольда

Помні, я ўжо быў
І там, куды табе зляцець заўчасна,
Калі маю параду з дабраты,
Як волю бога, не пачуеш ты!

Паэт

Ты грозіш мне? Нашто мне воля бога?!

Прымара Гарольда

Скажу пазней, што раю я... Дарога
Стаміла так...

Паэт

Ну што ж, ёсць час парадзе.
Пачуць хачу, што знаеш ты аб праўдзе.

Прымара Гарольда

Ёсць праўда нізкая, прыроўненая славе,
Той самай славе на канцы мяча,
Якой далёка, Байран, да вянца
Багінь бяссмертных, Музы і Палады.
Што праўдзе той да чалавечай звады,
Да гэтай бойні, скрухі, барацьбы,
Дзе пераможцы ў будучым — рабы.
Ты сам казаў, таму Гарольда згода,—
Няма на свеце ішлі для народаў...

Паэт

Адны — рабы па мляўкай дабраце
І слабасці сваёй...

Прымара Гарольда

Але ж тыраны...

Паэт

Няма нікчэмней тых, чый хіжы меч
Здымае ціха брату голаў з плеч.
Качан з грады сваёй яму прыставяць
з песняй:
Маўляў, пасля ён вольным уваскрэсне.
З такой пачварнай хітрасцю, Гарольд,
Ніякі не адродзіцца народ.
Бо колькі б голаў ласкай ні чмурылі,
Не будзе элін туркам дзеля хвілі.

П р ы м а р а   Г а р о л ь д а

Але не стане элінам і лорд,
Хто ўжо пяро ўмакнуў у тую славу,
Што нават клетку з іменем «народ»,
Як павуціну, рве... Далоў дзяржаву!
Ёсць толькі бездань, вечнасць і прастора,
Дзе зніклі нават заўтра, сёння, учора,
Дзе ёсць каханне вечнае...

П а э т

Распуста!

П р ы м а р а Г а р о л ь д а

О не, мой сэр, яшчэ жыве Аўгуста!

П а э т

Не руш, прашу. Двайнік, ты моцны тым,
Што ў вочы сэрца цягнешся, як дым.
Пякучы ён. О як ён памяць коле
Такім густым, такім салодкім болем...

П р ы м а р а   Г а р о л ь д а

Чакай, мой лорд...

П а э т

Я толькі карбанарый
І слаўны тым, чым слаўны кожны парый.
Цяпер мячом паэзію сваю,
Як молатам, з нянавісці кую.

П р ы м а р а Г а р о л ь д а

Але ж Аўгуста...

П а э т

Соладка, паломнік.
Не трэба зноў... Не для прыпар той помнік.
Не для багоў, халодных і святых.

П р ы м а р а   Г а р о л ь д а

Але ж Аўгуста...

П а э т

Забівае дых...
Прымара, до!

П р ы м а р а Г а р о л ь д а

Ў Алі-пашы Аўгуста!
І ты, мой сэр, з яго пачварных лап
Павінен вырваць свой каштоўны скарб.

П а э т

Я карбанарый...

П р ы м а р а Г а р о л ь д а

Хлусіш ты, Джордж Гордан,
Такой душы — пакутнай, грознай,
гордай —
Нашто кілзаць турэцкае сірока?
Адно чакае: ястраб клюне ў вока,
Каб асляпіць... Такую знаў пагарду?
Ці, можа, скажаш, вымаліш спагаду
У тых, чый лёс бароніш ты мячом?!
Паэт Брытаніі,— дык стань яе ключом
Да тых дзвярэй, што нам адкрыюць свет.
Мы прагнем сэрцаў, земляў і планет.
Як абнавіцца тым агонь крыві.
Ад продкаў ты і продкамі — жыві.
Я быў таксама воляй апантаны,
На трон змагання быў каранаваны,
Шукаў збавення ад духоўнай смагі
І сынам стаў... О не, рабом адвагі.
О так, рабом... Сляпое кацяня.
Усе пашы войны, страты... Усё гульня
Для вечнасці, якая тым кіруе.

П а э т

А што ж Брытанія? Рашы задачу тую...
Як мне радзіму з вечнасцю звязаць?
Дзяржава ж — межы.
Вечнасць — крышыць краты.

П р ы м а р а Г а р о л ь д а

А хвалішся яшчэ, што стаў салдатам.
Ёсць ісціна: хто сілу духу мае,
То вечнасць тых у свой хаўрус прымае,
О карбанарый, сон гані з павек,—
Не пераможа турка сёння грэк.
Паўстань жа духам, Байран, геній долі,
Свой меч шпурні у тхло зямной юдолі.

Ўзляці над ёй і будзь, як я, шчаслівы,
Не блытай, Байран, музу і алівы.
І не падумай... Тым не створыш здрады,
Паслухаўшы Гарольдавай парады:
Ты палікараў[1], стомленых, сягоння
Пашлі на левы бераг Ахерона[2].

Паэт

Гарольд, маліся...

Прымара Гарольда

І з турэцкіх лап
Аўгусту вырвеш.

Паэт

Досыць! Мілы скарб,
Мой скарб з пачварай дыхае смуродам.

Прымара Гарольда

Не будзе волі тым зямным народам...

Паэт

Алі-пашы ты служка... Зразумеў
Я твой прадажны і лісливы спеў.
Двайнік, маліся, меч мой нагатове.

Прымара Гарольда

Не я, а ты заснеш у брудным рове.
Адумайся, хто сілу духу мае,
То вечнасць тых у свой хаўрус прымае.
О карбанарый, сон гані з павек,
Не пераможа турка сёння грэк.
Адкрыў мне бог, што воі з Алазана
І без цябе зруйнуюць гнёт карана
Ды не цяпер!.. Калі ж, і праўда, зноў
Ты барацьбы запрагнуў, нібы сноў,—
Змагайся, бард! Але — пяром і словам.
Вось барацьбы мэтавай аснова.
Няўжо падняць па ворага не ў сіле
Пяро сваё? Яно страшней за меч!

[1] Палікар на сучаснай грэчаскай мове азначае «дзяцюк». Ужывалася ў значэнні агульнай назвы воінаў.

[2] Назва рэчкі ў паўночна-заходняй Грэцыі.

П а э т

Як мякка сцелеш... Прывід марны, прэч!
Но стане той паэтам для айчыны,
Хто ў цяжкі час хаваецца за спіны
І, нацягнуўшы гераічны німб,
Заве ў баі па мове мудрых рыб.
Я знаю слова сілу і бясстрашша,
Не бойкай дужы,— ў слове я змагар.
Але крывёй сцякае воля наша,
Ці ж адмахнуся лірай ад ахвяр?!

П р ы м а р а  Г а р о л ь д а

І гэта геній? Жорсткаму, сляпому
Не ліра будзе спадчынай, а кій,
З якім у Храм паэзіі нікому
Без церняў шлях не ладзілі вякі.
Забудзь пра музу! Калі ж волю бога,
Маіх парад не ўцяміш да канца,—
Рыхтуйся, Байран! Смерць — твая дарога!
Цяпер зрачэшся ціхага вянца?

П а э т

Бяскроўны храм, дзе мужнасць на каленях,
Нямала хлусаў прагне там збавення.
*(Прыслухваецца.)*
Але чакай... Ці чуеш ты? Вятрэц
З гары бяжыць там?

П р ы м а р а Г а р о л ь д а

Не, мой сэр,— ганец!
Ён за парадамі з наіўнасцю юначай
Бяжыць сюды! Дык помні ўсё... Іначай
Памрэш адразу ж, Байран. Дый Аўгуста!
О што з ёй зробіць туркала распуста!
А ты — «свабода»... Што ёй сыпаў скарб?
Самой бы ўцекчы з ненавісных лап.
Твой боль — чужы ёй.

Задыхаўшыся, убягае Э л і п.

Э л і п

Браце... Браце, гора.
Алі-паша, як спрут, пас цягне ў мора...

П а э т

Аўгуста родная...

Э л і п

Ты чуеш, браце, стогн?
Там палінарый.. Бойка... Ахерон...
На левы бераг рэчкі ці на правы,
Скажы, куды нам бегчы ад няславы?
О хоць бы хвілю адпачыць Эладзе...

П р ы м а р а Г а р о л ь д а

Лорд Байран, помні...

П а э т

Тут не месца здрадзе.
На правы бераг рушце, чуеш?

Э л і н

Так!

П р ы м а р а Г а р о л ь д а

Сябе ты знішчыў, Байран. Божы знак...

П а э т

Я знаю: смерць! Ды песняй пастаральнай
Мой меч не стане! Ў неба, пакетбот!..
Хто пойдзе ў бой за лёс краіны дальняй,
Здабудзе вольным родны свой народ.

Э л і н

Ён памірае... Гэты ціхі стогн...
Зямля Брытаніі, ты зноў яго парог.
О як Эладзе страшна стала, пуста.
Што будзе з намі?

П а э т
*(шэпча)*

Я любіў, Аўгуста...

*1983*

## ВЫЙДУ З СЭРЦАМ...

**Маналог**

*Да 100-годдзя з дня нараджэння Янкі Купалы*

На пуцявінах роспачы і славы,
Святы, як боль, суровы, як граніт,
О родны край, ты быў шчытом дзяржавы —
Усе вякі па грудзі браўся шчыт.
Іду з дарог Ярылы і Пяруна,
Іду з трывог у баравы прыбой.
Ты чуеш, край:
паэт зайграў па струнах,
Напятых зноў між небам і табой.

Ці гэта спеў за мроім іным аконцам,
Яго зашкліла ціхае «люблю»,—
Ці гэта пал натруджанага сонца,
Што ўкруг мяне варочае зямлю?

Хай слова трызніць
праўдай і працягам,
Блакітам рэк і золатам палян.
Вітаю міг, што затрапеча сцягам,
Скідаю сон, круты, нібы курган.

І хоць душа з нягоды паўставала,—
Не наракай,
Прачнуцца ўсіх прымусь!
О родны край,
Няўжо я быў Купалам,
Няўжо я стаў Купалам,
Беларусь?!

## «АД ПРАДЗЕДАЎ СПАКОН ВЯКОЎ»

Я гэта бачу:
Стынуць камяніцы,
Ідуць зубры у пушчы і вякі.
А хмары зноў, як гусі-вырайніцы,
Усё плывуць над поймаю ракі.

Я гэта бачу:
Зорнаю лускою

Сваё чало ацерлі курганы.
Вось-вось —
і доля мне махне рукою:
Як правай — гусі,
Левай — груганы.

Мой прадзед правіў
к берагу даўбанку.
У рыбе — восці. Вёслы на вадзе.
А ноч глытала малако світанку,
Наеліся чэрці ў дзеда ў барадзе.

Ускрыкнуў певень горача і звонка,
І толькі грэбень біўся паміж зор.
О, як шпурнула хату з немаўлёнкам
Вятрамі мроі ў ранішні прастор.

Але на днішчы соннага каўчэга,
Што смела плыў да новых берагоў,
Я быў слязой,
Я быў ядром арэха,
Я быў чаканнем прадзеда майго.

*

Калі птушыны статак апантана
Усё вызвоньваў крыллем па вясне,—
«Ой, рана-рана, рана па Івана»,—
Спявала так бабуля пра мяне.

Яна яшчэ не знала, хто я, дзе я...
Патрыярхальна пасвіла гусей,
Нібы ганяла дубчыкам падзею,
Уся — за ўсіх...
А за яе — не ўсе.

Каціўся дзень слязою малітоўнай,
На ўзмежку неба вогнішчы цвілі.
Яна была адчайна невядомай,
Бы морквінка, выглядвала з зямлі.

І толькі я спазнаў і змог здзівіцца:
На перахрэсці цемры і дабра
Узялася, знаць, з яе хімер царыца
І Бандароўна гордая — з рабра!

*

Прыдбаў парог сабо,
і годзе?
Ці гэтак ладзіцца ў народзе?..
Той гнюс і хлоп, каму нарог,
А у каго жупан,— той бог!

Па-над капліцай Радзівіла
Хвост падняла кацяча сіла.
Кабет гуртоўка на дварэ
Ваду з калодзежа бярэ.

За вёскай рэчка.
Мост кляновы.
Там вербы, донькі перуновы.
З пахучым сенам воз плыве.
Маланкі свецяцца ў траве.

Калёсы каляю жуюць.
А з пашы вунь кароў жануць.
Там гоняць быдла — ані рыку,
Ці быдла да такога звыкла?

І раптам склычаны рагун
Падкіне сонца на бягу.
І вёска здзіўлена замрэ.
Платамі неба падапрэ.

Дзядзькі, дзякі...
Паны, падпанкі...
Грукочуць боты, гнуцца ганкі.
Кіпіць, аж пеніцца, жніво...
Дзіця радзілася...
Жыво!

*

Го-го, каза рагатая, го-го...
Ну што ты хочаш ад дзіцяткі майго?
Чаго ўжо табе, барадатая ведзьма?
Ад лета, бачыш, дыхае ледзьве-ледзьве
У жніво ўпраглася,
бы ў калясніцу знямогаву

Грудзі занылі,
а калыскі — няма!
Я шукала па норах,
па гнёздах і логавах,
Там, дзе лета і восень, дзе вясна і зіма.
Запытала ў ваўчыны, ці відзеў сыночка,
А ён завыў, што палюе ночкай.
У арла двухгаловага пытала крывінку,
А ён мне пячатку, як дубінку ў спінку.
— Мядзведзюхна-бацюхна, ці відзеў Івана
Не страціў — добра.
Страціў — пагана.
— Я дзіця гушкаў, я дзіця забаўляў.
Знатужыўся па-звярынаму,
Разарваў.
Разарваў я грудзі яму кіпцюрамі,
Прыкладаў гаючую мазь да раны…
— Л якая ж рана у малога сына?
— А Радзіма, малодачка,
Радзіма!

**«ГАРТАВАЛА СЛЯЗЬМІ І КРЫВЁЮ НАРОДА»**

Ці хтось бароніць свой шляхетны род,
Ці певень —
свой гарохавы гарод,
Усё адно да восеньскай расы
Вылежваюцца дні, як гарбузы.

Валочыць маці цень цераз граду,
А цень той гнецца: вось вазьму ўпаду!
І раптам думкі (сынку, памажы),
Нібы тапельцы, вырынуць з душы.
А ў іх на вуснах горы нематы,
А ў іх на шыях чорныя драты.
Ты што, музыка,
во гузак трымай,
Бы дзедаў комін, вытыркнуўся ў рай.

Які разьбяр над імі гараваў,
Нібы пілой на скрыпачцы іграў?
Давай жа, брацці, вусны растулі,
Што камянямі важка абраслі.

А маці кажа:
— Што такое, сын,
Ці я адзіначка,
Ці ты ў мяне адзін?
На верацёнцы жылы не зрывай,
Ты патрывай, дзіцятка, патрывай.

Ужо душа, бы млын каля вірох,
Мы ссыплем бульбу з зорачкамі ў лёх.
Чаўны вачэй сплывуць за небакрай...
Ты патрывай, дзіцятка, патрывай.

Усё міне, патрушчыцца...
Дарма...
Ў рацэ тапельцаў сонная гурма.
Здзімае вецер брыдкасць і красу.
Вазьму во гуску,
ў цэркаў аднясу...

*

Быў першы сын аддадзены ў салдаты,
Альпійскі снег падэшвамі абдзёр.
Ён быў на шаблі вогненнай жанаты,
Любіў арліц, як брат сваіх сясцёр.
Не прызнаваў ні пекла, ні малітвы...
Калі ж, адбыўшы доўгую вайну,
Спяшаў дамоў,
то быў салдат забіты
Адным ударам здрадніка ў спіну.

Другога, бач, русалка па світанні
Заказытала, змучанага, так,
Што ён забыў і маці, і каханне
І гуслі ў багну выкінуў, бядак.
Без песень свет цямнейшы ад цямніцы
І ён, сляпы, абмацваў навакол
Вятры і снег, агонь і навальніцы,
Спачатку — неба,
Потым — шорсткі дол.

А трэці быў, як вольны птах па свеце.
Як рыцар дзіду, нёс агонь святы.
Сцяжыны ўсе — яго малыя дзеці,
Рачулкі — сёстры,

Камяні — браты.
Ён разрываў зланцужаныя крыўды,
Ён рассякаў змурожаныя сны.
Пісаў крывёй такія манускрыпты,
Што не патонуць,
Не згараць яны.
Ў чужых краях узвёў такія сцэны,
Муры і вежы!..
Іх — не паўтарыць...
А гліну везлі з той зямлі нятленнай,
Што мацярынскай памяццю гарыць.

*

Мне ўзлажылі па голаў
купальскае кола гарачае.
Кажуць, гэта вянок.
Кажуць, сам я
купальскае сэрца маю.
А бусел думае, што гэта палае
гняздо яго бусляначае
І разносіць агонь па ўсім белым свеце,
па родным краі.
Запаліў ужо рэкі.
Заходзяцца гудам яны,
расцінаюцца.
Закіпелі азёры,
З дна паданні пусцілі
па бераг руды.
На крыжах ручнікі, нібы рукі,
за вецер хапаюцца.
А мне, дзеўкі, вады дайце,
дайце, дзеўкі, вады...
Вось пайду я па свеце
за сіняй купальскаю кветкаю
З тым старым ручніком,
што сарваўся з крыжа да мяне.
Нехта ў брычцы пагнаў,
напрасцяк паімчаўся, палеткамі.
Хіба сцежкі няма?
Ну навошта ён жыта гне?
Я пайду па зямлі...
(А сцяжыны крывыя і гразкія.)

Абрасла яна пушчамі,
нібы думкамі галава.
І гарадзь на чало яе вогнішчы,
духі паганскія.
Ні князёў, ні падпанкаў...
Адна маладая трава.
Толькі меч узляцеў —
і зязюлямі ўдовы заплакалі.
Там спляталі кальчугі
са струн залатых і пянькі.
І, абняўшыся моцна
з русалкамі і ваўкалакамі,
Крывічы ўсе паснулі,
пад голаў паклаўшы вякі.
Чым усцешыш, зямля?
Ты, як сон, адцвіла летуценна.
На плячах тваіх цэрквы —
іх рабілі з касцей і надзей.
З тваёй русай касы
пакасілі гарачага шорсткага сена,
Накачалі камення
з тваіх белых дзявочых грудзей.
З рук бяроз тваіх светлых
нашчапалі лучыны
іржавымі брытвамі.
Ўсё віруе, мігціць...
Аксельбанты, карэты, гудкі!
І, абняўшыся моцна
з сухотнай дрыгвой і малітвамі,
Спяць мае беларусы,
пад голаў паклаўшы вякі.

## «К СВАБОДЗЕ, РОЎНАСЦІ І ЗНАННЮ»

Я стаў вучыцца, кніжнік і вярэда.
Пакінуў сёлы, ўзгоркі, паплавы,
І доўга месяц быў маім суседам
У доме каля гордае Нявы.
Я спазнаваў размах і боль палётаў,
А дома багны ганьбілі народ.
І гусляры ўставалі над балотам,
Як горы з вадаспадамі барод.

Яны былі крамянае народы,
І пад узмахам вешчае рукі
Грымелі гуслі голасам свабоды!
А песнярам кідалі медзякі.
Дармо, сябры,
Смыліць здаўна ўсё роўна
Мая душа ад гэтых медзякоў.
Ужо зляцела з кручы Бандароўна,
Здрыгнуўся век манархаў і акоў.
Я бедаваў... Пісаў, даваў урокі —
Пазык не заплаціў з пары тае.
Дармо, сябры,
Ці рэдка у прарокаў
Бывае так, што грошай не стае?!
Чытаў я зноў, вучыўся апантана,
Не тое каб ад цемрадзі адвык...
Л дома песню простую да пана
Цягнулі абцугамі за язык.

*

О мова родная.
Пастух твае ўлады,
Я ў свет ішоў, я стукаўся ў двары.
Як вісельнікі, хмурныя балады
Зрывалі з горлаў чорныя шпуры.

Лізалі грозна след мой ліставеі,
Сівеў мурог, чарнеў гарачы снег.
І гнёзды птушак, нібы эпапеі,
Агнём дыхнулі з-пад гарачых стрэх.

З табой раслі... З табою паміралі...
З табой такімі роднымі былі.
Хаўтур і хрэсьбін вечныя скрыжалі
Распялі песню нашу на зямлі.

О мова родная!
Не для таго, каб цешыць,
Уводзіць бога грэшнага у зман.
Бо я мужык...
Мой лёс — мой жытні вершык:
У неба — колас,
Корань — пад курган!

## «НЕ ВЕРУ КУПЛЕНЫМ ПРАРОКАМ»

Дабрыдзень, Вільня.
З праўдай і палюддзем.
Ўскіпалі краты і за імі — мы.
Ці «Нашу ніву», ці народ засудзяць,
Ці закілзаюць гордыя грамы?
Прыснілася:
У мой пакой-лядоўню
Прыйшоў манах, нібы сцяна, руды.
І так сказаў:
— Аддай сваю паходню,
Няма агню без хлеба і вады.
Навошта быць натруджаным нарогам?
Не азірнешся,
жыццё прамільгне...
Я гэту справу улагоджу з богам:
Табе свабода,
А паходня — мне!
Вячэрні морак, згрызены мышамі,
Шаптаў малітву ў выцвілым куце.
Ці ёсць, манах, свабода пад крыжамі,
Дзе кожны крыж
з людскіх касцей расце?!
Быў дзень другі.
Праменне біла ў скроні.
Прыйшоў чыноўнік і завёў нуду:
— Я ўсю як бач паэзію ўзаконю,
Я па талент пячатку пакладу.
Шаптаў яшчэ:
— Няма цяплей пасцелі,
Мудрэй маўчання...
Здрада — без цаны.
І ўсе законы царскія рыпелі,
Нібы старыя мыліцы маны.

*

Усё хадзіў па цёмным лабірынце,
Хоць добра ведаў з даўняе пары:
Вось — ворагі мае! Але скажыце,
Адкрыйце праўду: хто мае сябры?
Няма адданей поля і дарогі,
Сівога ветру, дужых ветракоў.

Я ў іх вучыўся змалку, да знямогі
Не прызнаваць ні страху, ні акоў.

Спазнаў я рэк суровае сваяцтва,
Калі душу высмоктвалі віры.
Вучыўся жыць, змагацца і спрачацца...
Але скажыце: хто мае сябры?

Гудуць званы над брукам і. папарам,
Дрыжаць хаціны, дрэвы і муры.
Я веру шчыра вогнішчам і марам
І вам, нашчадкі,
Вам, мае сябры!

## «ПА БЕЛАРУСКІМ БІТЫМ ШЛЯХУ»

Каб наталіць сяброўства смагу,
Сышліся ў квеці веснавой
Па беларускім бітым шляху
Паэт, ратай і смелы вой.

Ратай узяў пяро паэта
І баразён не пакрывіў.
Ускаласіла поле гэта
Свабодай, даўкай ад крыві.
Сказаў ратай:
— За шчасце й волю
Крывёй не стану даражыць.
Але нідзе, але ніколі
Без хлеба людзям не пражыць.

Паэт зямлю сваю радкамі
Спісаў нарогам, як пяром,
І расквітнела васількамі
Яго жытнёвае дабро.
Сказаў паэт:
— О сіла хлеба!
Я ўмею полем даражыць.
Але душа, ўзляцеўшы ў неба,
Ці толькі хлебам можа жыць?
А трэці ўсё пяро не кратаў,
Нарогам гоні не араў.
Напэўна, у ваякі-брата

Нямала іншых важных спраў.
Плыў чорны цень пад белым светам...
І вой спяшаўся ноч крышыць,
Каб ім, ратаю і паэту,
Зямлёй і словам даражыць.

Не наталіць свабоды смагу!
Праз боль акопаў і франтоў
Па беларускім бітым шляху
Спяшаў Кастрычнік да братоў.

*

Смяецца возчык... Чорт яму за брата.
Мяркуе так:
                    прыйшоў па свет гасцём.
А сонца — як чырвоны бант за кратамі,
У небе паміж смерцю і жыццём.

Надломаў часу незагойны верад.
Карчма занудзіць. Голад запяе.
— Ну хто мне скажа, як ісці наперад?
— Хе-хе, ці там няма вайны тае?
Убачыць возчык, што паходня ззяе.
— Ты, гэта, чуеш... Воз мой не спалі!
Вайна тут грамадзянская, святая:
Хто — за палацы,
А каму — палі.

Я быў ад смерці блізка і далёка,
Мігцелі рэйкі, тлелі бівакі.
Крычалі мне сухія вусны Блока
Пра чорны шоўк, пра неба і штыкі.

Ішлі цары і парабкі, як цені,
Плылі вякі і хмары праз мяне.
З пакутным зрокам восеньскі Ясенін
Свой боль шаптаў аб песні і вайне.

Каціў Дняпро растурханыя хвалі
Па рыфах дум Шаўчэнкавых і сноў.
Не так раджалі, як дзяцей хавалі...
І вось я зноў купалаўскі, я зноў...

І вось я зноў, купалаўскі, распяты.
Грымяць павозкі. Бухаюць званы.
Дарогай стаў...
Ох, як ідуць салдаты.
І бежанцы... Ох, як ідуць яны!

Кіпіць усё ў шалёнай крутаверці.
Хлапчук матулю ўтраціў,
плача так!
Агонь і кроў —
я ўсё сцярплю, паверце,
А плач дзіцячы, плач той,— аніяк!

## «ТАК БАЦЬКАЎШЧЫНУ Я ЗДАБЫЎ САБЕ»

Нібыта голас цененькі жалейкі,
Той боль далёкі стыне у вушах.
Прымружу толькі стомленыя вейкі —
Старыя вёскі...
Выпетраны шлях...

Прыйшла пара для радасцей вясенніх,
І новы дзень — як прычаканы зяць.
Здыму пінжак.
З плячэй злузаю цені.
Ляцяць гады... Гады мае ляцяць.

Спраўляем сёння новыя зажынкі.
Ало ўспамін, Лявоніха, прабач.
Ірвецца з рук гармонік вечарынкі,
А я ўсё помню той дзіцячы плач.

А я ў агні. Арэса правіць гулі.
Душа кіпіць ад песень і сцягоў.
Я знаю, людзі, што ва мне вы чулі.
А плач дзіцячы... Ўчулі вы яго?

*

Чые лясы змалоў тартак стары,
Чыю сасну чыя ўзяла сякера?
Былі паводкі, крыгі і віры...
Яшчэ сябры і іх святая вера.

Яшчэ любоў, з якою уваскрэс.
Вітаў сяброў...
Мяне сябры віталі.
Казацкі праўнук буйны Днепрагэс
Пусціў чупрыну вольную на хвалі.

Калі сады пад небам залатым,
Нібы пад скурай тыгравай, кіпелі,
Грузінскі друг мой з гронкай барады
Стаяў між гор, як віцязь Руставелі.

Я быў ашугам... Вогненны лезгін
Мне падарыў папаху Дагестана.
Здалося мне:
Пайду па дно нізін,
А галавой да самых зор дастану.

Усходні горад добраю парой
Маіх буслоў гняздзіў на мінарэты.
Світала Волга ленінскай зарой!
Сябры мае...
Браты мае...
Паэты!

*

Спяшаў народ мой ад зямлі да зорак.
І я заўсёды верыў у прагрэс.
А прыйдзе ён,
Λ прыйдзе той гісторык...
Вось ён прыйшоў, з надзеі уваскрэс.

І той хлапчук, што падрастаў у марах,
Сягоння стаў паходняй для мяне.
Стаю на хмарах, нібы на папарах,
Расхрыстаны і смелы, як раней.

Я знаў: няма ледавіковай эры,
Ёсць маманты, якім не страшны лёд.
Ало на справе, ў дзеі,
на паперы
Кастрычнік благаслаўляе мой палёт!

## «І ЎДАР, ЯК ПЯРУН»

Ёсць у кожнага повень душы,
Дзе паходня сцягоў над вятрыскамі.
І ў пракокаў у горле пяршыць
Над магіламі і над калыскамі.

Пераслухала столькі дарог.
Ціхі помнік…
Пагорак змурожаны.
Прыпазніўся, раней я не мог.
Я раней быў такі задарожаны.

Град агонь аб плячо выкрасаў,
Хмара трэсла дажджыстае сіта.
Я но ўсё яшчэ вам папісаў.
Я не так яшчэ…
Дзе ж гэты сшытак?

У прарокаў на ценях рубцы,
Чалавечыя радасць і слёзы.
Ёсць манахі, трыбуны, байцы,
Ёсць узросты…
А ёсць яшчэ лёсы.
Я не ўсю яшчэ песню дапеў.
І сумненні, як попел, развеяны.
Крэсла стукнула… Стол зарыпеў…
Толькі сшытак… Аловак…
Ну дзе я? яны?

*

Да акна Алесі на світанні
Трое незнаёмых падышлі.
Ціхі стук. Сухі. агонь герані.
І старая вечнасць у галлі.

Быў адзін здалёку, як з учора.
Пракаветным сном укамянеў.
А ў душы рамон, тытунь, і гора,
Ды акрайчык месяца па дне.
— Ты ідзі…
Пабачымся ў дарозе.
Знаеш сам, без песні нам не жыць.

Я кахаць цябе ужо не ў змозе,
Бо не ў змозе болей разлюбіць.

Быў другі задумлівы, як заўтра.
Нечаканы, дзіўны, як парыў,
І вятры стаялі, нібы варта,
Пэўна, то гісторыі вятры.
— Ты ляці!
Сустрэнемся ў дарозе.
Знаеш сам, без мары нам не жыць.
Я цябе кахаць яшчэ не ў змозе
І яшчэ не ў змозе разлюбіць.

Ну, а трэці, сённяшні, бялявы...
Сумавалі бровы, як гаі...
Дзве слязы скаціліся на травы,
Дзе калісьці пелі ручаі.
Толькі нам такое лёс адмераў,
Што, здаецца, і ў вадзе згарыш!..
Сорак першы...
Чэрвень...
Стук у дзверы:
— Янка, Янка, ну калі ты спіш?

*

І зноў мае старыя Махаеды
Свой бохан пеклі з моху, жалудоў.
Вячэраць — горам.
Попелам — абедаць
І святкаваць пяшчымпіцай удоў.

Я знаў адно:
Ці — смерць, ці — перамога.
Няма другога, трэцяга — ані...
Не плач, мой хлопчык,
Б’ецца над парогам
Тваё малое сэрцайка ў агні.

Ідзі, мой люд, ляці сонцапаклонна,
Ступай, народ, па сцежцы і вадзе.
Ў крыві аблаў сасонка, як мадонна,
Цябе прытуліць моцна да грудзей.

Было вякамі — катавалі, гнулі.
А ты мацнеў, а ты цвярдзеў ад слёз.
Я не кажу, што словы —
гэта кулі,
Але скажу, што песня —
гэта лёс.

«Партызаны, партызаны,
Беларускія сыны!»
Над удовіным Іванам
Два зялёныя кляны.

«Рэжце гітлерцаў паганых,
Каб не ўскрэслі век яны».
Стынуць клёнікі ад рана —
То Іванавы сыны.

«Няхай ваша перамога
Не кідае вас нідзе».
Колькі зведалі аблогі
Тыя клёнікі надзей.

«Ваша чыстая дарога
Да свабоды давядзе...»
Не ад неба, не ад бога —
Ад Іванавых грудзей!

## «ПРЫВЕТ ВАМ, ВОЛЬНЫЯ ПАЭТЫ»

Няхай вайна вайною ваяводзкі
І ліжа неба дымам з каміноў.
Няхай маўчаць,
Няхай крычаць стагоддзі —
А я, купальскі, думаю: дамоў!

Ну што ж ты, вецер,
вогнішчамі хрышчаны,
Прыносіш рэха матчыных замоў?
Ілбы палян залубянеюць пнішчамі,
А я, бы гром у хмары,— ўсё дамоў.

І недзе там, за снежнымі гарамі,
За касцякамі вымерзлых дарог,
З-пад вострых пік сасновай дыярамы,
Як гузік, зорка дзынкне аб парог.

І недзе там, за рэчак паясамі,
Дзе век суровы: рукі распасцёр,
З галіны снег, пасолены слязамі,
Неспадзявана пырхне у касцёр.

А ты палай, касцёр людской адплаты.
На майскіх тварах —
сумнае асцё.
Хто скажа: будзень...
Скажа нехта: свята.
І Ірамовіць час, што ўсё яно —
Жыццё.

*

Хіба жывеш, каб хто дарма прывеціў?
Хіба расцеш, каб хто памераў рост?
Вітаю зноў паэзіі бяссмерце,
Бяссмерце продкаў, сцежак і бяроз.

І быць сабой...
І быць такім няпроста.
Адлушчваць скруху будняў-безнадзей.
Вітаю зноў паэзіі сяброўства,
Сяброўства крыл, сузор'яў і людзей.

Агністы сцяг і польная аржанасць.
Цяпло планет і веснавой раллі...
Вітаю зноў паэзіі дзяржаўнасць,
Дзяржаўнасць хлеба, слова і зямлі.

*1981—1982*

# СУД АЛАІЗЫ

Драматычная паэма

## ЗАМЕСТ ПРАЛОГА

Пецярбург 1902 юда. Невялікі дом на Васільеўскі»! востраве, дзе кватаруе слухачка вышэйшых педагагічных курсаў П. Ф. Лесгафта А л а і з а  П а ш к е в і ч, будучая беларуская паэтэса-рэвалюцыянерка Ц ё т к а. У яе пакоі на сяброўскую вечарыну сабралася моладзь, што вучыцца ў сталіцы, а таксама студэнт з Вільні А н д р э й  Г м ы р а к, закаханы ў Алаізу. Агульнае ўзрушэнне, гамана. Па стале шклянкі з гарбатай. Засланы посцілкай ложак. У кутку на тумбачцы — неўпрыкмет прынесены С т у д э н т а м - м е д ы к а м і прыкрыты газетай чэрап. Дзяўчаты спяваюць.

Каля саду рэчанька,
Каля саду быстрая.
Там плавалі тры чаўпочкі
І тры рыбалоўцы...

А л а і з а

Нява... Сталіца... Светлая пара.
Сівога ветру буйная чупрына...
Сышліся землякі на вечарыну
Не ў першы раз да нашага двара.
*(Прыслухваецца да песні.)*
Адзін кажа: дзяўчына.
Другі кажа: адзіна.
Трэці кажа: ты мая...

Г м ы р а к

Мы ўсе цяпер — вялікая сям’я.

П е р ш а я Д з я ў ч ы н а

Зліваюцца, як песні, успаміны...

Д р у г а я  Д з я ў ч ы н а

Сарваныя з двароў, дачкой і сынам
Адчулі мы сябе яшчэ вастрэй.
Калюча памяць пад рабро бярэ.

С т у д э н т - м е д ы к

Дзе маці жне, дзе бацька возіць гліну,
Дзе крыж дарожны, як распяты птах.

Плывуць праз вёскі хмары апранах...
Няма сумней зямелькі той, адзінай...

Г м ы р а к

Але няма радней нам хатак тых,
Адкуль мы выйшлі да сталіц і кніг.

А л а і з а

Я пачну табе, бацька, здалёк:
У вазку маладосці крылатай
У спіцы ўбіўся адзін васілёк
І ўсё круціцца, нібы пракляты.
Ён і праўда пракляты ў багоў.
Колькі скрухі у кветачцы сіняй.
Хтосьці туліць да сэрца яго,
А дужэйшы,— дык вырве і кіпе.
І растопча, як праўду людзей,
Нашу волю і родную мову.
Свежы вецер у голлях гудзе,
Стогне край над арлом двухгаловым.
*(Алаіза раптам уздрыгвае,*
*заўважыўшы чэрап, з якога зляцела газета.)*
А гэта што?

С т у д э н т - м е д ы к

Прэзенцік медыцыны.
Сталічны Ёрык...

Г м ы р а к

Пекная карціна!

С т у д э н т - м е д ы к

А што, няхай... Ляжыць вось, пазірае,
Нікога не чапае...

Г м ы р а к

Як сказаць!

П е р ш а я Д з я ў ч ы н а

От, дзецюкі, змяшалі пекла з раем.

Д р у г а я Д з я ў ч ы н а

Ды ну яго! Давайце лепш скакаць...

Студэнт-Медык бярэ ў рукі гармонік. Хвіліна — і ўсё завірылася ў танцы. Чуюцца выкрыкі: «А ў нас на Лідчыне!», «А па Міншчыне во так...» Рэзкі стук у дзверы перапыняе музыку. Алаіза, якая толькі што дастала з сумачкі лісток паперы, трывожна глядзіць на дзверы. Гмырак падбягае да яе і хавае лісток пад чэрап, У пакой уваходзяць Следчы і Жандар.

Следчы

Ах, прабачаюся. Здаецца, што не ў час?
Прашу не хвалявацца. Мы да вас,
Пачуўшы музыку, пагрэцца зазірнулі.
Люблю пародны дух. Частушкі... Гулі...
*(Да Жандара.)*

Прэч, даражэнькі. Скачуць — і няхай!

Пасля выхаду з пакоя Жандара Следчы спыняецца перад чэрапам. Алаіза замірае, але, гідліва скрывіўшыся, госць адыходзіць ад тумбачкі.

Што, духаў выклікаеце?

Гмырак

Ага!

Следчы

А вы, здаецца, з Вільні?

Гмырак

Проша пана...

Следчы

Ўсё цешыцеся? А смяяцца рана.

Гмырак

Ах, ваша благароддзе...

Следчы

З вамі ў Вільні,
Ох, чую я, сустрэцца мы павінны.
Мяне туды на службу пераводзяць.

Гмырак

А я пры чым тут, ваша благароддзе?

Следчы

Дык духаў выклікаеце, панове?

А л а і з а

А хоць бы й так, то што?

С л е д ч ы

Лаўлю на слове.
І з кім паненка раіцца хацела?

А л а і з а

А з Багушэвічам.

С л е д ч ы

Францішкам?

С т у д э н т - м е д ы к

*(Здзіўлена прысвіснуў.)*

Вось дык дзела!

А л а і з а

І з Каліноўскім! Трэба ж запытаць...

С л е д ч ы

Як новы бунт мужыцкі абкатаць?
Такое зараз модна...

А л а і з а

Гнеў народны...

С л е д ч ы

Прабачце, пераб’ю. Які народ
Вы маеце на ўвазе?

А л а і з а

Беларускі!

С л е д ч ы

І межы дробныя, і шлях ваш, знаю, вузкі,
Не йдзе да сонца прымагільны крот!

А л а і з а

І ўсё-такі народ ён, мой народ.

С л е д ч ы

Ад маладзенькай думкі захмялелі
І бачыце, што бачыць бы хацелі,
Але не тое, што на справе ёсць.

Г м ы р а к

Ці ж гэтак спрэчку пачалі, шаноўны госць?

С л е д ч ы

Вітаю дзёрзкіх! Але мне — пара.

С л е д ч ы хутка выходзіць.

П е р ш а я Д з я ў ч ы н а

Ух! Як з плячэй звалілася гара!

Д р у г а я Д з я ў ч ы н а

Не, лепш зайграць! Аж цела занямела.

Г м ы р а к

*(Дастае з-пад чэрапа лісток паперы і паварочваецца да Алаізы.)*

Ты нешта прачытаць яшчэ хацела?

А л а і з а

Ды проста вершык. Ат, сентыментальны.
А прыйдзе вось такі жандар квартальны,
Так увап'еецца джалам у душу,
Што зразумееш,— не аб тым пішу!
А трэба так пісаць, ох, так пісаць,
Каб іскры з цвёрдых сэрцаў выкрасаць.
Мы паклянёмся, брацці, маладосцю,
Каханнем, болем, матчынай слязой,—
Не нацячэм пад страшны бот расой,
Не закрычым, калі раструшчаць косці.
Не разальёмся слінай і смалой,
Ва ўтульнасць пораў мудра не заб'ёмся!
Служыць народу роднаму клянёмся,
Падняўшы лёс айчыны над зямлёй!

Г м ы р а к

Яшчэ кахаць нягасная пара...

С т у д э н т - м е д ы к

Яшчэ такія маладыя клятвы...

П е р ш а я Д з я ў ч ы п а

Нібы няма ні турмаў, ні цара...

Д р у г а я Д з я ў ч ы н а

Страшней за ўсё уласных страхаў краты.

Гмырак

Апошні год, як мы у Пецярбурзе.
Вось адвучуся хутка і збяруся...

Першая Дзяўчына

На службу, пэўна?

Гмырак

Трэба ж працаваць.
Быў час — я браў. Пара і аддаваць.

Другая Дзяўчыпа

От сядзеш за зялёнае сукно...

Студэнт-медык

Вастрыць алоўкі, зіркаць у акно.

Першая Дзяўчыпа

Унь колькі развялі пустой паперы,
Абклеены усе слупы і дзверы.

Другая Дзяўчына

Аднак парадак, бы ў старцовай торбе!

Першая Дзяўчына

Ну, не кажыце, Гмырак нешта зробе!

Гмырак

Мяне не зломяць! І скажу вам шчыра:
Сярод мышэй у шэранькіх мундзірах
Не ўседжу! Не... Мне б на завод, у справу.
Раз адвучыўся, то не для забавы.
Паслухай, Алаіза...

Алаіза

Што, мой родны?

Гмырак

Са мной ты згодна?

Алаіза

Ну, вядома, згодна...

Гмырак

Дык не забудзеш?

А л а і з а

Я? Няўжо не знаеш,
Як сэрца маё вернае кахае?
Андрэй, пішы! Пішы мне ўсе гады.

С т у д э н т - м е д ы к

Аж тры гады?

А л а і з а

...Па адрасе: вішнёвыя сады,
Завулак першацветаў і надзей!
Запомніў, родны!

Г м ы р а к

Хутка час ідзе...

А л а і з а

Так непазбежна, як вясной трава,
Расце наш дух, празрысты з маладосці.
О, зберажыце птушку хараства,
Пачаўшы шлях да першай страты ў госці.

Ступіўшы крок да старасці і крам,
О, не згубіце светлую адкрытасць.
У бескарысна сэрца, ты не храм,
А поле, дзе вятры ламаюць жыта.

І кожны з нас,— о, не згубі сябе,
І роспач мар, і выбух летуценняў.
Ці ж можна стаць наіўней і слабей,
Перад любоўю ўпаўшы на калені?!

Раскрыліш рукі — не нагадвай крыж,
Калі, адбыўшы смерці ўсе і звады,
На дне гадоў ну вось і ты стаіш
І ведаеш: няма ніводнай страты!

Гмырак абдымае Алаізу. Студэнт-медык пацягнуўся да гармоніка. І зноў гучыць музыка.

## ЧАСТКА ПЕРШАЯ

Лістапад 1905 года. Невялікае прыстанцыйнае мястэчка Нова-Вілейка пад Вільняй, дае жыве і працуе Алаіза Пашкевіч. Перыяд новай хвалі рэвалюцыйных выступленняў рабочых.

У глыбіні парку невялікі флігель, якраз непадалёку ад галоўнага корпуса псіхіятрычнай лячэбніцы. Пакойчык Алаізы. Упрытык — ложак і тумбачка. Акрамя Алаізы ў пакоі прыбіральшчыца Зося Лістоўская.

Зося

*(Ціха спявае песню, у якой усхваляваная Алаіза пазнае свой верш.)*

Хацела б быць зярном пшаніцы,
Упасць па ніўкі вёскі,
Зазалаціцца, без мятліцы
Даць хлеб смачнейшы трошкі.
Хацела б быць я рэчкай быстрай,
Аббегчы родны край!
Дзе папаіць, а дзе скупаць,
А дзе ўтуліцца ў гай...

Алаіза

І вырасці, і жыць, і ўмерці з песняй...
Вось так душу раскрыліць напрадвесні,
Крычаць:
не спі, народ, спявай яшчэ!

Зося

Хоць не агонь, а песня ўсіх пячэ,—
Пра казака, пра месячык, вярбіну,
Як разарваў мядзведзь малога сына,
Пра гаспадарку, жыта, птушку,—
знаеш,
Вось так пяеш, як сам сябе хаваеш
І зноў на белым свеце ўваскрасаеш,
Ці як гаворыш з дзеткамі малымі ты,
Жывымі-роджанымі ці ў магілкі збытымі...
От завядзеш пра ўсё, што ёсць і будзе,
І сэрца, праўда ваша, ажыве...

Алаіза

І памяць страцілі б, і адзічэлі б людзі,
Каб песень тых не стала ў галаве...

З о с я

А я дык знаю песні пра любоў,
От вам, паненка, праспявала б зноў,
Але, як бачу, нешта вам трывожна.
Не варта й пачынаць...

А л а і з а

Ды што вы, можна...
Я не баюся самых горкіх слоў...
Ах, Зося, Зося, кажаш — пра любоў!
Што ж, песень можна многа праспяваць...
І я любіла некалі... Чакаць
Клялася я... І мне тады кляліся...

З о с я

Але падзеі, бачу, не збыліся?

А л а і з а

Бывае лёс, нібы зіма, халодны!
Ды ў кожнага з нас ёсць куточак родны.

З о с я

І маці ёсць. Для маці вы — дачушка,
Для роднай хаты вы — малая птушка.

А л а і з а

А знаеш, Зося, мне цяпер даволі
І кветкі той, што расцвітае ў полі.
Яна ў душы не сохне і не вяне...
Што б ні было — Радзіма не падмане.

З о с я

І я кажу: і песня, і ралля...
Ўсё чалавеку спее спакваля...

А л а і з а

Ты нібы молат грукаеш, зямля,
На скронях вечнасці... І я з твайго камля,
З тваіх бунтарскіх, незламаных крыл,
З тваіх цвятоў і ссушаных магіл,
З твайго крыжа, з рабра тваёй пакуты.
Да зор і хлеба мы з табой прыкуты.
Мая крыніца — у тваёй рацэ.
Мая слязіна — на тваёй шчацэ.
Вяночак шлюбны мне звівае воран,

Ах, родны воран, як ты чоран-чоран...
Ці захаплюся готыкаю Рыма,
Нямецкі, шведскі... Ўсюды розны люд.
Ды дзе ні будзем —
ёсць нядрэнны суд:
На васільках распятая радзіма.
Зямелька родная, са мной ты жджэш абняцца,
Ўдыхні ж крыло і дай мне так падняцца,
Каб паляцець і біцца ў вокны, дзверы
І кроў разліць па вёсках і паперы.
Ля тых прысадаў, ясеняў ды ліпак,
Рассыпаць косці, нібы песні скрыпак.
Сказаць спакойна: не баюся смерці,
Я так любіла, што не грэх памерці,
Любіла так, што не хаваю праўды,
Але здрыгаўся і ў трупе ад здрады.
А ты, кабета, паспявай яшчэ...

З о с я

Ды што там песня... Нас жыццё пячэ.
Аж цела шорхне, колькі ўсюд пакут,
Але нідзе не страшна так, як тут.
Спытаюся паненку, калі можна,—
Няўжо вы самі так неасцярожна
Прыйшлі сюды? То ж горай, ніж турма!
Хіба работы лепшае няма?
Вучыліся ж у Пецярбурзе самым.
Там, кажуць, розныя гатэлі,
пекны дамы...
А гаспадара...
І вось — вар'яцкі дом!

А л а і з а

А я не каюся. Прыйшла я ў ваш Садом
Да тых, хто ўжо з нядолі скамянеў.
Яны чакаюць помачы ў мяне.

З о с я

Яно й вядома. Што тут кошык плесці?

А л а і з а

Ім вочы ўжо на белы свет не звесці,
Бо задзівіліся яны ў сваю душу.

З о с я

Іх душы ўмерлі, от што я скажу.

Алаіза

О так, гаротныя. Затое для хаўрус
Ужо няма для іх зямных спакус.
Пра славу, грошы,
зайздрасць — анігадкі!

Зося

Вар'яцкі дом — вар'яцкія парадкі.

Алаіза

А ты работай чорнаю лятаеш.

Зося

Смяецеся вы. Смелая такая...

Алаіза

Ды не смяюся. Мне не страшна тут.
Мне страшна там, дзе баль тых пышных дам,
Дзе лоб гранітны пад арлом кукарды,
Дзе ўсё з кляймом распусты і пагарды.
Сам цар пускае кроў нам... П'е з бакала.
Ах, рубіновы колер, нож, пальчаткі...
Вар'яцкі свет — вар'яцкія парадкі.
Унь, бачыш, лесвіца.
Ажно кішыць — народу.
І ўсе наверх, і ўсе па ўзнагароду.
Як сліна, грошы там цякуць,— аж гадка.
Там славы поручні адглянцаваны гладка,
Там звады, плёткі, збэшчаныя целы...
Як многа чорнага на свеце нашым белым

Зося

Маўчы, паненка...

Алаіза

З тых прыступак, Зося,
Людзей сумленных быццам бура зносіць.
Жывём заўсёды сэрцам альбо страхам,
Народу служым ці сваім манархам.

Алаіза не заўважае, як Зося бярэ з шуфляды стала стосік лістовак.
У пакой ціха заходзіць Андрэй Гмырак, жандарскі афіцэр, які нядаўна прыбыў у мястэчка з Вільні. Але цяпер ён у старым студэнцкім мундзірчыку. Абдымае Алаізу. Зося імгненна знікае.

Г м ы р а к

Ты атрымала ліст?

А л а і з а

Яшчэ заўчора.
Ды вось не ведаю: на шчасце ці на гора?!

Г м ы р а к

Не трэба...

А л а і з а

А ты помніш дзень апошні?

Г м ы р а к

Здаецца, што прайшло гады са тры?..

А л а і з а

Быў лістапад, як сёння, па двары.
Ўжо іней натапырваўся на пожні.
Сказаў: не любіш!

Г м ы р а к

Быў такі дурны...

А л а і з а

І ўсё ўва мне тады заледзянела.

Г м ы р а к

Быў малады, кажу... Ды ўсе гады
Мая сляза ў тваё акно ляцела.

А л а і з а

Цяпер лісты мне страшна перачытваць,
Бо што ні кропка, то замерлі.! боль.
Лісты, лісты... Іх сумна перапытваць,
Ці так яно было ў мяне з табой?

Г м ы р а к

Прызнаюся, не раз рашаў: канец.
І раптам успамін, як твой ганец,
Пастукае парой начною: годзе!
Ты што надумаў, ваша благароддзе?
Жартую? Так!.. Смяяўся б у астанне,
Каб не было са мной твайго кахання,

А л а і з а

Так доўга я маўчала, што ўсур'ёз
Падумаў нехта: абдзяліў нас лёс.
Маўляў, з табой зусім я не сустрэлася.
Не абпалілася навек, не адагрэлася,
Не адпалала зорнымі прытулкамі,
Не скамянела па чужой вярсце...
Сторукі грэх... Ён праз мяне расце
Балюча так, галінамі і вулкамі.
І я пайду па вуліцах кахання,
Агонь садоў наіўна абміну,
І прадзед мой, што з-пад камення ўстане,
Мне паглядзіць з трывогаю ў спіну.
Ці лёгка ўжо, ці трудна, хоць ты ў пельку,
Ці ўжо душа з адных пустых вуглоў,
Што ж дрыжаць і сыплюцца ў зямельку
Сухія костачкі усіх пяшчотных слоў.
Што наракаць?! І так для пчолак-словаў
Мы залатымі ліпамі цвіцём,
Каб так пісаць, як жыць і быць — нанова,
І паміраць нанова ўсім жыццём.
*(Гмырак цалуе Алаізу.)*
Прашу, не руш. Ці ж лёгка ўсё забыць?
Няхай само паціху адбаліць.
Вось як пабачыла цябе — і горка, знаеш,
Нібы ў жыццё
кахання труп вяртаеш.
Адно сляза па дне вачэй звініць.

Г м ы р а к

Я зноў з табой і зноў — у тым агні!

А л а і з а

Маўчы, Андрэй...
*(Раптам гарэзліва ўскідвае бровы.)*
От чым жа не дурніца,—
Мне б гэтым часам госця пакарміць.

Г м ы р а к

Ну дай мне сон, харошы сон дасніць...

А л а і з а

Харошы сон яшчэ ў жыцці дасніцца.

Г м ы р а к

Ты нешта сёння сумная нібыта?

А л а і з а

Я ўся нібыта як жыццём забыта.
Штодня пакуты — мой партрэт зямны.
І не пытай, якія бачу сны.

Г м ы р а к

Якія сны? А дзёрзкія яны.
Лістоўкі... Забастоўкі... «Сацылісты»!
Вось я, дык праўда, год з-за вас не сплю!

А л а і з а

Андрэй, ты што? Было: ў юнацтве чыстым...

Г м ы р а к

Не за ўспаміны я цябе люблю.

А л а і з а

Ці ты забыў пра клятвы ў Пецярбурзе
Быць верным і айчыне, і сябрам?

Г м ы р а к

А я й цяпер, каханая, клянуся,
Але — табе. І трошачкі царам...

А л а і з а

Якім?

Г м ы р а к

А тым... Нябеснаму... Зямному...

А л а і з а

Але ж ты сам...

Г м ы р а к

А што я сам? Было:
Ў студэнцтве ў дэманстрацыі вяло,
Ў турме сядзеў... Але з сяброў, дальбог,
Тады ў бядзе ніхто не дапамог.
Так аб сяброўстве, помню, дбаў каторы
І раптам засіпеў, як гад з разоры.
А так, было ж, ён гнуў патрыятычна,
А тут з пагардай:
— Гэты... Палітычны!

Прабач, каханая, я стаў сабе чужы,
Калі мяне праткнулі іх нажы.
І я падумаў: лепш турма і путы
Ці лепш няхай сам цар пячонку рве,
Але няма страшней тае пакуты,
Калі цябе зацкоўваюць свае.

А л а і з а

Каго сваімі ты назваў? Дарма!
Ды то ж, павер, мяшчанская гурма,
У рэвалюцыю гуляюць, у айчыну,
А думаюць пра ўласную адрыну.
Ніколі б не падумала, прызнацца,
Што й на радзіме можна нажывацца,
Па барацьбе, на шчасці для народа,
На тым святым, што мы завём: «Свабода!»
Вось нехта й ходзіць гордым змагаром,
Але датуль, пакуль не грымне гром.
Ды не пра іх тут... Я, Андрэй, пра тых,
Каго не зломяць турмы і драты!

Г м ы р а к

Як Вігілёў, напрыклад. Самы той,
Хто не баіцца ні рукі крутой,
Ні суддзяў царскіх!

А л а і з а

Штось не разумею...
Дзе, ад каго ты чуў пра ўсё, Андрэй?

Г м ы р а к

А я — жандар! Цару служу.

А л а і з а

Андрэю?

Г м ы р а к

А ты мне вер. Ты вер і зразумей.
Такі наш час, што выслужыцца ўмей.
Такога дачакаўся ад сяброў,
Што лепей спадзявацца на цароў.
Здабудзь уладу — будзе ўсё тады,
От толькі так парвеш усе драты,
От толькі так з магутнасцю набытай
Прыткнешся сам да кормнага карыта...

Чаму б тады слабым не памагчы
Ці клятвы ўспомніць?
Што ж ты? Не маўчы...

А л а і з а

А як, Андрэй, сумленне?

Г м ы р а к

Дайце час.

А л а і з а

А вось цяпер? Ты, можа, здрадзіў нас?

Г м ы р а к

Ну, вось і дачакаўся я гаворкі,
І сам сабе, нібы палын той, горкі.

А л а і з а

І мне не соладка. І мне, мой родны, страшна.
Але пра што во дбае людства наша?
У панства лезуць, бы чарвя ў труну...
От нехта й думае: ўзлячу! Пасля вярну
Сумленне чыстае і добрае імя...
Ды ў чысціню вяртання больш няма.
Ідуць гады, і ты ідзеш наперад,
І раптам памяць калатне той дзень.
О як ён здоўжыцца тады, твой чорны цень,
Твае знябытыя Любоў, Надзея, Вера!
Ён прыйдзе, Час. Ён стукне ў сэрца строга,
Шпурне з вышынь да роднага парога,
Дзе бегалі ягняткі светлых душ...
Ды статак здох! Маленства больш не руш.
Куды ты пнуўся, што вакол? Зірні!
Сябе самому паспрабуй вярні.
Не ведаю, ці лёгка ўстаць з каленяў,
Ды не падняць стаптанага сумлення.

Г м ы р а к

Жандар я, знай! Ужо знайшоў і пограб,
Той самы, дзе схаваны шапірограф,
Там і лістоўкі ёсць, дзе вершык твой!

У пакой зазірае З о с я   Л а с т о ў с к а я .

Але не бойся... Усё я ўладжу...

А л а і з а

Стой!

Не веру...

Г м ы р а к

Алаіза, ну забудзем.
А хочаш — з’едзем у чужыя людзі.
Ўсё роўна тыя, хто пакпіў з мяне,
Цяпер і самі гнояцца ў турме.
А грошы? На дарогу досыць маю...

З о с я ціхенька зачыняе дзверы.

А л а і з а

Я разумець, здаецца, пачынаю.
Я здраду ў твар пазнала. І скажу —
Не руш, не руш, не руш мяне, прашу...

Г м ы р а к

Ды для цябе ж стараўся я, павер.
І што за гвалт? Усюды ж так цяпер.

А л а і з а

Закон спажывы і закон хлусні?!

Г м ы р а к

Судзіць не час. Пільней сама зірні...
Не я, а ты стаеш усім чужой.

А л а і з а

Глядзім вачамі, бачым жа душой.
Хто заўважае толькі пыху ценяў,
Канвульсіі страсцей, смурод гніення!
Калі б між бруду кветкі не раслі,
Усё святое знікла б на зямлі.
Узлёты крылаў мы пачнём з адчаю...

Г м ы р а к

Не трэба болей. Што ж, няхай звычайны,
Няхай я просты, як і ўсюды людзі.
Надзейны я. За гэткае не судзяць.
Хоць не фанатык, не мудрэц, а знаю:
Прэбудзе ўсё, як ёсць, у нашым краі.

А л а і з а

Прэбудзе? Так! Агонь, любоў, узлёт!
Мая зямля прэбудзе назаўсёды.

Ёсць людзі розныя…
Пры чым жа тут парод?
Адным крыло, другім, як шчыт, вароты.

Г м ы р а к

А служба як?

А л а і з а

Падняцца ў службе лёгка,
Ўсё топчучы нагамі, можа лёкай,
Але не сокал!

А л а і з а выбягае з пакоя.

Г м ы р а к

Такія нечаканасці… Як міла!
Што ж, гаспадынька, добра накарміла,
І дзякуй за навуку і прызнанне…
Ало чакай, ці ж на маім не стане?!

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

На новай кватэры А н д р э я Г м ы р а к а, ужо апранутага ў афіцэрскі мундзір, двое гасцей — мясцовы заводчык П о с е л ь і С л е д ч ы з Вільні. Абодва немаладыя, заклапочаныя. Па стале гарэлка і кілішкі, чырвоныя, як аблітыя крывёю, яблыкі.

П о с е л ь

А вы, прызнацца, прыбылі дарэчы.
У мястэчку нашым столькі калатнечы,
Што ходзіш тут, нібы па топкім лёдзе.
Як ачмурэў парод у гэтым годзе:
«Далоў лейб-катаў царскага урада,
Далоў цара, ўсяе Расіі ката!»
Калі ў мазгах гарэлка і пратэсты,
То што, скажыце, зменяць маніфесты?
Страляць — не выхад!

С л е д ч ы

Можа, й праўда, шкодзіць.

Г м ы р а к

Лейб-каты... Трэба ж гэткае ў народзе...
А мы страляем. Кулям што? А мне?..

П о с е л ь

А кажуць — вы ў турме...

Г м ы р а к

Што я ў турме?

П о с е л ь

Ды глупства гэта, ведаеце... Лепш,
Панове, пакажу вам зараз верш.
*(Дастае з кішэні лістоўку.)*
Бунтарска-модны, па тутэйшай мове.
Сядло Пегаса — гэткай во карове.
Лістоўкі, забастоўкі, стрэльбы... Жах!
Распяць бы гадаўку па ўсіх,
як ёсць, крыжах!

С л е д ч ы

Каго, прабачце, мову ці карову?

П о с е л ь

Шэршэ ля фам! І не тлуміце глову.
Лепш слухайце:
«Трэба шроту, бомбаў, стрэльбаў,
Трэба біць нам гэтых шэльмаў,
Трэ злізаць усіх міністраў,
Бюракратаў, антыхрыстаў.
Чую яшчэ голас з неба:
«Што цара павесіць трэба!»
І так далей... Яшчэ з тае зімы.

С л е д ч ы

Што ж, нехта дачакаецца турмы.
Вы намякнулі, быццам ёсць прычына
Нам думаць, што пісала ўсё жанчына?

П о с е л ь

Што намякаць? Даходзяць чуткі знізу.
Ківаюць па Пашкевіч Алаізу,
На фельчарку... Яна тут даўнавата...
*(Заўважыўшы, што Гмырак збялеў, замаўкае.)*

С л е д ч ы

Тут не паненкі, тут пяро вар'ята.
І замуж не ідуць, і не раджаюць,
Манарху белай ручкай пагражаюць.
Час разабрацца!

*(Падымае кілішак з гарэлкай.)*

Зрэшты, будзьма! Што ўжо...
Цяпер пра справы паталкуем, можа?

П о с е л ь

Ёсць завадатар на маім заводзе,—
Хоць маладзён, а як курок на ўзводзе.
Кайлюнас Восіп, бесція... Смаркач жа,
А як вузлы тых забастовак вяжа!
Вядома, нежанаты, малады...
Ў каго сям'я ды дзеці, той тады
Падумае не раз... Дый тут няпроста:
Кайлюнас сватаўся, хадзіў да Шахвароста,
Такі чыгуначнік ёсць. І вось тую Галю
Паблізу станцыі, пад носам... зганьбавалі!
Саромелася клікаць дапамогу...

Г м ы р а к

І хто насільнік?

П о с е л ь

*(Тэатральна падымае рукі.)*

То вядома богу!

С л е д ч ы

Таму я й тут. А дзеўку, як наліха,
Завезлі ўжо ў лячэбніцу для псіхаў.
Нервовы стрэс! І вашай паэтка
Глядзіць за ёй, як за сястрой, што рэдка
Бывае ў час наш. Бо й за дробязь плоцяць!
А тут — без грошай. Па сваёй ахвоце...

Г м ы р а к

А што Кайлюнас?

П о с е л ь

Неданосак гэты?..
Чакае, любіць... Бедная Джульета!

С л е д ч ы

Не блытайце! Афелія... З народа!
Амаль што сімвалічная свабода!

П о с е л ь моўчкі развітваецца і выходзіць. Следчы насцярожана пазірае яму ўслед.

Здаецца, я й набраўся пакрысе?
І ляпаў абы-што?.. Ўсё данясе!

Г м ы р а к

Цікавы чалавечак.

С л е д ч ы

Цур мяне!
Жахлівы год. І ўсё — ў жахлівым сне.

Застаўшыся з Гмыраком, Следчы пачынае нецярпліва мераць пакой крокамі. Адчуваецца, што ён нечым вельмі незадаволены. Гмырак апускае галаву.

С л е д ч ы

Я столькі жыў, што ведаю цяпер:
Ніколі да канца пі ў чым не вер
Таму, хто схлусіў, а тым болей здрадзіў...

Г м ы р а к

Вось трэці год...

С л е д ч ы

А вы ў маёй уладзе!
І ўпэўненасці ўсё ж яшчэ няма.
Я вам памог. І, каюся, дарма.

Г м ы р а к

Звычайна прадаюць душу ў карчме,
А я папаўся ў віленскай турме.
Я ваш цяпер, няма ўжо з пасткі выйсця.
Але скажыце, што з таго карысці
Мяне вось так душыць мундзірам, страхам,
Каб стала ўсё ўнутры абрыдлым прахам?
Я ўсё прадаў і ўсіх. Чаго ж яшчэ?
Купцы сумлення, што яшчэ пячэ?
Няма — мяне!

С л е д ч ы

І ныць няма прычыны.
Разгаварыліся. Ды, зрэшты, й не па чыне.

Зусім не я вучыў вас забіваць.
Ніхто не знае... Дый адкуль ім знаць,
Што гэта ж вы таго гарадавога...

Г м ы р а к

Не вінаваты я, бо першы ж — ён...

С л е д ч ы

Ох, многа
Я мог бы расказаць тады суддзі.
Тут не ў турму, а ўжо ў Сібір вядзі.
А як пакутна, горда, артыстычна
Вы неслі, помню, німб свой палітычны.

Г м ы р а к

Пры чым тут гэта?

С л е д ч ы

Можа, й пі пры чым?!
Ах, «дым айчыны»! Выесць вочы дым...
Я ўсё зрабіў вам, пане афіцэр.
Пара цяпер аддзячыць за давер.

Г н ы р а к

Не разумею... «Дым: айчыны»? Штосьці
Вы тоіце?

С л е д ч ы

Ды не, не я, а вы!
Ва ўцёкі кінуліся? Альбо, можа, ў госці
Вы жонку павязеце? Шлях крывы...
З такою службай...

Г м ы р а к

Ды якая жонка?!

С л е д ч ы

«Ах, мой парод, ах, бедная старонка!
Ах, пад царом... Павесім і цара!»

Г м ы р а к

Дык вы пра Алаізу?

С л е д ч ы

Знаць пара:
Спрадвеку турмы па такіх галосяць.

Не думайце, і мне пра ўсё даносяць.
Мы ім культуру, школы, моц дзяржавы,
А ім яшчэ й літаратурнай славы,
і волі хочацца, і хутарскіх царкоў,
Яшчэ й гісторыі... Каб цэлы рад вякоў!
Не эканоміка... Нацыянальны сверб,—
Вось рэвалюцый самы крэўны хлеб.

Г м ы р а к

Не згодзен, знаеце...
Культура, праўда, трэба,
Але спачатку дайце людзям хлеба.

С л е д ч ы

Ах, я ж забыў, што вы адсюль, тутэйшы,
Яшчэ й мінулага скуляк даволі свежы.
Калі б не маніфест нядаўні, то
Пашкевіч вашай я такіх сватоў
Паслаў бы сёння... Але што іх слаць!
І вам пара ўжо службу паказаць.
Пашкевіч... Панначка! А, бачыце, паэтка,
Хваробы нацыі. Прызнацца, вельмі рэдка
Такое сустракалася мне. Верце —
Вось ад такіх усе бунты на свеце.
За імі йдуць, ім моляцца, ім вераць.
Бывае, што за меч страшней папера.
Такіх не вешаць трэба, а купляць.
І не расстрэльваць.
Што ў агонь страляць?!

Г м ы р а к

Але знішчаць такіх павінен хто?

С л е д ч ы

Не цар, не мы, а іх народ уласны.
Хай сам сябе агонь пажрэ дачасна.
А рухнуць храмы — то жрацы ніхто.
А той паэтцы не вянок пакуты,
А дайце лаўры ганьбы ці распусты...
Але — чужой рукой!

Г м ы р а к

Ды нельга ж мне.

С л е д ч ы

Вы памыляецеся. Толькі вам. А не...
Што ж, суд узновіцца.
Пара ўсім ведаць праўду.
Так што падумайце. Паслухайце параду.
Не пазайздросціш гэтай вашай Цётцы...
Што ж, пагуляй, цялятка, на вяроўцы!

Заходзіць сонца. Андрэй Гмырак адзін. Сціскае галаву рукамі. Наплывае дзіўная мелодыя, што ў апошні час усё часцей трывожыць Гмырака. І яму зноў здаецца, што побач прысутнічае Цень Алаізы.

Ц е н ь   А л а і з ы

Уставай давідна. Я ж табе нарадзіла
Такую дачушку харошую. Чыстую, як сляза.
Дзевяць пеклаў-патопаў
І яшчэ дзевяць войнаў жахлівых
дачушкай хадзіла.
Мае ногі падбіты. Мае вочы даела раса.
Уставай давідна. Я ж табе нарадзіла
Такога хлопчыка дужага.
Дзеда за вусы скубе.
Дзевяць доўгіх стагоддзяў
І яшчэ дзевяць месяцаў сынам хадзіла.
Бачыш, у яго радзімка на ніжняй губе.
Як і ў цябе.
Уставай давідна. Я ж табе нарадзіла
І дачушку, і сына. І жыццё маладое, зірні!
У бараках, і турмах,
І ў высокім палацы любові я дзецьмі хадзіла.
Адцвіла, як лілея.
Адгарэла ў тыфозным, агні!

У пакой бокам праціскаецца З о с я   Л і с т о ў с к а я. Гмырак нібыта вырываецца з трызнення і, заўважыўшы госцю, хмурыць бровы.

Г м ы р а к

Ты што, шаноўная? Лістоўкі зноў? Ды дзякуй,
Ало цяпер карысці аніякай
Ад тых «лісткоў лятучых»... Гэта мала.

З о с я

Усё, што знала, пану я сказала.

Г м ы р а к

Даволі. Што тут бісер рассыпаю.
Твой сын яшчэ ў турме. Ды абяцаю,
Што ўсё зраблю як след, калі заслужыш.
А сын твой, помні, вінаваты дужа.
Яго чакае катарга, не меней.

З о с я

Пятрок, сынок мой... Верце, я калені
Паабдзірала, молячы за сына.

Г м ы р а к

Маліся, баба, будзе йшчэ прычына.
Цяпер скажы, а як там тая Галя
Кайлюнасава? Ну, што зганьбавалі?

З о с я

А так, нічога. Кажуць дактары,
Што лепшае ад котрае пары.
І бацька ўсе надзеі ускладае...

Г м ы р а к

На фельчарку?

З о с я

Ох, і цярпенне ж мае.
Глядзіць, як за сваёй. Ды кажуць людзі:
Было — мінула. Будзе ўсё, як будзе.

Г м ы р а к

Вер ці не вер — я знаю тую Галю.
Мне з Пецярбурга лекі тут прыслалі,
Хваробы ўсе вылечваюць як бач.
Падсып той Галі ў чай! Тады паслуга
Паможа сыну... Годзе ўжо, не плач!
Ну што за баба? Лекі ж — з Пецярбурга!
Ці, можа, думаеш, атрута тут?! Ага!
Вось не хапае нам з табой граха.

З о с я

Прызнацца, што й падумала.

Г м ы р а к

Ды годзе!

А як там фельчарка?
Што кажуць у народзе?

З о с я

А што? Такая панначка слабая.
Ўсё кашляе. А стапе гаварыць,
То так людзей вакол сябе збірае
І ўся гарыць... Ну чыста ўся гарыць.
Удасць кляне і тыя маніфесты,
Ідуць і з вёсак. Болей, чым на фэсты.
Такой во бомбу ў рукі дай, васпане,
То так шпурне, што і ў цара дастане.

Г м ы р а к

Ну й што ты думаеш? Якая тут прычына?
Чаму такое творыцца з жанчынай?

З о с я

А што яшчэ скажу... От як ляжыць
Яна на ложку... То такой бывае...
Ну, шэпча нешта. Вершыкі складае.
Смяецца, плача, ўся дрыжыць...

Г м ы р а к

Дык, можа быць,
Лячыцца трэба ёй, а не лячыць?
Ты думай, думай. Помні сына, Зося...
І лекі не забудзь...

З о с я

Мне зноў здалося...

Г м ы р а к

І каб ніхто не здолеў здагадацца!
Пра сына дбай... І досыць прытварацца!

Гмырак, як толькі за Л і с т о ў с к а й зачыняюцца дзверы, адразу ж неспакойна азіраецца, як бы прадчуваючы набліжэнне Ц е н ю А л а і з ы. У пакоі адразу ж цямнее. Але, можа, гэта толькі здаецца Гмыраку.

Ц е н ь А л а і з ы

Альбо ветрам абярнуся
Ды над светам пралячу,
Цёмным віхрам закручуся,
Ўверх на месяц заскачу...
«Хто ты, скуль ты, чаго хочаш,
Чаго выеш і шуміш?
То праз слёзы нам рагочаш,
То гарыш весь і дрыжыш?»

— Я пасланец, вецер буйны,
Прыляцеў на суд вас звацы!
У нас цёмна, край нам хмурны,
Ад цямноты людзі спяць.
Я там біўся, я там віўся,
Я ім хаты паламаў,
А ўсё ж такі не дабіўся,
Каб народ свой голас даў!..

Г м ы р а к
*(Нібыта ачуньвае.)*

Ёсць пацукі. Пацук я сам сабе.
Дыхнула смерцю ад тваёй пяшчоты.
Вунь чорны конь разрыў-траву скубе.
А ты не верыш, ты з мужыцкай цноты.
Ў табе жывуць эпохі тры сястры:
Надзея, Вера і Любоў... А сэрца...
Яно, маё, ў далоні іх сарвецца
І разарвецца, кволае, на тры.
Ды хіба ж мы не ведаем здаўна,
Якія ў іх суровыя абрысы?
Чые пакуты і чыя віна —
Любоў, Надзея, Вера Алаізы?
І пераржыць, і прадчуваць пара —
Мы з будучыні, Цётка, пілігрымы,
Дзе гінуць ад высокіх дум і спраў,
Як і ад здрады, толькі маладымі.

Ц е н ь А л а і з ы

Ёсць пацукі. Ёсць геніі радзімы...
Каго ты, будучыня, станеш зваць сваімі?

## ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

Невялікая лясная палянка паблізу станцыі. Тут адбудуцца ўсе падзеі гэтага доўгага халаднаватага дня. Паўсюль жоўта і барвяна ад калянага лісця. Каля бярозкі стаіць З о с я Л і с т о ў с к а я. Напружана прыслухваецца да крокаў. Яшчэ хвіліна — і перад ёю разнерваваны, незадаволены С л е д ч ы.

З о с я

Не злуй, паночку. Але ёсць прычына,
Каб вы сюды прыйшлі цяпер...

С л е д ч ы

Дарма!

З о с я

Але яна памерла ўжо... Галіна...
Атруцілася...

С л е д ч ы

Пэўна ж, не сама?
Баішся ты? І чым далей, тым болей?
А я цяпер скажу, што ўжо ніколі
Ты сына не пабачыш...

З о с я

Бойся бога!

С л е д ч ы

Няма ў багоў спагады да сляпога.
Чужою смерцю не ўратуеш сына,
З чужых касцей не вымуруеш рай.

З о с я

А лекі... З Пецярбурга да-

с л е д ч ы

Ох, жанчына...
Ўсё з нашых рук. І сына — не чакай.

З о с я

Нясцерпна чуць! Дык гэта мой, той грэх?
А як во жыць мне? Лепш забі, паночку!

С л е д ч ы

Адны смяюцца. Тыя ж — смерці хочуць.

З о с я

А каб жа й вам ды зажадаць памерці,
І вам — насіць чужую смерць да смерці.

Следчы

Хітруеш, баба! Знала ўсё сама...
Цяпер, калі на фельчарку не скажаш,
Не толькі сыну, і табе — турма!

З о с я

І вам таксама.

Следчы

Дзе ты што дакажаш?!
Рабі сваё спакойна. Нервы шкодзяць.
На фельчарку звярні ўсё пры народзе,
Ды гэтак слёзна, роспачна і шчыра...

Зося

А Гмырак — як?

Следчы

Л лекі хто даў?

Зося

Гмырак...

Следчы

Ну вось і кропка. І аб гэтым — годзе.
Ідзём адсюль. Раскажаш па дарозе.

Следчы з Зосяй Лістоўскай адыходзяць, не заўважыўшы, як сюды спяшаецца Алаіза. У яе руках кошык з лістоўкамі, прыкрыты зверху клятчастай баваўнянай хусткай. Па ўсім адчуваецца, што Алаіза некага чакае.

Алаіза

Сінякрылыя птушкі праляцелі праз долю,
Толькі чую ў світанні вятроў пугаўё.
О касцёр мой жаночы. Разарыцца — ніколі:
Я не плачу, хоць страшна мне. Гэта ж маё.

Сінягрудыя кветкі праз лёс прарастаюць.
Сівізна залатая, як снег, расце.
Пахкасць позіркаў любых. Туга маладая.
Я не плачу. І скрутна мне. Слёз не стае.

Сінявокія людзі мяне вінавацяць.
Трэба жыць, як жывецца. І нельга інакш.
Непрыкметна для ўсіх зарубцоўваю памяць.
Ад любові не плачуць. Радзіма, но плач...

Каля Алаізы спыняюцца двое: яшчэ не старая Жабрачка і Дзяўчынка, якая аж дрыжыць ад холаду. Алаіза падбягае і накідвае ёй па плечы хустку. Жабрачка памкнулася пацалаваць ёй руку, але Алаіза рэзка вызваліла яе.

Ж а б р а ч к а

За хустку дзякуй. Нам не трэба многа.
Цяпла, скарынку ды краёк парога.
А ў свет праз вокны глянуць — і не блізка!
Ні слоў, ні печы, ніката ў Марыські.
Вось так ідзеш, спяваеш, як губляеш
І маладосць, і горкі цвет калін...

А л а і з а

А хіба з песні словы не вымаеш?

Ж а б р а ч к а

Ці ж можна, доця, вырваць з долі клін?
Што разлюбілася, што сцерлася, што змылася.

А л а і з а

Не веру! Ў словы ўсё перамянілася.

Ж а б р а ч к а

У душы!

А л а і з а

Не! У кроў і жылы плоці.

Ж а б р а ч к а

Ў малітвы ціхія.

А л а і з а

У рэкі чыстай злосці.
У хлеб, святло, ў дабро людзей і гнеў.

Ж а б р а ч к а

І вучыш, маладая, ўжо мяне.

А л а і з а

Не я вучу, а раны мае.

Д з я ў ч ы н к а

Раны?

А л а і з а

Для іх не зёлкі, зоры пазбіраны.
Перабірала іх я, абмывала,
Ссыпала ў жорны, выціскала сок.

Ах, золата з тых зор даўно не стала,
А толькі жалю чорнага драбок.

Д з я ў ч ы н к а

А мы шукаем па дарогах болей.

Ж а б р а ч к а

Каменных сэрцаў, доця, нам даволі.
Іх не сагрэеш, хусткаю накрыўшы,
Не возьмеш іх, і рукі заламіўшы.

Блізка раздаецца стук дзятла. Алаіза ўздрыгвае, азіраецца. Дзяўчынка памкнулася аддаць ёй хустку.

А л а і з а

Акрыйся, родная.

Ж а б р а ч к а

А зябка ўсё ж, прызнацца.

Д з я ў ч ы н к а

Ты чуеш стук?

А л а і з а

А гэта ён, мой дзяцел.
Мой сувязны... Трывожна б'е наранку.
Каму ён стукае праз голлі і ствалы?
Якіх плямён самлелыя валы
Уздрыгваюць ад тых зямных вітанкаў?
Чые любоў,
нянавісць і прырода
Пульсуюць пад шпрыцамі каранёў?
Глыбокі боль сучаснага народа
Ідзе праз лес і травы да асноў.
Ідзе праз гукі і бярозак рукі,
Праз нашы крокі, праз мембрану дзён.
Пастукай, дзяцел, як жывуць унукі
І продкам як з глыбіняў свет відзён?
Гавораць мудра: повязь пакаленняў...
Але няма ні хвілі без крыві.
А ён, той дзяцел, б'е з вяршка
ў карэнне
На першай ноце вечнасці: жыві!

Жабрачка

Прарочыш свята, а свайго не знаеш —
Якую сёння страту прычакаеш.

Алаіза

Яшчэ ніхто ў жыцці не збыўся страт.

Жабрачка

Я прадчуваю! Чуеш?..

Алаіза

Ныць не варт!
Зусім не стогнам выдаем пакуты,
Калі ўжо слёзка льецца па шчацэ,
Яна з душы выносіць боль атруты...

Жабрачка

Ўтапіцца можна ў ёй, нібы ў рацэ.

Жабрачка з Дзяўчынкай ідуць з паляны. Зноў чуецца залішне гучны стук дзятла. Алаіза азіраецца. З-за дрэў да яе набліжаюцца энергічны русявы хлопец — Восіп Кайлюнас і рэвалюцыянер Барыс Вігілёў, з якім яна пазнаёмілася падчас рабочых дэманстрацый і выступленняў на віленскіх фабрыках і заводах. Вігілёў ледзь стрымлівае смех.

Вігілёў

А кажаш, што не блытаеш ніколі
Лясны, птушыны і людскі паролі.
Падумала — Кайлюнас? Дзе там! Дзяцел...

Алаіза

Ох, і падвёў мяне ты, шэры браце.
Ты знак наш дзе падслухаў?
Смех-то смехам...

Кайлюнас

Яму жандар сказаў. Той, што прыехаў.

Вігілёў

Ён, кажуць, многа ведае чаго.

Алаіза

Прашу, Барыс, не трэба пра яго.
Нас звязвае юнацтва.

Вігілёў

Бедны рыцар!

Алаіза

Не мог жа ён так хутка адмяніцца.

Кайлюнас

Прашу, не забывай пра справы нашы.

Алаіза

Я знаю, веру... Ён зусім інакшы.

Вігілёў

Але ж ты любіш...

Алаіза

Там бярэм, дзе трацім...

Вігілёў

І я люблю... Ты чуеш, зноў той дзяцел...

Кайлюнас

*(Зазірае ў кошык, бярэ адтуль лістоўкі.)*

Лістоўкі ёсць. І многа. Вось да месца.
Уся Вілейка заўтра скаланецца.
Спачатку забастуе наш завод,
А потым — біць па корчмах, каб народ
Не спойвалі, не гвалцілі нам думкі.
На мове куляў падвядзём рахункі
І выйдзем пад чырвонымі сцягамі.
Ці ж нам з царом лізацца ды з багамі?!

Алаіза

Т ўсё ж, каб неспадзеўкі не было,
Больш агітацыі! Народнае жніво
Завостранымі робіцца сярпамі.
Нас падтрымаюць людзі. Час — за намі!

Вігілёў

Яшчэ пякучай гаркатой палян
Мяне каліна цешыць маладая.
Адкуль такая ты, чаму такая,
Ты соль ці лекі для мужчынскіх ран?
Пры ўсёй зямлі прызнаюся: люблю!

Галублю сны, дзе ты ўжо гаспадарыш.
Я свет увесь наноў перараблю
З тваім пяшчотным, стрыманым: «таварыш».
Адкуль, скажы, ў табе такі агонь?

А л а і з а

Ты зноў жартуеш... Ды які агонь!
Народ мой просты, выпетраны, ўтомны,
Мой род здаўна вясёлы і скаромны,
Заношаны ў лугі, застагаваны,
Вякамі па жывым баранаваны.
Адкуль агонь з мужыцкай косткі чорнай?
А можа, продак дзікі, невучоны
Малюнак першы праменем тварыў
Но на ствале, не па сцяне пячорнай,
А на маім, прапраўнуцкім, рабры!

К а й л ю н а с

*(Пераводзіць здзіўлены позірк з Алаізы на Вігілёва.)*

Пара, чакаюць нас у Шахвароста.

В і г і л ё ў

Шпіка не вёў? Глядзі...

К а й л ю н а с

Ды я прахвоста
Сам задушу! Сядзяць, нібы краты...

В і г і л ё ў

Дык пойдзем да таварышаў.
*(Да Алаізы.)*
А ты?

А л а і з а

Пазней і я, Барыс. Людское вока
Глядзіць, бывае, вельмі ж неглыбока
І бачыць толькі мутную ваду.

К а й л ю н а с

Тады — да раніцы. Пара, Барыс.

В і г і л ё ў

Іду.

Застаўшыся на адзіноце, Алаіза пасумнела і глыбока задумалася аб сваім.

А л а і з а

Мая сініца — у чужой руцэ,
А мне ўсё спіцца неба, поўна крылаў.
Тых чорных броў, было, скруціла сіла,
Падняўшы раптам сэрца на прыцэл.
У сіло тых чорных броў мяне ўзялі,—
Не пераджыць і не перамяніцца.
З чужой рукі ляціць мая сініца,
Аж продкі б'юцца сэрцамі ў зямлі.

Азірнуўшыся, Алаіза бачыць А н д р э я Г м ы р а к а і спалохана ўскрыквае.

Г м ы р а к

Напэўна, не чакала рандэву?
Віжую, бачыш, тым вось і жыву.

А л а і з а

Сабачы нюх, сабачы дух і слых сабачы.

Г м ы р а к

Прашу цябе, давай пачнём іначай.
Калі б усё было ў мяне так проста,
Паслаў бы вечарком да Шахвароста.
Адным ударам — семярых. Ату!
Куды ты?

А л а і з а

Не трымай мяне. Пайду.

Г м ы р а к

Прашу ў апошне. Пашкадуй гады.
Люблю ж цябе. Дык з'едзем хоць куды.
Так надакучыла выслужвацца, змагацца.
Хачу не думаць, а кахаць, смяяцца.

А л а і з а

Апусташыць сябе ўсяго да дна.

Г м ы р а к

Ах, фанатычка. Ах, яна адна!
Ты думаеш, за пуп зямлю ўжо цап?
От крутанеш — і раб ужо не раб,
І цар не цар, і людзі ўжо не людзі?!
Не, лепей з'едзем і пра ўсё забудзем.

Алаіза

Той шлях пачнецца выплаканым небам
І прадчуваннямі, якіх няма страшней,
О ўсеагульнасць думак, рук і хлеба...
Усю мяне ў сябе ўвабрала глеба,
І рэкі растварылі ўсю мяне.
Пакінем, кажаш, мучыцца сумненнем
І дружна, разам бухнем па калені?
Памолімся цару, багам, капейцы...
Якія доўгія па ўсіх патрэбны лейцы!
Табе так проста схлусіць барацьбе,
Не сумнявайся: схлусіў сам сабе.
А здрадзіў ты: сабе, сябрам, жанчыне,
Не сумнявайся — здраджваеш айчыне.
...О хоць бы дождж пайшоў на развітанне,
О хоць бы змыў сляды майго кахання.
Усеагульнасць, кажаш... Як дарэчы
З плячэй сваіх спіхнуць святыя рэчы!

Гмырак

Я не святы. І ёсць на ўсё прычыны.
Мы людзі. Ўсіх нас можна апраўдаць.
А так, як ты, жывуць цяпер жанчыны?!

Алаіза

Ў царкву ды пограб... Вось куды загнаць
Хацеў бы ты сястрыцу, маці, жонку
І ўсю маю жытнёвую старонку.
Цярпі і гніся. Дровы ў печ цягай.
Пад ногі мужу плазам ляж — няхай.
А што цяпла нам трэба — то дарма,
А што крывяніць доля — што за дзіва...
Калі да маці любасці няма,—
Не выжывем. Ні ўсе мы, ні радзіма.

Гмырак

Усё няпроста... І далей так будзе.

Алаіза

Я так чакаю моцную руку.
З апошніх сіл нясу любоў я людзям.
А ты чамусьці сёння убаку.

Гмырак

Мне б хлеба лусту альбо дзеўку тлусту...

А л а і з а

Шаткуеш, бачу, жарты, як капусту.
Кілішак — брацічак, ах, чарачка-сястра.
Ручка залатая, што да губы нясла.

Г м ы р а к

Ну што ж, ідзі. Кайлюнас там чакае.
Ты хочаш папярэдзіць, а не знаеш...
Няма ўжо Галі...

А л а і з а

Як гэта няма?

Г м ы р а к

А за атручванне, ты ж ведаеш сама...

А л а і з а

Атручванне? Пра што ты мне вярзеш?!

Г м ы р а к

Прыехаў Следчы. Што ж ты не ідзеш?!
І будзе суд. Як трэба для парадку.
Але не бойся, голаў не тлумі,
Ўжо чуткі йдуць, што ты сама вар'ятка.
Вар'ятам, знаеш, скідкі... Уяві!

А л а і з а

Ды што за суд?!

Г м ы р а к

*(З'едліва крывіцца.)*

А я жартую, знаеш...
Ці мала што язык памеле зноў!
Прывычна так... віжую, пагражаю,
Бо разумець нарэшце пачынаю,
О не, жыццё ўжо не пачаць наноў.
Я, можа, і памкнуўся б!

А л а і з а

Я з табой!

Г м ы р а к

Але за ўсё ў жыцці мы плоцім грозна,
Калі не смерцю, то ўсё роўна лёсам.

І сэрцам выпітым, і галавой сівой.
Мне не змяніцца болей…

А л а і з а

Ды чаму ж?

Г м ы р а к

Не трэба, Алаіза… Боль не руш.

А л а і з а

«Не трэба, Алаіза»… Ўсё не трэба.
Не дыхай, не пішы, не кратай хлеба.
Але найперш, напэўна, не кахай…
Мярцвее ўсё, чарсцвее ўсё… Няхай!

Г м ы р а к

Ты ўсё ўскладняеш. Усё табе не так.
Но так, як робяць воран ці храбак.
А мне прасцей бы і лягчэй бы мне,
Я ж не такі, як быў тады, раней.
Я дрэвам стаў. З мяне ідзе лістота.
Мае галіны сонца апячэ.
Ствалы-салдаты… Маршыруе рота!
А сок па скуры… Ах, як ён цячэ.
У валасах такія злыя гнёзды,
Хоць ашалей ад гвалту варання.
А ўкруг мяне ўсё сосны, сосны, сосны…
Жыву, як цар! І вось — мая гайня.
А ты ўсё судзіш. Кроў бунтуеш зноў.
Максімалістка!

А л а і з а

Хопіць марных слоў!
Віну ў сабе самім хоць раз шукаў ты?!
Напэўна ж не. Ўсё нехта вінаваты.
Ды зрікні, зрэшты!

Гмырак заўважае сцішаных за дрэвамі ж а н д а р а ў і С л е д ч а г а і адразу ж мяняецца, істэрычна павышае голас, каб яго ўсе пачулі.

Г м ы р а к

Знікну! На хвіліны…
А вы рыхтуйце волю для айчыны.

Але запомніце: наш бездакорны цэнз —
Знішчаць і целы, і духоўны сэнс.
Мы рукі цягнем нават праз вякі,
Мы служкі бога і цара. Мы ганчакі.
Мы бессмяротныя.
Мы вашым ценем станем.
Мы вас, паэтаў, і ў труне дастанем.
І абылжэм! Бо ўсе манархі знаюць:
Ў такіх, як вы, народы паміраюць.
Жрацы без храмаў — гэта не жрацы.
Не стане праўды — дзе ж вы, пасланцы?
Народ без будучыні — гэта шлак планеты,
Паэты без народа — не паэты!

Алаіза

Стаміў мяне ты... Ўжо аслеп, няйначай.
Мы радуемся, любім мы і плачам
З зямлёю роднай, з добрымі людзьмі.
Яны заступяцца. Вунь колькі іх, зірні!
А вось мая прырода маладая
Людскія лёсы голлямі гартае.
А вось дубы, бярозкі ды асіны,
Дрыготкі ліст, глыбокі след ласіны...
Ці журавы, курлы-курлы — ў палёт!
І гэта ўсё таксама мой народ...
Сцягі і крылы... Як яны шумяць!
І судзім мы! Ад іхняга імя.

Гмырак

Не зор шукаюць, а рыхляць гароды:
Цямней за ноч усе твае народы!

Алаіза

Ты хлусіш зноў... Мы людзі, не звяры!
Наш чалавек... Ён і зямны, і кніжны.
Ёсць прадзеды ў пас. Першадрукары,
Мы з імі зернем і сярпамі пішам.
Наш першы друк... Ён болем нас крануў.
І след яго не толькі на бяросце.
І ўбіўся знак свабоды і агню
Не ў хруст паперы, а ў людскія косці.
Мы ўсе з трывог, з адступнікаў і дрэў,
І служкі д’ябла ў праведных сутанах
Нас распіналі на гарачых ранах.

А белы свет... Ён нехаця дабрэў.
Вось попел наш. Ох, як палын расце.
О          як любілі нас, як забывалі.
Але з крылатых птушак і дзяцей
Мы з першым крыкам раптам ажывалі!
Мы з кніг зямных, мы з цвёрдага рабра,
За дух змагання сплочваем сурова.
І          кожны з нас гарыць на тых кастрах,
Дзе ўжо былі пароды, кнігі, словы.

Алаіза нарэшце са здзіўленнем убачыла блізка некалькі жандараў, памкнулася пайсці.

Гмырак

Куды ты?

Алаіза

Папярэдзіць!

Гмырак

Добра. Згода.
Я зразумеў,— ты там, ты — з барацьбой!
Не трэба плакаць над народам,
Паплач спачатку над сабой.

Каб прыпалохаць Алаізу, Гмырак выхапіў рэвальвер. Але па паляну з другога боку выбягаюць устрывожаныя людзі. Сярод іх Вігілёў, доктар Сільвановіч, Рабочыя, Зося Літоўская, Жабрачка з Дзяўчынкай. Перад Алаізай вырастае Следчы.

Следчы

Я мушу абшукаць вас, бо, прызнацца...

Вігілёў

Паасцярожней бы! Ці ж вам тут вытыркацца?!

Сталы Рабочы

Аслеп зусім, шпігун лядашчы,
Учапіўся во за хвост сабачы
І прэцца на дзіравы мост.

Малады Рабочы

Унізе рогі, зверху хвост.
От падлу ўсуну у гаршчок!

С л е д ч ы

Маўчаць!

М а л а д ы Р а б о ч ы

Ах, скулле табе ў бок!

С л е д ч ы

Вы пра атручванне не знаеце хіба?

С т а л ы Р а б о ч ы

Сабачая твая губа!

Гмырак з'едліва ўсміхаецца, убачыўшы, што да людзей спяшаецца В о с і п К а й л ю н а с. Ало цяпер яго цяжка пазнаць. Восіп спыняецца перад Алаізай.

С л е д ч ы

Калі спружыну закруціць як мае быць,
Падзеі час паможа раскруціць.
Ну, вось і суд. Пачнецца ўсё спачатку.

М а л а д ы Р а б о ч ы

Ды што за ліха?

С т а л ы Р а б о ч ы

Нешта не ў парадку.

К а й л ю н а с

Яна атручана, Галінка... Ты — вар'ятка!

М а л а д ы Р а б о ч ы

Адумайся! Ты пра каго так, Восіп?!

С т а л ы Р а б о ч ы

Ох, паламаны ў гэтым коле восі!

В і г і л ё ў

Пра забастоўку думаем, а тут...

К а й л ю н а с

Я навару сягоння ўсім атрут
І вып'ю першы...
*(Да Алаізы.)*
А пасля ўжо ты!

С л е д ч ы

Вяселле, бачу. Піць прыйшлі сваты!

Кайлюнас замахваецца па ледзь прытомную Алаізу, але да яго падбягае Зося Літоўская. Следчы імкнецца пераняць яе.

Глядзі мне, чуеш?!

З о с я

Не магу больш... Не!
Круціце Зосьцы рукі. Грэх на мне.
Хіба не бачыце: усе на небе хмары
З маёй слязы. Ох, як той гром ударыць!
А ўсюды кроў...
*(Паварочваецца да Следчага.)*

А вы ўсё б'еце, б'еце
І слёзы з твару сцерці не дасце.
Ці ж мы забойцы, маткі і сыны?!
Не я згубіла Галю, а яны...

С л е д ч ы

Што мелеш, баба?

В і г і л ё ў

Подлая улада.

Г м ы р а к

Хто ведае, дзе праўда, дзе няпраўда.

С т а л ы   Р а б о ч ы

Схавалі праўду у гаршчок,
Пусцілі ў горла храбачок.

В і г і л ё ў

Ва ўсе часы законы, нібы людзі,
Высакародныя яны ці подла блудзяць.

К а й л ю н а с
*(Стомлена ацірае твар рукою.)*

Ну вось і я падсечаны хлуснёй.
Мне цяжка, Алаіза, сам не свой.
Ты разумееш, ты ўсё сэрцам бачыш.
*(З нянавісцю глядзіць на Следчага.)*

Яны шукаюць маладых, гарачых
І судзяць нас глухім сваім судом,
У турмы пруць альбо ў вар'яцкі дом.
І гвалцяць лепшых, толькі самых лепшых,
А мы іх глухатой наіўна цешым...
Няма Галінкі — і мяне няма!

Алаіза

Не трэба, Восіп...

Кайлюнас

Ведаеш сама.

Малады Рабочы

...Ало дарма! Ніхто не спыніць сходку!

Алаіза

Хай захлынуцца ўсе цары паводкай.

Кайлюнас

Рабочая дружына нагатове.

Следчы

Спяшаецеся? Што ж, лаўлю па слове.

Гмырак

Мас жандары бралі й не такіх!

Алаіза

Сабачы нюх, сабачы дух, сабачы слых!
Я знаю, хто Галінку...

Гмырак

Досыць!

Алаіза

Ты!

Гмырак

Вяселле, кажаш?.. Піць прыйшлі сваты...

Бясцямны, падымае рэвальвер, страляе ў Алаізу, не заўважаючы, што якраз у гэты момант да яе падбегла Дзяўчынка з хусткай у руцэ. Дзяўчынка надае. Гмырак з вар'яцкім рогатам знікае за дрэвамі. Натоўп замірае. Над Дзяўчынкаю схіляюцца доктар Сільвановіч і медсястра з лячэбніцы.

М а л а д ы   Р а б о ч ы

Скажы што, доктар.

С і л ь в а н о в і ч

Кроў хачу спыніць.

С т а л ы   Р а б о ч ы

Дык не насмерць?

С і л ь в а н о в і ч

Надзея ёсць, здаецца.

*(Глядзіць на медсястру.)*

Хутчэй павязку. І ні кроплі піць.

С т а л ы   Р а б о ч ы

Дзяўчынка родная, скажы: баліць?

Д з я ў ч ы н к а

Баліць.

А л а і з а

Як мне такое сёння перажыць?

Ж а б р а ч к а

За хустку дзякуй. Нам не трэба многа.
Вады, скарынку ды краёк парога,
А ў свет з труны... Зрабіце ж хоць акенца!

К а й л ю н а с

Сягоння ўся Вілейка скаланецца.
Рабочая дружына нагатове.
Вы ў пас страляеце, а згінуць вам, панове!

Гэтак шалёна закруцілася вакол Алаізы барвовае лісце, гэтак сурова загучала дзіўная музыка, якую разпораз перарываюць выстралы. Сама восень 1905 года завірылася вакол паэтэсы. Сам Час прыхінае яе да сваіх грудзей. Знікаюць ж а н д а р ы. З паляны на насілках нясуць параненую Д з я ў ч ы н к у. У руках К а й л ю н а с а — сцяг. Услед за ім спяшаюцца ўзбуджаныя людзі.

А л а і з а

Віна мая ці лёс? Мне так баліць...
На тых насілках, можа быць, ляжыць
Свабода Паша. Кроў яе цячэ

Ў мяне і ў вас. І круціць пашы косці.
Ёсць вечны суд, што сэрцы нам пячэ.
Скажы, нашчадак, чым мы страты сплоцім?
Зямным каханнем? Дробная цана.
Здароўем? Што ж, хварэць гатова целам.
Але з цаной ці зроўніцца віна,—
Народ, як лес. Ды колькі дрэў струхлелых!
Ёсць рэвалюцый чыстая пара,
Сланечнік золатам сцягоў гарыць над тыпам.
Ці шчасцем проста мне ахвяраваць,
Каб ты, нашчадак, стаў мне верным сынам?!
Скажы — ты верны? Любіш свой народ?
Не зрокся маці? Немаўля ўжо — гушкаў?
Каб ты смялей ішоў з нары нягод,
Праз сто гадоў я нараджу дачушку.
Дачушка — зорка, будучыні міг!
Як трудна будзе перабыць прагрэсы...
Але здаўна для ўсіх дзяцей зямных
Вісіць калыска ў сэрцы паэтэсы.

*1984*

## З М Е С Т

### Спяшай, жыццё!


Ex libris — 4
Лісце — 5
Трыпціх — 5
Лес *(Трыпціх)* — 7
«Жанчыны ткуць...» — 8
Казачніца — 8
Паэзія — 9
Вясенняя мелодыя — 10
Балада палескай песні — 10
Чорны бусел — 12
Лота — 12
«Увысь імчаць на ўзлёце дня...» — 13
Чарэшня — 14


### Белы гром над маёй галавой...


«Белы гром над маёй галавой...» — 16
Еўдакіі Лось — 17
Тонеж — 17
«У спелай хмары чуйная патрэба...» — 18

«Звіні, мой свет...» — 19
Трыпціх надзеі — 20
Песня — 23
Арабіны — 24
Восеньскі матыў — 24
Трыпціх калыханкі — 25
Тыдзень гадзінніка — 28
З маладосці — 30
Цыганская экспрэсія — 30
Замова ветру — 31
Даўні верш: пра музыку... — 32
Рачны млын — 33
«На кароткім плячы жураўля...» — 33

## Ішлі на захад пехацінцы...

Медсястра — 36
Балада пра «Асенні сон» — 37
Памяць — 38
Удава — 38
Балада франтавога медаля — 39
Балада белай лілеі — 41
Чарацінка чакання *(Паэма)* — 43

## Мне кавалі пярсцёнак у кузні старой...

Пярсцёнак *(З паэмы «Кавалі»)* — 58
«Вачэй усмешку не схаваю...» — 59
Раслі... — 59
Л. — 60
Старая балада — 61

«На сустрэчу запальваем свечку...» — — 62
«На залатым асеннім лёдзе...» — 62
Перад агнём... — 63
«Ад белай сцежкі ў бездараж бягу...» — — 64
«Як востры водар мацыёлы...» — — 64
«Гэтак доўга забываю вас...» — — — — 65
Вячэрняе — 65
У верасні — — — — — — — — — •— 66
«Мы з кожным годам сірацелі...» — 67
«Было табою ўсё...» — — — — 67
«Палюбіць, калі ні ў чым не страшна...» — 68
«Перамелецца, перагарэніцца...» — — — 68
«Пласцінкі голас...» — — — — — 69
«Ну вось і я чакаю на адлігу...» — — — 69
«Пашлю за рэчку ўсё-ткі маладосць...» — 70
Ты помніш, Эванс, Крыт? — — — — — 70
«На самай звонкай поце...» — — — — — 72

## Такі разрыў са светам ёсць...

«Такі разрыў са светам ёсць...» — — — — 74
«Я цяпер, як даўней, маладая...» — — — 75
«Гудуць, як сны, вячэрнія званы...» — — 76
«Пяшчоце ўсёй мяшчанскай клікі...» — — 77
«Мілы паш сучасны дрывасек...» — — — 78
Жыццё — 78
Да прагрэсу — — — 79
Амаль жартам — — ___ — — — _ 80
Аповесць гутаперчавага хлопчыка — 82
«Няхай наш свет не зрушыцца нічым...» — 83
«Калі зноў па плячы...» — 84
Размова — 84
Трыпціх да паэтэс — — — — 86
«Вось і ўсё...» — — — — 89
Балада чорнага золата — — — — — — 90

# Прарока сон і боль прарочы...


Ноч перад... — — — — — — — — — — 96
Памяці Івана Мележа---------- — — — — — 97
Максіму Танку — — — — — — — — — 98
Сон у шпіталі — — — — — — — — — 99
Шлях Арыёна *(Містэрыя)* — — — — — 101
Выйду з сэрцам... *(Маналог)* — — — — 109
Суд Алаізы *(Драматычная паэма)* — — — 126

Коўтун В.
73 Лісты да цябе: Вершы, паэмы.— Мн.: Маст. літ., 1988.— 174 с., I л. партр.

ISBN 5-340-00131-8.

Ковтуи В. Письма к тебе. Стихи, поэмы.

Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Аркадзя Куляшова паэтэса Валянціна Коўтун уключыла ў гэтую кнігу лепшыя вершы і паэмы з раней выдадзеных кніг. Яе лірыка, пранізаная святлом высокіх духоўных парыванняў, звернутая да самых тонкіх інтымных пачуццяў, прыцягвае ўвагу чытачоў сваім імкненнем асэнсаваць незвычайныя драматычныя лёсы выдатных паэтаў-бунтароў розных эпох: Байрана, Цёткі, Купалы. Праз багатую сімволіку і метафарычнасць паэтэсе ўдаецца накіраваць чытацкую ўвагу да вострых праблем сучаснасці.

ББК 84Бел7

*Литературно-художественное издание*

К о в т у н Валентина Михайловна

*Письма к тебе*

*Стихи, поэмы*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**К о ў т у н Валянціна Міхайлаўна**

*Пісьмы да цябе*

*Вершы, паэмы*

Загадчык рэдакцыі Г. *С. Шупенька*
Рэдактар *В. М. Хлебавец*
Мастак *М. Р. Казлоў*
Мастацкі рэдактар *Л. Я. Прагін*
Тэхнічны рэдактар *Л. М. Шлапо*
Малодшы рэдактар *С. І. Расянчук*
Карэктар *І. М. Паланейчык*

ІБ № 2942
Здадзена ў набор 13.07.87. Падп. да друку 17.02.88. АТ 08537. Фармат 84Х90 $^{1}/_{32}$. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 7,70 + 0,09 вкл. Ум. фарб.-адб. 7,97. Ул.-выд. арк. 8,21. Тыраж 3000 экз. Зак. СОК. Цана 1 р. 10 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.